# Танк



# Выбранае

**Вершы**

*Мінск*
*«Мастацкая літаратура»*
*1993*

# ПАД НАРАЧАНСКІМ ЗНАКАМ

Я сустракаюся з імі позіркам амаль штодня (калі не бываю ў ад'ездзе), а то і двойчы, і тройчы на дзень: яны свецяцца з кніжнай паліцы сонечна-мядзвянай цеплынёй, стаяць грунтоўна, плячом да пляча — тамы Збору твораў Максіма Танка,— як нарачанскія сосны.

Я слухаю іх дыханне. Чую зялёны пошум крокаў, вечавы звон прасмоленых стрыжняў, ціхую, упартую, жыццядайную працу каранёў.

Я чую душу паэта. Яна — у кожным радку. Яна — як і «дзіўная родная мова» — выткана

З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,
З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага ззяння бурлівых крыніц,
З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго...

Мова і душа паэта,— што першасней, што вышэй? А можа, гэта — адно? Запісана ў Кнізе Кніг: спачатку было слова. А душа? Той дух, тая сіла касмічная, усясветная, што ўдыхнула ў чалавечыя вусны Слова? Слова без душы? Душа без слова? Іх нельга, іх немагчыма раз'яднаць.

Слова прарока — яго душа. А паколькі паэт — хоць трошкі ды прарок, а паэзія (калі яна сапраўдная, а не сімуляцыя словам) — хоць трошкі ды прароцтва, то адзінства гэтае тут змацавана тройчы, трыма хрэснымі знакамі. Тут слова без душы, як і душа без слова: могуць спарадзіць толькі хаос і д'ябальскую спакусу. Гэта духоўная смерць, небыццё. Як для асобнага чалавека, так і для цэлага народа. «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!» — папярэджваў і заклікаў Мацей Бурачок — славуты паэт-дэмакрат Францішак Багушэвіч — у той бяздушна-глухі час, калі слова беларускае насіла таўро царскай забароны, і гэты голас быў прадвесцем першага беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя.

Слова ратуе душу, душа ратуе слова.

І толькі што згаданы верш аб роднай мове быў прамоўлены Максімам Танкам таксама на мяжы жыцця і смерці: у 1943 годзе, калі на Беларусі палыхала крывавае зарыва вайны. Паэт глыбінна адчуў тую неспатольную сілу, якая ўратуе народ, узніме яго, з'яднае і дапаможа выстаяць перад любою навалай,— родная мова, душа яго — шчыт і надзея.

Сёння мы зноў апынуліся над абрывам адлучэння ад жыватворных крыніц народнага слова, народнага духу. Нацыянальнае бяспамяцтва і бязмоўе, падсушвае карані, вытручвае сілы грамадства. І сёння — праз паўстагоддзя — надзённа і заклічна гучаць словы Максіма Танка.

Так паэзія праходзіць праз час і прастору, застаючыся непадуладнаю ім і служачы толькі адзінаму Богу — сэрцу людскому. Бо і сама яна спараджэнне, праменьчык гэтага сэрца.

Народная светаўява і духаўгрунтаванне — асноватворная сутнасць паэзіі Максіма Танка. Ён вырас як чалавек, асоба, і вырасла яго слова на гэтай глебе. Вера ў працу як у падмурак усяго існага на зямлі, адчуванне прыроды як сілы тварэння і працаўніка як дзейнай і дзейснай часцінкі гэтае сілы выводзіць паэзію Максіма Танка — у лепшых яе праявах — на шляхі духоўнага ўсталявання чалавецтва і чалавечнасці ў гэтым свеце.

Толькі перад зярном,
Што прагне каласіцца,
Перад жалезам,
Што жыць на зямлі памагае,
Перад калясом,
Што развозіць песні і гасцінцы,
Перад іголкай,
Што мяхі і дружбу сшывае,
Перад дарогай,
Што вядзе да сонца,
Перад птушкай,
Што поміць дрэвы свайго гаю,
Перад вадой,
Што не замярзае ў палонцы,
Перад чалавекам,
Што праўды шукае,—
Будучыня.

Час правярае паэзію, дае, як апостал Пётра, ёй пропуск у вечнасць. Але найперш правяраецца яна сэрцам чытача, сэрцам чалавечым. Уладзімір Караткевіч, наш беларускі апостал, выбіраючы спадарожнікаў жыцця, назваў — побач з паэзіяй Купалы, Коласа, Багдановіча — паэзію Панчанкі і Танка. Гэты выбар, засведчаны вершам «Кнігі», варты па чалавечай значнасці сваёй многіх і многіх рэцэнзій і манаграфій. Такое прамаўляецца невыпадкова і не з нейкага кан'юнктурнага прымусу, а памкненнем усхваляванай душы і перакананнем узважанай сэрцам думкі.

«На этапах» — з кнігаю пад гэткай назвай выйшаў у літаратурны свет Максім Танк. Яе шчырым, захопленым словам вітаў выдатны знаўца, збіральнік і ахоўнік роднай песні Рыгор Раманавіч Шырма: «...гэтая маладая паэзія такая блізкая і зразумелая нам, ...ад яе вее свежым пахам чорных скібаў паднятай зямлі, сталёвымі адгалосамі звонкай касы, свежым подыхам ветру з-над Нарачы, які спрадвеку «палошчыць кашулю-дзяругу» нашай этапнай Беларусі».

Так, гэта былі этапы. Этапы заходнебеларускага вязня Лукішскай турмы, этапы да ўз'яднання шматпакутнай Беларусі, разрэзанай крываваю мяжой, мяжой, навязанай беларускаму народу чужой воляй і чужымі мэтамі. Этапы на шляху народа і этапы на шляху паэта — іх нямала

зазнаў, і жыццёвых, і літаратурных, Максім Танк. Былі дні горкія, былі дні радасныя. Але ніколі не было здрады народным ідэалам. Куды б ні прыводзіў, куды б ні закідваў лёс паэта — ён заўсёды і ва ўсім заставаўся тым, нарачанскім, хлопцам. У далёкіх землях, на незнаёмых дарогах паэзія Максіма Танка дыхае родным паветрам, яна і там — вельмі дамашняя. Вачыма, поўнымі захаплення, але так па-сялянску глядзіць паэт на юную манашку ў экзатычна-турысцкім Рыме: «...о, як бы жалі рукі такія... о, як кармілі б грудзі такія... — Ave Maria!..» І прыгадаем — дзеля параўнання — рукі з верша «Жыццё бабкі Улляны»: «...перад апошняю дарогай ніяк адмыць яе рук не маглі ад скіб зямлі, ад каласоў і сонца, ад пялёнак і ануч, ад чорных і распаленых гаршкоў... Глядзяць усе на рукі гэтыя, пасівераныя, парэпаныя, і заходзяцца плачам: бо як рукамі гэткімі ды ў дзверы раю грукаць!» Святыя рукі святой беларускай жанчыны... За імі, а дакладней, на іх, як на скрыжалях,— гісторыя і лёс — краіны, вёскі, сялянкі. Як і ў вось гэтай вершаванай навеле на 14 радкоў,— з характарамі двух равеснікаў-хлапцоў і маці, сын якой — адзін з гэтых двух — загінуў, а другі — стаіць, жывы, з вялікай чалавечай вінои і слухае — як пра гэта ўсё па-дзіцячы проста, няхітра і па-старэчы балюча думае-гаворыць маці: «Мне ўсё здаецца... што ён недзе схаваўся ў каноплях ці ў запечку, бо, калі быў малы, вельмі любіў з табой гуляць у хованкі»...

Немагчыма без захаплення гаварыць пра паэзію, як і нельга пераказаць, перакласці яе спеўную душу на «проста» словы. Гэтак нельга, да прыкладу, пераказаць і верш Максіма Танка «Пад елкай у дождж» — хоць сама паэтычная стыхія яго трымаецца на размоўнай плыні. Зноў жа — у вобразе ялінкі паўстае жыццё — са светлымі, шчымлівымі памкненнямі ў свет і наканаванай прывязанасцю да роднага кутка,— жыццё жанчыны-сялянкі. Такі верш не «раскладваецца» на цытаты. А таму — чытайма яго ад першых радкоў надзеі да апошніх, прасякнутых пачуццём еднасці з роднай зямлёю...

Шчаслівы той, хто сустрэўся з паэзіяй Максіма Танка. Многакрат шчаслівейшы, каму выпала сустракацца з самім паэтам. Яго натура літаральна выпраменьвае паэзію. У сяброўскай гамонцы, на пасяджэнні ці ў нейкім прэзідыуме сыпле і сыпле ён гатовымі паэтычнымі знаходкамі, як зернем са шчодрай жмені. Слухаеш і думаеш цішком: вырастуць з гэтых россыпаў каласы вершаваных радкоў ці, можа, так і разляцяцца ў космасе зорныя драбочкі паэтавай думкі і душы?.. І колькі тут гумару і дасціпнасці! Як вось у гэтым, класічна вядомым, вершы «Партрэт друга»:

Не адзін пуд солі разам з'елі мы.
Не адну цыгарку выкурылі мы,
Не адна атака апаліла нас,
Не адна і песня падружыла нас.
А прыслаў партрэт мне, і я ледзь пазнаў—
Хто цябе, мой дружа, так намаляваў?!
Ну, ці ж гэта чуб твой непакорны той,
Што з-пад шапкі віўся хваляй залатой?..
...Ну, а нос? Таксама шмат даўжэйшым быў,
З моцнай самакруткі дым пускаць любіў,
Франтавую кухню без памылкі мог

Адгадаць, ці блізка, ля якіх дарог.
Ну, а рот не помню, ты ці закрываў,
То ў паходзе першы песню запяваў,
То смяяўся звонка, то на ўвесь акоп
Зморaны ў часіны адпачынку хроп...

У стыхіі роднага слова паэзія Максіма Танка пачувае сябе нязмушана і вольна — ад узорна-адчаканеных рытмаў да размашыстага, неўтаймоўнага, але падуладнага аўтарскай задуме верлібра. Услухаемся: «Шум-гул у дуброве, звон-пыл на гасцінцы» — гэта едзе свята песні, едуць хлопцы і дзяўчаты; а гэта: «Люблю твае, Нарач, затокі і тоні, як вецер густыя туманы развесіць...» — гэта ўлоўленае слыхам паэта і ўзноўленае словам гайданне, мерны раскалых нарачанскае хвалі, што набліжае нас да музыкі антычнага гекзаметра...

Паэзія не толькі сведчанне. Паэзія — гэта і прадчуванне. Чым падказана яно — блізкім касмічным расстаннем ці пабачаным намі сёння, праз трыццаць год пасля з'яўлення верша, наступам гарлахватнага прагматызму? — чым навеяна шчымліва-элегічнае пачуццё:

Пахнуць пераспелыя суніцы.
Чую подых кожнага лістка.
Чую, як духмяная ігліца
Ападае з голляў сасняка.

Чую, як міжзорныя ракеты
Пралятаюць недзе нада мной...
Можа, мы — апошнія паэты,
Што вось так цікавяцца зямлёй?

Паэзія Максіма Танка — уся ад зямлі, ад лёсу людскога. Адны ўжо назвы яго кніг гучаць, як песня жыцця. Згадвалася ўжо — «На этапах», а потым: «Журавінавы цвет», «Праз вогненны небасхіл», «На камні, жалезе і золаце», «След бліскавіцы», «Мой хлеб надзённы», «Глыток вады», «Перапіска з зямлёй», «Дарога, закалыханая жытам»...

Пройдземся ж гэтай дарогай — на сустрэчу з выбранымі старонкамі кніг выдатнага паэта.

*Васіль Зуёнак*

З кнігі

## «НА ЭТАПАХ»

1936 г.

### НА КАСАГОРЫ

На касагоры хаты батракоў,
Пападпіраныя парканамі,
Голадам,
Чаканнем перамен,
Стаяць з дзіравымі капелюшамі
стрэх.

Хтось кінуў
Месяца грош серабрысты,
Ды ён не затрымаўся—
Недзе зазвінеў
На самым
дне іх нэндзы.

Якая цёмная
На «Ўсходніх Крэсах» ноч!
Пажары толькі ў ноч такую бачны.

*1930*

* * *

«Няма ніякіх беларусаў і іх мовы».
*З рэакцыйнай газеты*

Калі няма на свеце маёй мовы,
Майго народа і мяне самога,—
Дык для каго будуеце, панове,
Канцлагеры, катоўні і астрогі?

Супроць каго рыхтуеце расправы
І шыбеніцы ўзносіце пад хмары,
Штодня арганізуеце аблавы
І ўсіх мабілізуеце жандараў?
Супроць каго рыхтуеце вы змовы
З прадажнымі і юдамі і з Богам,—
Калі няма на свеце маёй мовы,
Майго народа і мяне самога!

*1931*

## ПАЦЫФІКАЦЫЯ

Ачапіўшы вёску,
Ваўчынымі вачамі ліхтароў
Высачылі іскру бунту
Пад саламянымі стрэхамі,
Пад запалымі зрубамі хат,
Пад мужыцкімі дзіравымі
Сярмягамі, кашулямі,
Пад нахмуранымі брывамі,
На дне галодных
Зрэнак.

Каб іскры ў полымя не пераразлі,
Таптали іх капытамі коней,
Жандарскімі ботамі,
Прыкладамі карабінаў,
Секлі нагайкамі.

Але, калі, ад'ехаўшы, азірнуліся,
З жахам убачылі,
Што следам за імі
Ідзе расплата
Ў жалобе дыму,
У полымі гневу,
У звоне кос і віл.

*1932*

## ГРУКАЮЧЫ Ў ДЗВЕРЫ

— Ці чуеце?
Пусціце ў хату!
— У нас няма пагрэцца дзе.
— Я збіўся ў замеці праклятай,
Блукаю ўжо каторы дзень.
Хто я?
Свой!
Можа, нават чулі.
За мной шлюць гончыя лісты,
Мяне шукаюць катаў кулі...
— Што ж не сказаў адразу ты!
Заходзь!
Для гэткіх ёсць прытулак.

*1932*

## НЕ ЗАБЫВАЙ

Не забывай, мой брат закуты,
У казематах мусіш ты
Піліць і рваць стальныя путы,
Муроў калючыя драты.
Не забывай!

Рукой мазольнай скрышым краты,
Сачы астрожных катаў крок!
Не забывай пра дзень расплаты,
Калі сарвеш з дзвярэй замок!
Не забывай!

Не адступай, брат, у змаганні,
Ідзі далей, як ты ішоў!
У новых бітвах сонца ўстане,
Да новых бітваў будзь гатоў!
Не забывай!

*1934*

* * *

Сцены і неба кавалак між кратаў,
Быццам далёкі азораны шлях.
Ціха.
Крокі наглядчыкаў.
Кашаль з апошніх этапаў.
Вершы — парваныя думкі ў руках.

Хутка вясна.
Капае ў цэлі астрожнай.
Трэба нам
Песню падрыхтаваць,
Каб было з чым на барознах
Вырай страчаць.

І хоць сціла і паперы не маю,
Песні пішу на маўклівых мурах,
Песні пішу на калючых дратах,
На хмарах, што па-над турмой
Пралятаюць.

*1935*

## СПАТКАННЕ

— Ну што ж, кажы, што ў вас чуваць?—
Пачаў стары пра сенажаць,
Успомніў жыта і авёс...
А вочы... мокрыя ад слёз...
А потым я загаварыў:
— Нічога, год я пражыў.
Ды не адзін — сядзіць нас шмат,—
Прывыклі трохі і да крат...
Ну, як там мама і сястра?
Пара ўжо на зіму араць.
І як там кратаецца дзед?
Ім занясі ад нас прывет!
— Нічога, мы-то жыць жывём,—
Вось ты тут сохнеш за мурам...

Я ў торбе сухароў прынёс,—
А вочы мокрыя ад слёз...
— Не плач!
Мы вернемся вясной
І ў поле выйдзем грамадой,
Сустрэнем новы ўсход зары,—
Не плач і не бядуй, стары!
Вясною светлаю з-за крат
З сяўнёю, поўнаю зярнят,
Нас выйдзе шмат, як цёмны бор,
На скібы чорныя разор...
Стары, я знаю, верыць мне
І сам гаворыць аб вясне,
Здаецца, падужэў, падрос,
Хоць вочы мокрыя ад слёз...

*1936*

## МЫ НЕ ПАМРОМ

Мы не памром, хоць шмат магілаў
Ля верставых слупоў дарожных.
Народ устане з новай сілай
Непераможны, горды, грозны.

І там, дзе сёння напрадвесні
Маланкі зіхацяць у хмарах,
Дзе сёння звоняць нашы песні,—
Успыхне полымя пажараў.

Мы не памром, мы апастылым
Ускалыхнём жыццём астрожным;
Народ устане з новай сілай
Непераможны, горды, грозны.

*1936*

## ВІЛЬНЯ

Сівая хмара сцерла сонца,
Вясенні першы дождж заплакаў.
Па чарапіцы і па гонце
Разліўся вечар сінім лакам.
І ноч прыйшла з прадмесця вуліц,
Палезла на званіцы, вышкі.
Сабакам чорным вецер скуліць
Пад шэрым мурам, пад Лукішскім.
Гараць агні ў вялікіх вокнах,
І крык газетчыкаў, рэкламы,
Ды на вясеннім бруку мокнуць
Ад ліхтароў жывыя плямы.
А на пліце цяжкой, бетоннай
Дождж гразззю прозвішчы заплёскаў,—
Баладу віселіц сцюдзёных
Гаворыць з ветрам Каліноўскі.
Мо расказаць табе пра нашы
Пра барыкады і удары?
Пра тых байцоў, што палі ў маршы,
Мо расказаць табе, таварыш?
Мо расказаць табе пра заўтра,
Пра песні-сны, што ў нашых казках?..
Цішэй, ідзе бульварам варта,
І блудзіць дождж па бруку гразкім,
А дрэвы нешта мне гавораць...
Увесь пакрыт я мокрым снегам...
Ну дзе ж сягоння, родны горад,
Мяне прытуліш без начлегу?

*1936*

## НА ШЛЯХУ ДЗІКІХ ГУСЕЙ

Вецер кудлаты на нівах калоссе гайдае,
Стужкай дарога з-пад мокрых калёс
выбягае
Там, дзе бярозы плакучае звесілі вецце,
Там, дзе адны толькі хмары, і месяц,
і вецер.

Ноч палахлівая, летняя ноч над зямлёю,
Зорнаю сцежкай адходзіць—
чорны кот крадучыся...

Сны, што мінулі, што засталіся са мною,
З ценьмі бяроз падарожных спляліся.
Іду па шляху пясчаным, няроўным,
Кій і торба песень вандроўных,

І ад астрога і да астрога плятусь—
Беларусь ты мая, Беларусь!

*1936*

## З кнігі «ЖУРАВІНАВЫ ЦВЕТ» 1937 г.

* * *

Забудуцца нягоды, ліхалецці,
Зноў заквітнеюць вёсны на палях,
І толькі, можа, аб мінулым вецер
Ды сосны прашумяць на курганах.

Задрэмле вечар казкай старой маткі,
Закаласіцца ніў маіх прастор;
Рассее ночка ў небе сінім гладкім
З Каўша свайго мільёны светлых зор.

І я дамоў, хоць зմораны, вярнуся,
Каб маладую змену прывітаць,
Каб свае песні роднай Беларусі
І прыдарожным соснам перадаць.

*1936*

## ТРЫ ПЕСНІ

*Прысвячаю Я. Коласу*

Эх, скрыпачы з салаўінымі песнямі,
Хлопцы,
 дзяўчаты мае,
 маладзіцы!
Трэба было б пра жыццё саламянае,
Трэба было б галасіста заліцца!..
Перш прывітаем загоны мы родныя,
Рэкі свае прывітаем, азёры,

Ветру напевы на струнах свабодныя,
Поле, бары, пералескі і горы!
Потым мы пойдзем палямі, далінамі,
Там, дзе блакіт
над зямлёю сагнуўся,
Пойдзем шляхамі паднебнымі, сінімі,
Лірнікі і песняры Беларусі...

Першую песню спяём салаўіную.
Дайце цымбалам размаху,
разгону!
Можаце казкай назваць ці былінаю
Песню аб чорным,
крывавым прыгоне.

Помніце, як упрагалі нас тройкамі,
Як бізуном не адзін быў забіты,
Як раз'язджалі калісь прыганятыя
І катавалі айцы-езуіты...
Плакалі з гора, як вербы зялёныя,
Маткі,
сіроты,
дзяўчаты,
удовы,
Цягнучы путы цяжкія з праклёнамі,
Нізка схіляючы плечы, галовы...

Можа, не хочаце слухаць мінулае,
Тое, што сохамі пераарана?
Можа, не хочаце песнямі, струнамі
Рваць і старыя, і свежыя раны?
Платы не прымем за песні вясёлыя!
Досыць, калі мо над струнамі самі,
Ўсе беспрытульныя, босыя, голыя,
Рукі падымеце вы з тапарамі!
Мо баіцёся і вуснамі сінімі
Ў спадчыне гора пакінеце ўнукам?
Верым, што знойдуцца сілы арліныя,
Грудзі ахвярныя, моцныя рукі!

Песню другую спяём, весялейшую,
Шырака, з захаду і аж да ўсходу;
Хмары павіслі над краем цямнейшыя,
Хмары над хатамі і над народам.

Кажуць — зрачыся
курганаў і спадчыны!
Кажуць — ісці нам у сцюжу, у слоту!
Хочуць, каб песні забыліся матчынай!
Пад акупанцкім схіляліся ботам.
Хочуць, каб самі капалі магілы мы,
Самі, братам сваім,
сёстрам і дзецям;
Хочуць, каб вечна слугамі былі мы ім
І жабракамі хадзілі па свеце...

Гэй, скрыпачы, песняры галасістыя!
Што, можа, струны парваліся, змоўклі?
Струны не простыя, а серабрыстыя
І каляровыя, быццам вясёлкі?
Нас не вініце, што граем нявесела,—
Песня не ходзіць яшчэ скамарохам!
Можа, адным яна голавы звесіла,
З намі ж ідзе яна ў свет бураломам!
Зноў запяём мы ад зораў, рассеяных
Густа над нівамі ў шэрую восень;
Можа, ад казак,
што снамі навеяны,
Ад прыдарожных бярозаў і сосен...
Ёсць дзве дарогі у полі ды польныя...
Пойдзеш адной —
будзеш гнуцца ў няволі;
Пойдзеш другой—
будзеш днямі ты чорнымі
Цяжка змагацца за лепшую долю...
Ты пераможаш,
і раны пакутныя,
Раны і межы краіна залечыць,
Плечы расправіць шырока магутныя,
Прыйдзе народ на вялікае веча.
Сонцам зазвоняць палеткі ўзараныя,
Закаласяцца густымі жытамі;
Ворагам лютым магілы стаптаныя
Новыя вёсны асыплюць вянкамі!..
Гэй, песняры з салаўінымі песнямі,
Хлопцы,
дзяўчаты мае,
маладзіцы!

Слухайце!
Можа, ўжо сёння прадвеснямі
Звоняць пад лёдам жывыя крыніцы!
А перад намі дарожанькі родныя,
Шэрыя вёскі,
бары і азёры.
Сэрцам,
грудзямі вітаем свабодныя
Дні і напевы на родных прасторах.
Сёння ідзём мы далей каляінамі,
Там, дзе блакіт над зямлёю сагнуўся...
Слухай!
З Усходу шляхамі гусінымі
Вырай ляціць на палі Беларусі!

*1936*

## ПЕСНЯ КУЛІКОЎ

Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай,
Цішыня ў хаціне згорбленай, старой,
Ды гарыць памалу ноч даўгой лучынай,
Сцелючы сасновым дымам і смалой...
Часам вецер дрэвы, зачапіўшы гужам,
Доўга іх пілуе месяца сярпом
І снуе на плоце белы снежны кужаль
З доўгай снежнай песняй
за сляпым акном.
Дымна ў печы дровы і карчы палаюць.
Зайцамі кладуцца цені на сцяне.
Пеніцца сярдзіта бульба, закіпае
Снежнаю завеяй ў чорным сагане.

— Ну, садзіся з намі! —
дзед стары гаворыць
І акраец хлеба чорнага кладзе.
— Наарфуе снегу, бы мякіны горы,
Ні праехаць полем, ні прайсці нідзе...
Сам, відаць, далёкі... не з блізкіх аколіц,
Не з-пад нашых, пэўна,
саламяных стрэх...

Ды апранут слаба—
змерзнеш недзе ў полі;
Хоць на лаве мулка, пераспі начлег!
Бачыш: у нас голад,
жыць нялёгка, браце,
Хлеб на стол кладзецца
толькі для гасцей.
Добра, калі хопіць бульбы ў нашай хаце
Да вясны, да першых з выраю гусей...

Час такі нядобры.
З першых дзён марозу
Маладых нямала ў турмы павялі.
Шмат разоў, напэўна, шэрыя бярозы
След іх белым ветрам ў полі замялі.
Каб далі вучыцца нам на мове роднай,
Ўсе мы дамагаліся грудзьмі...
Я ўжо хутка лягу пад сасной зялёнай,—
Што, скажы мне, будзе
з нашымі дзяцьмі?

У кутку, на нарах,
на старую кніжку
Ціхі голас льецца і чупрыны бель;
Сумна з маладзіцай над малой калыскай
Ўсхліпывае песняй белая мяцель.
— Спі, засні, маленькі!..
— Што, мужык на працы?
Кажаш, у астрозе? Дзесяць год далі?!
— Спі, засні, саколік! —
Быццам дождж гарачы,
Так з вачэй у маткі слёзы паплылі.

— Я, стары, таксама з-пад страхі сялянскай,
Быў і там, дзе сёння твой гаруе сын...
Шмат слядоў пакінуў на дарогах гразкіх,
На скрыпучых струнах белых палазін...

— Спі, засні, маленькі,
роднеькі саколік!
Ну, не плач, мой добры!..
Слухай: ля ракі
Не мяцель галосіць на заснуўшым полі,
А ў імгле зблудзілі, пэўна, кулікі...

І стары ўздымае выцвілыя вочы:
— Ну скажы, ці доўга гэта будзе так?
Сеяць усё сеем — з рана да паўночы,
А з бяды не можам выбрацца ніяк.
І ў нас цёмна, змрочна,
толькі час ад часу
Загарыцца сонца паміж нашых стрэх,
Ды сядзім паўгода над галодным квасам,
Нашы сцежкі ў полі замятае снег...
Кажаш — ужо хутка выпрастаем плечы,
Кажаш аб шырэйшых нівах,
аб вясне.
Вось і я, здаецца, вылез бы з-за печы,
Хай пакліча толькі моладзь і мяне.

. . . . . . . . . . . . . .

За разбітай шыбай стогне вецер глуха,
Рвуцца пражы ніткі, ўюцца на калкі...
— Спі, засні, маленькі...
або лепш паслухай,
Як, зблудзіўшы недзе, плачуць кулікі...

Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай.
Цішыня ў хаціне згорбленай, старой;
Ціха дагарае ноч даўгой лучынай,
Сцелючы сасновым дымам і смалой.
Пад разлівы песні хмарыць сон гарачы.
— Спі, засні, мой добры...
слухай... ля ракі...

Ды і мне здаецца, што ў імгле, няйначай,
Не мяцель, а плачуць недзе кулікі.

*1936*

* * *

Уракл́і, матуля, сына твайго людзі,
Уракл́і загоны і палі,
Як у шоўк вясновы прыбіралі грудзі
Шэрыя бярозы, тапалі.

Ураклі і вочы сінія краіны,
І зялёнай руні дываны,—
Нехта ў маё сэрца, сеючы, закінуў
Залатыя шолахі вясны.

Сёння не памогуць лекі ад урокаў,
Ні твае малітвы да зары,
Не засну, як даўна, поўначчу глыбокай
З сінякрылым рэхам у бары...

Нават пад курганам чуў бы звон далёкі,
Як напевы песняў каласяць тугой,
Як скрыпяць калёсы ў полі адзінока,
Пад цяжкой сялянскаю бядой.

Вось спачну мо трохі ў туманах вішнёвых,
Затапіўшы вочы ў дальнюю зару,
І далей пайду я праз лясы, дубровы
Па тваіх дарогах, Беларусь.

*1937*

## МАТЫЛЬ

Дзень залаты
Цеплым сонцам заліты,
Лётаў матыль
Сінякрылы над жытам.

Лётаў, як сон,
Над калоссямі нізка,
Як перазвон,
Над малою калыскай.

Слёзы мігцяць
Ад тугі і бяссілля,—
Хоча дзіця
Дакрануцца да крылляў.

Маці-жняя
Пацяшае малога:
— Доля твая
Яшчэ спіць на дарогах.

Я вось дажну
Паласу, сіраціна,
І раскажу
Пра палёт матыліны.

Будзеш і ты,
Сынку, лётаць высока.
Вось зараблю
Я на хлеб табе, сокал.

*1937*

* * *

Шэрыя хаты, платы і вароты,
Белая ноч на дварэ,
Нешта лучына не хоча гарэць
Роўна пад шум калаўрота.

Цеста, схіліўшыся, месіц старая
З жытняй мякінай ў дзяжы.
— Хоць бы да першых растопаў
дажыць!—
Хворы на ложку ўздыхае.

Дымам счарнелыя бэлькі заслала.
З патрап'я сцелецца пыл.
Поўзаюць ў шчэрбінах печы клапы...
Ў рамцы сумуе Купала...

А на кутку абразы цудатворцаў
Даўна ад дыму сляпых.
Б'юць ім паклоны за дождж, за снапы
І за пагожае сонца...

Мала змянілася, вёска мая ты!
Больш, можа, трохі лапцей.
Больш на плячах і старых, і дзяцей
Голага цела ды латаў...

*1937*

## З кнігі
## «НАРАЧ»
## 1937 г.

* * *

Люблю твае, Нарач, затокі і тоні,
Як вецер густыя туманы развесіць.
Ці снежная пена на хвалях зазвоніць,
Цалуючы зоры, калышучы месяц.

Люблю, калі ў сонцы гарыш пазалотай,
Раскінуўшы сінія хваляў палотны,
Калі ў непагоду сумуеш маркотна
З рыбацкаю песняй, з зялёным чаротам.

Люблю твае буры, твае навальніцы.
Ў іх чую, бы ў песнях, жыццё маладое.
І хочацца блізка грудзьмі прытуліцца
Да чорных ад гневу кіпучых прыбояў.

*1937*

* * *

За шыбамі тлеюць у інеі сінія зоры.
Мерзнуць ад сцюжы апухлыя пальцы,
баляць.
Ведаю, песні, вам хочацца новых прастораў,
Шолаху лесу зялёнага, звону азёраў, —
Сніцца не раз вам шчаслівая наша зямля.
Будзе ўсё гэта...
Гартоўным нарогам падымем
Новыя дні; залатых ураджаяў зару
Збяруць у снапы матору рукамі стальнымі;

І вёснамі будзе цвісці маладымі,
Вясёлкамі песняў мая Беларусь.
А сёння ідзіце ў батрацкія хаты,
пад стрэхі,—
Пазнаюць вас там па глыбокіх шрамах,
Па чорных мазолях, па гулкаму рэху.
Як сонечныя, загарайцеся вехі
На горных вяршынях, на новых шляхах!
А сёння ідзіце між родных загонаў,
Дзе многа знаёмых спаткаеце вы.
Рассцелюць вам нівы узорны настольнік,
Як прыйдзеце ў госці ў дзень
заўтрашні, вольны,
Ці з славаю паўшых, ці з славай жывых.
І поўнач мінае. За шыбамі вецер...
За сына дзесь моліцца матка цяпер.
А я хачу сонца пранесці па свеце
І ворагам кінуць у вочы з-пад сэрца
Крывёю гарачай апырсканы верш.
Вось раніца ціха лягла на падлогу...
Я песні бяру свае ў дальні паход.
Іх трэба рассеяць вясной па разлогах,
Каб заўтра на струнах, на новых дарогах
Нам з песнямі стрэціць свабоды прыход.

*1937*

З кнігі

## «ПАД МАЧТАЙ»

1938 г.

### НАД ВАДОЙ

На докі сыпле дождж, як сажа,
Шумяць на беразе турысты.
Агні, сарваўшыся з вітражаў,
Плывуць ракой з асеннім лістам.

Сягоння параходы выйдуць
Ў дарогу дальнюю па радасць.
І мне б героем Майн Рыда
Плыць у такое б Эльдарада,

Дзе салаўі, а не бараны,
Складаюць звонкія напевы,
Дзе не артыкулы — бананы
Растуць, красуюцца на дрэвах;

Дзе не рабіліся б аблавы,
На дзень, на ноч мо раз па дваццаць,
Дзе і паэты маюць права
Хадзіць па вуліцах, смяяцца.

*1937*

* * *

Паслухайце, вясна ідзе.
Звініць ў маім акне жалеза.
З вінтоўкай стражнік ноч і дзень
Пільнуе куст пахучы бэзу.

А ён расцвіў, агнём гарыць,
Такім пахучым, мяккім, сінім;
На дрот калючы, на муры,
Як хустку, полымя ускінуў.

Я ціха рабудзіў другіх.
Ад слёз сінелі вочы бэзам.
І недзе хруснула ў худых
Руках іржавае жалеза.

*1937*

## АДКАЗ

Я не магу вас песняй цешыць
З абмытых бурамі эстрад,
Хоць меў бы пенсію штомесяц
І спакайней бы жыў я шмат.

І менш бы, пэўна, чуў дакораў
Багемы п'янай дзеячоў,
І вашых усхваленняў хворых,
І свісту купленых дзячкоў.

А так, сягоння я не першы,
Прыйшоўшы змораны дамоў,
Да позняй ночы мыю вершы
Ад вашых пальцаў, ад слядоў.

І на крыклівы, падкалодны,
І на азефаўскі ваш гул
Нат, можа, ў барацьбе няроўнай
Не адказаць я не магу,—

Таму, што на жывое слова,
Што вынес я з сялянскіх хат,
Сплыла крыві цяжкая кропля
У міліёны тры карат.

*1937*

## ПАД МАЧТАЙ

Калі на полі глуха, пуста
І ночы выбеляць траву,
Рассыплюць хмары з сініх хустак
Дажджоў сцюдзёную жарству,

Калі дарогі пашарэюць
І вецер з поўначы мацней
Ў імгле зацягне адысею
З крылатым табарам гусей,—

Люблю стаяць пад цяглай соснай,
Нібы пад мачтай залатой,
І плыць туды, дзе звоняць вёсны,
Плыве і край ўвесь за табой.

*1937*

## ПАВЯЗЛІ ЦЯГНІКІ

Павязлі цягнікі
Восень з вёсак у горад
Праз імглу,
Праз іржышча, бары,—
Каб з антонавак сонца
І з стагоў памідораў
Дагарала на шыбах вітрын.

Ды ніколі не можна
Было ўдоваль напіцца
Таго сонца сіротам малым
З беспрацоўных кварталаў,
Сівым камяніцам,
Сутарэнням глыбокім,
Сырым.

Але можна было
Складаць песні пра восень
І пра жоўтае лісце
Дарожных бяроз.

Ў кожным слове шумелі
Мільёны калосся
І звінела сталь вострая кос.

Толькі, гэткую песню
Пачуўшы, вітрыны
Раптам гаслі,
Трывожна крычалі гудкі...
І ляцелі на вёскі
З новай весткай няспынна
Ашалелыя,
З грывай агню
Цягнікі.

Іх на кожным паўстанку,
Бы ўраджайнае лета,
Спатыкалі дзяўчаты
І хмары касцоў,
І з усёй Беларусі
Скрыпачы і паэты,—
А іх больш, як ў краіне
Маёй каласоў!

*1937*

## РАМАНС

Мы любім вас усіх,
І вашы ўсе заслугі
Не сцерліся з худых
Плячэй з слядамі пугі.
З пашанай хілім карк
Да самых ботаў, нізка,
Нічога, што рука
Чагось шукае блізка.
Калі ж пад рызманом
Вам нешта ўдасца выкрыць—
Сякеру або лом
Ці ў слове нашым іскры,—
Не трэба дзіка выць

І псуць жалезам зубы:
Не можа нешта быць,
Калі мы вас так любім!
Святыя вы для нас,
Вялікія над ўсімі,—
А некалі ж мы вас
Яшчэ вышэй падымем!

*1937*

## ПАЧАТАК ОДЫ

З сцюдзёных красак і блакіту
Вянкі сплятаць зусім не штука,
Мець толькі трэба трохі спрыту,
Без мазалёў балючых рукі,
І трохі больш мякчэйшых скабаў,
І рыбны хвост, каб плыць за модай,—
Тады напеў балотнай жабы
Ахрысцяць небывалай одай!
Хто вуснаў не чытаў зліня лых
Усякіх маляваных німфаў,
Таго абвыюць, як шакалы,
Зусім без толку і без рыфмы.
А не схіліўся? — яшчэ лепей!—
Свіны кароль ці туз фабрычны
Ярлык на творчасці налепіць
І над табой паставіць клічнік.
Тады пацягнуць цябе чэрці
І па жалезе, і па сходах...
У іх канцом гэта завецца,
А у мяне — пачаткам оды!

*1937*

## ЛІРНІК

Памёр стары лірнік
Ў бярозавых нетрах,
Дзе лісце шапоча
Зялёнае з ветрам.

Каб песень яго
Не схавалі пад камень,
Каб не расцягалі
Рукамі, нагамі,—

Аддаў струны зорам,
Сум — вербам, калінам,
А радасць — азёрам,
А рэха — далінам.

Крыштальныя вочы
На сонца высока
Занёс асцярожна
Наднёманскі сокал.

Сягоння мы ходзім
І ходзім па краі,—
Звон зор, сум і радасць
І рэха збіраем.

*1938*

## НА ПЕРОНЕ

Гудкі і калёс перазвон,—
Памалу цягнік пад'язджае.
Абмыла вячэрні перон
І песня, і мова чужая.

І ўсё іх дзівіла у нас:
І беднасць зямлі,
І багацце,
Палёў хараство,
І вясна,
І нашы лазовыя лапці.

Чуваць быў начлежны напеў...
Праплакаў кулік над папарам.
Хтось «Мацюся» хрыпла запеў
Пад струны гавайскай гітары.

На захад ідуць цягнікі—
Лён,
Жыта,
Сасна і бяроза...

Гляджу і гляджу з-пад рукі,
Як наша юнацтва вывозяць.

*1938*

## У ПОЛІ ВЯРБА

Зарой прапялі асверы.
Вясенняя зораў сяўба
Расой ападае на верас,
На песню — «А ў полі вярба...».

З тугою глядзіш чарнабровай.
У поглядзе — жар залаты.
Кажу: ёсць пралескі ў дуброве...
Не верыш, не слухаеш ты.

Расы ты баішся, а можа,
Палохае ветру жальба?
Ты маніш чароўна, прыгожа,
Як песня — «А ў полі вярба...».

Не смейся, кажу без дакору,—
Асталася мала да дня,—
Чыйго ты далонямі ўчора
З крыніцы паіла каня?

*1938*

## ПЛЫВУЦЬ СТРУГІ

> Помни это заклинанье,
> Нил, мой Нил.
>
> *У. Маякоўскі*

Плывуць стругі, плыты, плыты—
Сасновы звонкі лес,
Шырокі месяц залаты
І берагі ў імгле.
Ў стырно ўпіваецца рука.
І так за днямі дні.
Гэй, воды, быстрая рака,
Назад лепш павярні!

На пнях не марыць аб красе,
Гарыць жывіца ран,
Калі такія ты нясеш
Дары за акіян,
Калі ад вострага смыка
Лес, таючы, звініць.
Гэй, воды, быстрая рака,
Назад лепш павярні!

Тавар табе дадзім другі,
Нямала, сотні тон!—
Вяровак кручаных тугіх,
Жалеза з рук, з акон.
Павер напеву стырніка,
Плыты, плыты спыні!
Гэй, воды, быстрая рака,
Назад лепш павярні!

*1938*

## Я ГЛЯДЖУ НА ДЫВАНЫ

Я гляджу на дываны. Купец-татарын
Расхінуў іх. Ну і дзіва — ў цеснай краме
Яны дыхаюць далёкіх стэпаў жарам,
Ззяюць марамі і дзівамі Сезаму.

2—2143

А ў кутку вісяць у засені другія:
Неба, нівы каласістыя і браткі...
Колькі хочаш вось за гэтыя льняныя —
За напевы і за казкі маёй маткі?

Паглядзеў купец — я голы. Ну і цэніць!
Даражэй назваў цану раз у пятнаццаць.
Калі ўсё, што меў, на стол сыпнуў я жменяй,
Ён пачаў, яшчэ не верачы, смяяцца.

Але ўсё пералічыўшы да санціма,
Змоўк і глянуў на мяне з нямым дакорам,
Быццам я яму прыпомніў горы Крыма,
Вінаграднікі забытыя і мора.

*1938*

* * *

Перагледзяць, памацаюць слова
І панюхаюць, можа, раз пяць.
За працяжнік, за пункт каляровы
Канфіскаты наложаць пячаць.
Папытаюцца, можа, знаёмы
Той ці іншы вядомы паэт,
Ці даўно я дружу з Апалонам,
З Дыянісам, з Сатырам і Зэт?
І пайдуць да наступнай візіты...

Потым вочы бяссонна гарадь.
І не ўбачыш, як дзень пераджыты
Зноў крывёю сплывае з пяра.

*1939*

## ЧАКАЕМ СОНЦА

Чакаем сонца. Сцелецца туман,
Плыве з палос рунеючых, па горах,
На дрот заснуўшы, на густы паркан,
І тонуць цені стражнікаў і зоры.

Павук жалезны пераплёў акно.
А мы гімн сонцу пішам на граніце.
І кожны раз, як загрыміць звяно,
Па камню прабягаюць бліскавіцы.

Пакуль угледзяць — бурай веснавой
Напеў наш, будзячы зару, празвоніць,
Пакуль заглушаць — іншыя вясной,
Устаўшы, песню высекуць з бетону.

І хто б з дарог этапных ні прыйшоў,
Шрамы пазнае, змест іх адчытае
І не засне!.. І будзе ноччу зноў
З-пад звенняў цэгла сыпацца сырая.

*1939*

* * *

Вы пытаецеся, што я патрафлю рабіць,
Калі не ўмею стаяць на галаве,
Забаўляць і смяшыць публіку,
Хадзіць па канаце пад купалам цырка,
Прыкідвацца, што не бачу
Злачынства і подласці?
Выбачайце, што вас патурбаваў,
Я — чалавек, які толькі ўмее
З грудкі зямлі здабываць хлеб,
З сэрца свайго — песні.

*1939*

З кнігі
# «ПРАЗ ВОГНЕННЫ НЕБАСХІЛ»
1945 г.

## НАД МАГІЛАЙ БАГДАНОВІЧА

Прагучыць сірэна ў порце часам.
Кіпарысаў дрэмле ціхі сад.
Дрэмле Ялта, па крутых тэрасах
Льецца вішань белы вадаспад.

Тут вясна асыпала ўсё цветам,
І цяжэй знайсці ўчарашні след.
Хоць над ранні́м курганом паэта
Напісалі імя і санет.

Што ж... мае спазніліся так годы,
А твае так рана адцвілі —
Сёння разам выйшлі б мы да ўсходу
Прывітаць радзімы караблі,

Рокат мора, збуджанага ветрам,
Воблакаў ключ сіні і зару,
Што з вяршынь аснежаных Ай-Петры
Кожны дзень плыве на Беларусь.

Цішыню прадвечнага спакою
Кіпарысы вартай сцерагуць.
Але, пэўна, калі гром прыбою
Змоўкне і растае ў пене гул,—

Чуеш ты, як звоняць сосны ціха,
Як, палі вітаючы свае,
Недзе ўнучка слуцкае ткачыхі
Пра вясну шчаслівая пяе.

*1940*

## МЫ ВЕРНЕМСЯ

Клубамі чорнымі дым віўся,
Угрызаўся ў вочы і ў раллю.
Мы адступалі, падпаліўшы
Свае сядзібы і зямлю.

Каб там, дзе завітае вораг
Або праскача яго конь,—
Бурлілі рэкі і азёры
І помсты палымнеў агонь.

Каб на шляхах, палях, ў акопах
Спакою вораг не зазнаў,
Каб жвір сыры, гарачы попел
Яго магілы засыпаў.

Настане дзень баёў апошніх!
Мы адступілі, каб было
Дзе легчы ворагу на пожнях,
Парослых сіняй гавылой.

А мы шляхі вярнуцца знойдзем,
Як вырай іх знаходзіць век,
Па сонцу, што над намі ўзойдзе,
Па звону беларускіх рэк.

*1941*

## МАЦІ

Старая маці за лучынай
Кашулю шые і узор
Выводзіць песняй салаўінай,
Шляхамі святаянскіх зор.

Сын — вольны сокал — партызаніць,
Але настане час, з лясоў
Ён у кашулі вышыванай
Да маці вернецца дамоў.

А можа, можа, злая куля
Ўпляце ва ўзор смяротны цень,
Чырвонай ружай на кашулі
Кроў дарагая зацвіце.

Не, не павінен ён загінуць.
Старая хіліць галаву,
І слёзы на кашулю сына
З вачэй гарачыя плывуць.

Паўночны сон не хмарыць маці.
На шыбах пачынае днець,
Чырвонай ніткаю закляцце
Тчэ на кужэльным палатне.

Закляцце ад варожай кулі,
Ад лютай смерці, ад пятлі,
Ад груганоў, каб праз кашулю
Дастаць да сэрца не змаглі.

*1943*

## ЛАСТАЎКІ

Тут жорсткі бой нядаўна быў:
Стаіць счарнелая вярба,
І вадасточная труба,
Ў якую дождж і гром трубіў,
Нам абвяшчаючы вясну,
Вісіць аглухшы, а над ёй
Будуюць зноў прытулак свой
Дзве ластаўкі.
                    І на сцяну
Ужо ўзабраўся дзікі хмель,
Нібы чакае, што ў акне,
Як некалі, яму мільгне
Рука ці кос дзявочых бель.

На вуліцы баец стаіць.
І ён загледзеўся ў акно,
Нібы спадзеючыся зноў

Сустрэць ля гэтых камяніц
І дзеўчыну, і маладосць...
А мо, пакуль яны дамоў
З далёкіх вернуцца шляхоў,
Пільнуе ластавак гняздо?

*1943*

## РОДНАЯ МОВА

З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,
З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага ззяння бурлівых крыніц,
З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго,—
Ты выткана, дзіўная родная мова.

Няма на зямлі таго шчасця і гора,
Якога б ты нам перадаць не магла.
Няма такіх нетраў, глыбокага мора
І гор, праз якія б ты не правяла
Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння
Стаіць акрываўлены вораг з пятлёй
Над спаленай хатай, над родным загонам,
Над будучыняй і над песняй маёй,—
Над тым, што было і што век будзе вольным.

Народ пранясе цябе, родная мова,
Святлом незгасальным у сэрцы сваім
Праз цемру і годы змаганняў суровых.
Калі ж ападзе і развеецца дым
І нівы васкросшыя закаласяцца,—
Ізноў прашуміш ты вясновым дажджом,
Ізноў зазвініш ты у кожнай у хаце,
Цымбалам дасі іх сярэбраны гром
І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці.

*1943*

## ЛЕГЕНДА ПРА МУЗЫКУ

**(Урывак з паэмы «Янук Сяліба»)**

«Жыў
на Палессі
музыкант Кулік.
Ніхто, як ён, на скрыпцы не іграў,
Ніхто, як ён, не ўмеў павесяліць,
Ды Бог
і чорт
яго упадабаў.
Спрачаюцца, каму яго забраць.
Бог кажа:
— Мой, бо дзіўная ігра
Была святлом,
што азарае дзень,
Была слязой,
якая гасіць гнеў,
Была малітвай
за грахі людзей
І гімнам, праслаўляючым мяне...
Чорт зморшчыўся ад гутаркі такой:
— Няпраўду кажаш!..
Ён зусім не твой!
Складаў ён гімны — толькі не табе,
Але зярну і сейбіту, які
Ўстае раней заўсёды за цябе,
І сонцу, азарыўшаму блакіт.
Я следам з году ў год за ім хадзіў.
Маліцца ён не ўмеў і не любіў,
Хоць з сэрца, быццам крэсівам, смыком
Мог высекчы і слёзы, і агонь.
Ён нат здалёку абмінаў твой дом,
Але ў карчме я сустракаў яго.
Дзе хто жаніўся
або паміраў,
Дзе хрэсьбіны хто на сяле спраўляў,—
Там з мужыкамі ён гарэлку піў,
Нас лаяў
ды іграў ім крыжачка,
Аж лапці хмарай уздымалі пыл.
Нашто табе гуляка-музыкант?
Ды і яму ў цябе дакучыць жыць.
Хоць раз старому чорту удружы:

Аддай музыку,
бо якраз няма
Каму іграць у ноч пад Новы год
Ці на Купалле, калі ведзьмаў шмат
Злятаецца заводзіць карагод.
Пачухаў Бог патыліцу:
— Тады
Няхай сам вырашыць — ісці куды:
Ці ў тваё пекла, ці ў мой райскі сад,
Ці для цябе, ці для мяне іграць.
Напэўна ж не захочацца назад
Ісці на бацькаўшчыну гараваць.

Бліщчыць у небе месяца нарог.
Стаіць музыка паміж дзвюх дарог:
Адна — у пекла, а другая — ў рай.
Рашаецца: куды яму пайсці?
Але ён тут успомніў родны край,
І што не ў кожнай хаце адгасціў,
І не на ўсіх хрысцінах пабываў,
І не на ўсіх вяселлях адыграў,
І не з усіх яшчэ ён чарак піў...
Зноў захацелася яму дамоў.
Паправіў лапці, струны патужыў
І на Палессе,
граючы, пайшоў.
— Гэй, пачакай!—
Яму крычалі ўслед
І чорт спалоханы, і Бог, але
Ужо далёка быў музыка наш.
Каб зноў яго вярнуць —
паслалі смерць.
І вось, як цень, за ім брыдзе яна,
Пільнуючы, ці скора ўжо канец
Вяселлям, хрэсьбінам. І кожны раз
Пытаецца ў карчме:
— А не пара
Табе на неба?
— Не, вось паглядзі:
Яшчэ не бачу ў хмельнай чарцы дна.—
І, пэўна, век музыка будзе жыць
Сябрам на радасць і на славу нам».

*1943*

## НА БРАЦКАЙ ЗЯМЛІ

На захад —
варта векавых асін,
На ўсход — далёкі летуценняў шлях,
На поўнач, на паўдня,
удалячынь
Раскінулася польская зямля.
Дзяўбуць яе сапёрскія ламы —
Аж іскры з-пад лапат і з-пад штыкоў —
І крыўдзімся на гэту глебу мы,
Хаваючы таварышаў, сяброў,
Здаецца, непрытульная яна
І мулка будзе тут адпачываць
Байцам, якім больш трох гадоў
вайна
Не дазваляла вочы замыкаць.
Здаецца, і пясок тут шмат цяжэй,
Як на радзіме,
над Беразіной,
І неба на змярканні сцюдзяней,
Як над далёкай хатаю сваёй.
Ды толькі рана,
на світанні, мы,
Ўзбіраючыся на круты Бяскід,
Убачылі на саване зімы
Зялёныя
хваёвыя
вянкі.
Хто на перадавую іх прынёс?
Хто іх рукамі беражна звязаў,
Сястра ці мо паранены Хрыстос,
Сышоўшы з прыдарожнага крыжа?
Хто б там ні быў...
Мы ведалі адно:
На брацкай, на сваёй зямлі байцы
Ляглі тут адпачыць
салдацкім сном,
А мы наперад можам зноў ісці.

*1945*

З кнігі

# «КАБ ВЕДАЛІ»

1948 г.

## КАБ ВЕДАЛІ

Расце на высокім кургане сасна,
Каб ведалі;
Дол апляла каранямі да дна,
Каб ведалі;
Вяршыняю зоры кранае яна,
Каб ведалі;
З ветрам звініць, як тугая струна,
Каб ведалі
Маткі,
Дзе спяць дзеці-сокалы сном;
Вятры,
Дзе іграць галасістым смыком;
Зоры,
Дзе ім асыпацца дажджом;
Птушкі у выраі —
Родны свой дом.

*1945*

## СОН НАД НЁМНАМ

1

Аднойчы Хрыстафор Калумб
Прыйшоў і кажа: — Браце,
Ты, бачу, плесняю аброс,
Заседзеўшыся ў хаце.

А я цябе тры дні шукаў
Па ўсіх дамах начлежных,
Па ўсіх піўных і караблях,
Гандлёвым узбярэжжы.

Мне трэба падабраць людзей,
Якім на гэтым свеце
Ўсё роўна дзе грудзьмі глытаць
Марскі ахрыплы вецер;

Якім дакучылі сябры,
І крэдыторы ўмесце,
І стражнікі, і гандляры,
І Свет Стары нарэшце.

Хачу я новы шлях знайсці
У Індыю па шчасце.
І нат падрыхтаваў ужо
Вандроўніцкія снасці.

І нат у трум я закаціў
З паўсотні бочак рому,
Каб весялей было плысці
Па хвалях невядомых.

Дала мне каралева ліст,
Дала мне каравелы...—
Яшчэ не верыў я, але
Быў подпіс Ізабелы.

Яшчэ не верыў я, але
Руку падаў на згоду
І кубак разам з ім падняў
За дзіўныя прыгоды.

2

Мы штормаў і дзён не лічылі.
Паўдзённае сонца агнём
Нас, як галаўню, апаліла
І высушыла нашы жылы,
Як рэі, з якімі пяём.

Пяём мы аб ветры крылатым,
Аб тым, што мінула даўно,
Аб тым, як плылі арганаўты
Шукаць залатое руно.

Спеў слухаюць рыбы і мора,
Вандроўныя хмары ўдалі,
Зусім незнаёмыя зоры,
Зусім невядомыя горы
Нікім не адкрытай зямлі.

Калі ж мы ступілі на бераг —
Вітаць нас, адзін за другім,
Сышліся і птушкі, і звеoы,
І з цёмных пячораў Багі.

Дзівіліся птушкі, што крылляў
У нас не было, як у іх;
А звеоы — што мы гаварылі
На мове, якой гаманілі
Далёкія прашчуры іх.

Багі нас пыталі ў здзіўленні:
Хто будзем, адкуль мы прыйшлі
І дзе мы ад светастварэння
Да гэтага часу былі?

Усіх непакоіла, што нас
Прыгнала да іх берагоў:
Ці выпадку вецер шалёны,
Ці мара аб краі чароўным,
Ці вечная прага купцоў?

Мы ж цешыліся, як малыя,
Знайшоўшы прыстанішча зноў.
І ветразі «Санта Марыя»
Алелі ад нашых кастроў.

### 3

Мінулі месяцы, гады.
Шмат хто радзімы нівы
Забыў у клопатах жыцця,
Ў пагоні за нажывай.

Адны па пушчах і лясах
Звяроў лавілі, білі,
Жвір вымывалі залаты
З залатаносных жылаў.

Другія за шмаццё, за ром,
За шкло, люстэркі, фарбы
Ў тубыльцаў і у іх Багоў
Выманівалі скарбы.

А я згубіў пакой і сон,
Калі прыбоем сінім
Прынесла з бацькаўшчыны мне
Сасновую галіну.

Я паказаў яе сябрам,
Прыплыўшую з-пад Нёмна,
Але ніводзін з маракоў
Не мог сасны прыпомніць.

Я гаварыў, якой яна
Расце ў бары высокай,—
Але і Хрыстафор Калумб
Забыў пра край далёкі.

Тады [illegible] вырашыў адзін
Плысці да той хваіны,
Што працягнула да мяне
Праз акіян галіну.

Каб адшукаць яе ў бары
Ці на высокай кручы,
Прыпасці сэрцам да яе,
Да зелені гаючай.

Няхай прышчэпіць да ствала
Мяне з сваёй галінай,
Абмые ветрам і зарой
Наднёманскай краіны.

З чаўна, ў якім збіраўся плыць,
Каб плыць хутчэй, усё я
Багацце выкінуў за борт
Углыб, на дно марское.

Там зліткі золата былі,
І перлы, і каралы —
Усё, што наскуплялі мы,
Што прагна назбіралі.

Адно да мачты прывязаў
Сасновую галіну,
Якая б мне дапамагла,
Шлях значыла ў краіну.

Аж да крыві мне грудзі, твар
Хвастаў віхор балюча,
Пакуль мой не разбіўся сон
З чаўном на нейкай кручы.

На кручы, на якой шумеў
Бор векавы, сасновы,
На кручы, над якой сінеў
Мой поўдзень вераснёвы.

*1945*

## ШАПЭН

Каго у Лазенках паўночнай парой,
У змрочных алеях, глухіх пералесках,
Каля апусцелых мурoў каралеўскіх,
Нястомна шукае нямецкі канвой?

Мо цень бегляца з-за дратоў Асвянціма
Ўцякла ад смяротнай пагоні сюды?
Мо знойдзены мсціўцаў народных сляды?
Не, каты прайшлі, не заўважыўшы, міма.

Ім трэба быў той, чые гукі жылі
Ў дыханні мільёнаў, няскораных сэрцах,
Хто на акрываўленай польскай зямлі
Народу свайму гаварыў аб бяссмерці.

І вось акружылі Шапэна яны,
Прыкладамі ўдарылі ў бронзавы помнік,
І з арфы разбітай, з парванай струны
Маланкамі гукі рвануліся ў поўнач.

Іх не заглушыў прагрымеўшы узрыў,
Што ўзняў аж да зораў граніт п'едэстала,—
Акорд за акордам зрываўся і плыў,
І сіла цудоўная ў іх нарастала.

І сёння ў Лазенках, над кронамі дрэў,
Над новай свабоднай Варшавай, над краем,
Над светам, дзе бой за свабоду грымеў,
Жалобнага марша акорды лунаюць.

*1945*

## ВІЛЬНЮС

Я гэты горад знаю з даўніх дзён,
Дзе дрэмлюць замка гордыя руіны,
Дзе ўзняў густое веццe ясень, клён
Над сном акамянелым Гедыміна;
Дзе пад аркадамі сівых муроў
Праходзяць цені вулкамі вузкімі:
Пясняр Літвы, наднёманскіх палёў
У вопратцы дарожнай пілігрыма;
І Каліноўскі, і мае сябры...
Я чую голас іх у змроку шэрым
І як Вілля праз пушчы і бары
Плыве і б'ецца ў непрыступны бераг.

І хоць юнацтва тут прайшло даўно,
Але, як адгалосак песні шчырай,
Прыходзе з успамінамі яно,—
Вяртаецца, бы ў час вясенні вырай.

Яно на кожнай вуліцы ўстае,
Гарыць у вераснёвай пазалоце,
Дзе вецер думы першыя мае
Рваў на лукішскім, на калючым дроце...
І ўсё ж люблю я гэтых вуліц гул,
Граду Панар, высокі золак раніц
І маладосць, абвітую ў тугу,
Якой у вочы можна смела глянуць.

Я гэты горад знаю з даўніх дзён.
І каб не хвойны пах бацькоўскай хаты,
І каб не нарачанскай хвалі звон
Ля курганоў, ля сосен расахатых,—
Хацеў бы я, каб мой апошні спеў,
Тут, сярод гэтых незабыўных вулак,
Дзе ўпершыню ён гулка празвінеў,
Знайшоў спакой і вечны прытулак.

*1945*

## КАМЯНІ

Гасцей чакаў я, і яны
Загрукалі ў парог —
Абветраныя валуны
Крутых маіх дарог.

На іх усіх сляды былі
Маіх юнацкіх сноў;
На іх усіх шрамы ляглі
Ад хмар і ад вятроў.

Я кожны камень пазнаваў;
Калі сустрэў яго,
Калі на ім адпачываў,
Начлежны клаў агонь.

Вось гэты — ў роднай старане
Быў пад акном маім,
Вось гэтым — кінулі ў мяне,
І след крыві на ім.

Але адзін валун з усіх
Мне незнаёмы быў.
Хто ён, адкуль, з дарог якіх
Няпрошаны прыбыў?

Адно, па снежнай белізне,
Па тым, як ён дыхнуў
Сцюдзёным змрокам на мяне
І ў сэрца заглянуў,—

Я здагадаўся, што за госць,
І чаркай прывітаў.
— Калі прыйшоў ты, ягамосць,
Дык пі! — яму сказаў.

Вось толькі нам няма аб чым
З табою гаварыць.
Я ўжо дамовіўся ўначы
З хваінамі ў бары,

З жывой птушынаю сям'ёй,
З расталаю вадой
І з громам, каб яны вясной
Ўзялі мяне з сабой.

*1946*

## ДОБРА БЫЛО Б...

Добра было б, каб хто іншы пачаў
Гэты напеў, бо і так па начах
Клічуць мяне, ля расстайных дарог,
Сосны, якіх я ад куль не збярог,
Нівы, якіх ад ліхіх навальніц
Мне не ўдалося грудзямі закрыць,
Зоры, якіх ад пажару вайны
Ў час я далонямі не засланіў,
Попел радзімы і цені братоў
З-пад незарослых магіл-курганоў.

Толькі сягоння спраў кожнаму шмат:
Коласу — вырасціць жменю зярнят,
Сонцу — стаптаныя травы падняць,
Ветру — акопы пяском зараўняць,
Хмарам — дажджамі зямлю напаіць,
З выраю птушцы — гняздо сваё звіць.
Мне ж трэба нанава ўсё пачынаць,
Ўсё: ад сасновага зруба, звяна
Аж да вясельных шырокіх сталоў,
Аж да пахмельных цымбал і смыкоў.

Не ўпершыню так прыходзіцца мне,
Але я верны прыкмеце старой:
Каб не звяліся снапы у гумне,
Пчолы — ў вуллі, госці — ў хаце маёй,—
На папялішчах вышэй, як былі,
Сцены ўздымаю і шыру вуглы.
На талаку я суседзяў пазваў.
Шмат не прыйшло іх. Відаць, не змаглі
Ўстаць з-пад прыволжскіх апаленых траў
Або вярнуцца з карпацкіх далін.
Будзе цяжэй нам без іх пачынаць
Працу і свята і тост падымаць.

Можа, яшчэ хто з іх прыйдзе дамоў,
Каб паглядзець на просторы палёў
Каб паглядзець на багаты ўмалот,
Каб паглядзець на нарогі плугоў,
Каб запытаць у сваіх у сірот,
Як прытуліў, прыгарнуў іх народ.
Можа, яшчэ хто з іх прыйдзе дамоў...

Пэўна што прыйдзе... За кожным сталом
Месца пакінем для нашых сяброў,
Чарку пакінем з кіпучым віном,
Песню любімую і паначы,
Каб не блудзілі, дамоў ідучы,
Вокны у хатах азорым святлом.

*1946*

* * *

Гэта было вясной:
Ішоў я лясной дарогай,
І раптам перада мной
Між зарасніку густога
Вярба маладая гарыць
І хоча перарадзіцца
Ўся ў майскія барвы зары,
Ў зялёнае полымя лісця.
— Адкуль ты,— вярбу я спытаў,—
Успыхнула тут нечакана?—
І зрок я свой затрымаў
На свежых траншэях, курганах,
І я зразумеў: яна
Прыйшла з далёкага свету,
Скуль нехта хоча да нас
Вярнуцца з вясеннім цветам.
Мо гэта мой брат ці друг,
Па кім я даўно сумую?
І я асцярожна бяру
І тройчы яе цалую.

*1946*

## БАЛАДА ПРА ПАРТЫЗАНА ДУБЯГУ

Прысніўся Дубягу ў абозе сон,
Што ў родную хату прыехаў ён.
Спыніў каля брамы каня-скакуна,
Аклікнуў — нікога, кругом цішыня.
Прыкладам з балтоў аканіцы сарваў,
І глянуў, і хаты сваёй не пазнаў:
Праклятыя каты сядзяць за сталом,
Балююць, рагочуць,
                    п'юць брагу з віном,
На покуце самым чарцей чарада
На скрыпцы Дубягавай грае чардаш,
І сына яго — аж жахнуўся глядзець —
Калыша не жонка, не маці, а смерць...

Прачнуўся Дубяга далёка да дня,
Хутчэй асядлаў баявога каня.
Сябрам-партызанам сказаў не чакаць
З глыбокай разведкі раней як дзён пяць.
Вось едзе ён полем, дубровай глухой;
Вось бачыць — займаецца неба зарой.
Ды толькі не сцяміў Дубяга: чаму
З-пад поўначы сонца ўзыходзіць яму,
Чаму абняло яно полымем даль
І ў Нёмане стала чырвонай вада,—
Пакуль не пабачыў з высокай гары,
Што дом яго свечкай хаўтурнай гарыць.
Стаў клікаць Дубяга бацькоў і сям'ю.
Кругом абышоў ён сялібу сваю.
Ніхто не азваўся.
Адно, ля прысад
Убачыў прыбіты нямецкі загад,
Ў якім абяцаў генерал Рыхард Зальц
Іудам сто тысяч рэйхсмарак даць,
Іудам, якія Дубягу змаглі б
Злавіць ці на след партызанскі ўзвялі б...
Дубяга загад гэты з дрэва сарваў,
Ды кінуць не кінуў, а ў шапку паклаў,
І, як ашалелы, каня ён свайго
За смерцю нямецкай пагнаў наўздагон.
У крэпасці моцнай сядзіць Рыхард Зальц.
Ні куляй яго, ні штыком не дастаць,
Кругом гарнізона акопы, равы,
Атрады узброеныя вартавых —
На подступах, на скрыжаваннях шляхоў,
Каб хто з партызан не пралез, не прайшоў.
Сядзіць Рыхард Зальц.
Увайшоў веставы:
— Да вас, генерал, перабежчык!
— Заві!..—

І вось, пахіснуўшыся, быццам сляпы,
Дубяга парог хаты пераступіў.
Ад постаці дужай яго у пакой
Павеяла ветрам, сасной баравой.
— Што ж хочаш сказаць мне?—
пытаецца Зальц.

— Прыйшоў абяцанае я атрымаць,—
Гаворыць Дубяга, дастаўшы загад.
— Гут! Слова свайго не бяру я назад.

Пакажаш стаянку Дубягі ў бары,
Заробіш яшчэ ад мяне на барыш.—
Маўчыць партызан.
Ён загледзеўся ў кут,
Дзе скрыпку убачыў сваю на палку.
— Што ж, згодзен?
— Мне платы не трэба, калі б
Пайграць мне на гэтай на скрыпцы далі...
І вось у Дубягавых чорствых руках
Іграе прамень серабраны смыка.
Над Нёманам вецер.
Між змрочных прысад
Шуміць дождж асенні, звініць лістапад...
На поўдзень у вырай лятуць жураўлі.
Даносіцца спеў калыханкі здалі.
Даносіцца знекуль сабакі выццё.
Трывожна шуміць над ракою трысцё.
Крадзецца ў пасёлак нямецкі атрад,
І залпы грымяць, і над стрэхамі хат,
Над крыкам смяротным,
што ўзняўся да хмар,
Чырвонай завеяй гуляе пажар...
Іграе Дубяга, і ў Зальца пакой
Збіраюцца немцы ўсё большай гурбой.
Абселі ўсе лавы, услоны, сталы,
Ігры надзвычайнай паслухаць прыйшлі.
Адзін Рыхард Зальц
спахмурнеў, быццам ноч,
Не зводзіць з Дубягі празорлівых воч.
Ён чуе, пазнаў, што іграе скрыпач,
Пазнаў — з-пад смыка чый зрываецца плач,
Пазнаў — чый над Нёмнам, ахоплен агнём,
Гарыць, нібы свечка хаўтурная, дом,
Чый дыхае ў струнах разбуджаны гнеў...
Пазнаў Рыхард Зальц і усё зразумеў:
— Дык гэта ж — Дубяга!
Вяжыце яго!—
Зальц кінуўся да аўтамата свайго.
Але партызан апярэдзіў раней,
Дзве кінуў гранаты ад грому мацней,
І ўзрыў, што смяротным агнём праграмеў,
Дакончыў Дубягавай скрыпкі напеў.

*1946*

## ЛЮЦЫЯН ТАПОЛЯ

Гэты быў адзін з майстроў вялікіх,
Звалі яго Люцыян Таполя,
А па клічцы проста Багароб.
Гэта ён
Уздоўж Віллі і Нёмна
І па ўсіх шляхах і скрыжаваннях
Будаваў капліцы і крыжы,
Выразаў апосталаў, пракокаў,
Больш падобных да сялян смаргонскіх,
Да вілейскіх лесарубаў, рыбакоў.
Гэта ён у батлейцы навагодняй
Пана свайго Ірадам зрабіў,
Твар і постаць прасвятой —
З дзяўчыны Тэклі,
Да якой дарэмна сватаўся калісьці,
А двух п'яніц мядзельскіх —
Сцяпана з Харытонам —
Выразаў з чачоткавай бярозы.
З дрэва моцнага,
Як дружба іх,
Выразаў у постаці анёлаў.

Доўга людзі цешыліся з цудаў,
Што зрабіў быў Люцыян Таполя,
Доўга з той батлейкі рагаталі.
Ірад меў шляхецкі ўбор і хітры
Твар лісіцы
І ў руках бізун,
Якім батожыў мужыкоў заўсёды,
А Тэкля
Маладой глядзела прыгажуняй.
Колькі цеплыні у яе рысах,
Хараства у постаці дзявочай
Паказаў ён,
Быццам Песню Песняў —
Кнігу дзіўную раскрыў перад вачыма,
Быццам,
творачы сваёй дзяўчыны вобраз,
Побач з ім было яе юнацтва.
Тое, што сябры яму ўдаліся —
Харытон з Сцяпанам,—
Менш усіх дзівіла:

Зналіся яны ледзь не з калыскі,
Разам па Віллі плыты сплаўлялі,
Разам мора выпілі гарэлкі.
Слых, як звон з высокае званіцы,
Слых, як на вадзе кругі ад камня,
Слых, як вецер, аблятае светам,
Даляцеў да горада да Вільні,
Да палаца біскупа Сямашкі.
Аглядаў той дзіўнае тварэнне,
Хмурыў бровы.
Што святы айцец благое ўбачыў,
Што ўзняло яго гнеў непамерны?
Толькі загадаў ён
Самаму Таполю знішчыць твор свой
І, пад страхам пекла і пракляцця,
Цэлых дзесяць год адбыць пакуты
І не брацца за сваё майстэрства.
Горка стала на душы Таполі.
Кажуць людзі,
што пакляўся ён
Двум не даравацъ грахоў прад смерцю:
Біскупу Сямашку
І яшчэ яловаму суку,
Што век шкодзіў,
Псуў яго майстэрства.
Дзесяць год!
За гэты тэрмін дрэва
Дзесяць раз убор зялёны зменіць,
Дзесяць пакаленняў салаўіных
Выкалыша на сваіх галінах,
Дзесяць залатых кругоў адложыць,
Як пярсцёнкаў, каля сарцавіны.
Што тады казаць пра чалавека!
За год дзесяць Люцыян Тополя
Шмат пабачыў і бяды і гора,
Зведаў шмат зямель ён, пра якія
Нат і ў сне не снілася яму.
І мо ад тугі па родным краю,
Па майстэрству даўнім, на якое
Налажыў сваё Сямашка вета,
Пасівеў ён і да непазнання
Так змяніўся,
Што сябры і тыя
Пры сустрэчы моўчкі абміналі,

Што сам біскуп,
Не пазнаўшы ў майстры
Грэшніка даўнейшага, даверыў
Будаваць сваю святыню.
Прамінулі вёсны,
Леты,
Зімы.
На узгорку,
Між лясоў прадвечных,
Дзе растуць дубы,
Якія помняць
І часы Пяруна з Светавідам,
І зуброў даўно заглохлы тупат,
Пачала будыніна ўздымацца.
З долу муляры ўзвадзілі сцены,
Клалі камень, падганялі цэглу,
А канчаў усё на рыштаванні
Сам Тапаля.
Пад яго рукамі,
Бы ад нейкіх чараў,
Ажывала нават нежывое,
Немагчымае рабілася магчымым:
Гнуўся камень,
А з звычайнай цэглы,
Быццам з бронзы,
Паўставалі здані,
Рознае страхоцце,
Розныя звяры з людскім абліччам.
Днём і ноччу Люцыян Тапаля
Не зыходзіў з рыштавання.
Дума неспакойная жыла у майстра:
Ён хацеў пакінуць пакаленням
След жыцця свайго,
Сваіх пакут,
Сказ пра мары,
Пра свае імкненні...
Вось каля вітражаў,
На абсыдах
Нейкія расселіся хімеры.
Гэта — тыя, што хацелі знішчыць,
Пагасіць святло ў ягоным сэрцы.
З іх адны падобны да магнатаў,
Да сабак — да панскіх цівуноў,
А другія — да дзяцей Лайолы —

Хітрых езуітаў,
Да айца Сямашкі.
Колькі іх!
І ўсе яны з рагамі,
З зяпамі пачвар,
З хвастамі гадаў
Лезуць па званіцы і па вежы,
Падаюць і зноў клыкі ўбіваюць
У каменне,
І паўзуць угору
Па душу, па думку чалавека,
Што, як сонца, слепіць вочы ім.
Толькі не спыніць палёту думы
І век розуму не пагасіць ім —
Чорным сілам пекла.
З кожнай цаллю ўсё гладзейшы камень,
Строма вежа цягнецца ўгару
І пад самым небам,
Быццам промень ясны,
Пераможная ўзнялася над усім.
Калі кончыў Люцыян Таполя
Твор свой дзіўны,
Ў дзень святога Роха
Шмат людзей сышлося падзівіцца,
Паглядзець на новую святыню.
Біскуп сам служыць прыехаў месу.
Але толькі праграмеў «Тэ дэум»,
Толькі вочы ён узняў угору,
На званіцу,
Як пачаў жагнацца,
Ўбачыўшы пякельны карагод.
Кінуўся зганяць пачвар, ды толькі
Не баяцца гэтыя хімеры
Ні вады свянцонай, ні крыжа.
А калі пазнаў у іх сваё аблічча
І сваіх канонікаў і подпіс
Прачытаў на камні: «Люцыян Таполя»,—
Быццам гром ударыў у Сямашку.
Слугі вывелі яго пад рукі,
Ледзь жывога у палац завезлі.
Дзесяць дзён хварэў Сямашка біскуп
І крычаў, каб прывялі Таполю.
На дзесяты дзень памёр світаннем.
А Таполі след згубіўся недзе.

Колькі год яго шукалі ўсюды
Стражнікі,
Манахі,
Езуіты.
Толькі дзе прачуюць, што з'явіўся
Надзвычайны ўзор яго майстэрства:
Скрыпка, новы вытканы узор,
Вобраз дзіўны,
Песня ці батлейка,
Цацкі з дрэва, з гліны ці паліва
(Бо на ўсё Тапсля майстрам быў),—
Налятуць пякельнай чорнай зграяй.
Ды ніяк злавіць ім не ўдалося майстра.
Жыў Тапсля
І вучыў людзей майстэрству,
Можа, сто, а можа, болей год.
Бо ў народзе,
Як у прадвечным лесе,
Дзе ты знойдзеш дрэва, ад якога
Шум вясны пачаўся?
Дзе ты знойдзеш!

*1946*

## ЛЯЖАЦЬ ПАКОШАНЫЯ ТРАВЫ

Ляжаць пакошаныя травы,
Не травы — казачныя сны,
Не сны, а шолахі дубравы,
Вясёлкі, галасы вясны.

Рупліва іх мы ў копы зносім,—
І там, дзе Нёмна берагі,
У залатую нашу восень
Ржавеюць пад дажджом стагі.

Калі ж усё скуюць марозы
Ў калядную начную сінь,
Прыходзяць да стажар'яў козы
І расахатыя ласі.

Яны скубуць з-пад вітак смычку
І пяражоўваюць яе,
І ў летнім водары п'янічным
Усё былое паўстае.

Здаецца ім: не снег, не слота,
Не шэрань зззяе на рацэ,
А чайкі кружаць над балотам
І смычка з багуном цвіце.

Яны не чуюць завірухі,
Ціш першабытная кругом.
І выстрал, што ударыць глуха,
Ім прагучыць, як летні гром.

*1946*

## НА ДАЎГІНАЎСКІМ ГАСЦІНЦЫ

На даўгінаўскім гасцінцы непагода,—
Граюць ветру ашалелыя смыкі.
Дождж сячэ ў палях загразлыя падводы,
У карчму сышліся грэцца мужыкі.

Смалакуры з-пад Крывічаў і Смургонаў,
Жабракі і местачковыя майстры,
Рыбакі з сялявай мядзельскай салёнай,
Куранецкія з палівай ганчары.

Але нешта у карчме сягоння глуха,
Не чуваць гамонкі-шуму за сталом,
Недапітая пакінута сівуха,
І ніхто не лезе ў спрэчку з карчмаром.

Толькі чутна, як гарыць стрыжэнь-асмалак,
Стогне вецце каля вокан, каля брам
Ды ў карчме, у цішыні юнак Купала
Сам чытае песні-вершы мужыкам.

Хто ён гэткі, ў шэрай світцы даматканай?
Як адважыўся пісаць на мове іх?
Скуль ён ведае у іхнім сэрцы раны?
Як падслухаў думы скрытыя жывых?

Толькі ўсе у песні чуюць гром праклянцця
На няволю, на магнатаў, на цара,
Чуюць, што даўно пара ім людзьмі звацца,
Векавыя путы разрываць пара...

І такім агнём палала гэта слова,
Верай ў будучыню, што здалося нат,
Быццам сонца азарыла зруб сасновы,
Ноч за вокнамі, дажджлівы лістапад.

Кажуць, што пасля сяляне бунтавалі,
Над палацамі клубіўся чорны дым
Недалёка той карчмы, дзе быў Купала,
На даўгінаўскім гасцінцы векавым.

*1947*

З кнігі

# «НА КАМНІ, ЖАЛЕЗЕ І ЗОЛАЦЕ»

1951 г.

## СЛЕД ЛЫЖАЎ У ТАТРАХ

Мы, змораныя, ля сасны
Зрабілі б свой прывал,
Ды лыжаў след, як дзве струны,
Пралёг праз перавал.
След вабіў, непакоіў нас,
І мы ішлі за ім.
Хто тут ляцеў у позні час,
Узняўшы снег, як дым?
Ён мусіў знаць край гэты свой,
Ён мусіў смелым быць
І, пэўна, з добрай навіной
Да некага спяшыць.
Калі ў гуралькі маладой
Мы сталі на начлег,
Спыталі: — Хто начной парой
На лыжах тут прабег?
— Ах, гэта,— адказала,— знаць,
Як заўжды, ў позні час
Мне добрай ночы пажадаць
Мой прыязджаў Югас.
Яна прыветлівай была,
Печ распаліла нам.
І мы прыселі ля стала
За чаркамі віна.
Сябры пілі, каб гора, бед
Не знаць сярод снягоў,
А я — за лыжаў белы след,
Што нас сюды прывёў.

*1949*

## У САДОЧКУ МАЙ

У садочку май,
Май, духмяны ліст,
І ўсю ночку несціханы
Салаўіны свіст.
— Штосьці сон не йдзе.
Мама, дзе мой сон?..
— Спі, дачушка,
Зараз прыйдзе да тваіх акон.

На сяле, як дзень.
Месяц ясен, чыст.
Цёплы вецер асцярожна
Закранае ліст.
— Штосьці сон не йдзе.
Мама, дзе мой сон?..
— Спі, дачушка,
Не забудзе твае вочы ён.

Хмельны сад цвіце.
Салаўіны свіст.
Чуцен спеў —
Русавалосы грае трактарыст.
— Мама, я пайду
Стаўні адчыніць.
Гэта сон мой на вуліцы
Грае і звініць.

*1950*

* * *

Партызанскія акопы
Парараслі травой,
Ягаднікам, верасамі,
Хвояй маладой.

Часта маткі тут бываюць.
Слёзы іх расой
Доўга тлеюць на курганах
Веснаю парой.

Часта тут кладуць дзяўчаты
Ружы, васількі,
З незабыўных успамінаў
Звітыя вянкі.

Калі ж прыйдуць партызаны,
Ў нетрах баравых
Думу-песню праспяваюць
Пра сяброў сваіх.

Праспяваюць яны песню,
А прадвечны бор,
Што вяршынямі сваімі
Дакранае зор,

Пад аблокамі, вятрамі
Доўга ўторыць ім
Несціханым гулам сосен,
Шумам баравым.

*1950*

## РУКІ МАЦІ

Іх цалавала зямля
Сваімі пясчанымі вуснамі
І каласамі;
Неба спякотай, вятрамі, дажджамі
Іх цалавала.

Пража нямала
З іх выпіла ў ночы бяссонныя
Свежасці ранняй.
Колькі яны запалілі світанняў,
Зораў над намі.

Колькі сягоння на іх
Віднеецца чорных, глыбокіх
Шрамоў і маршчынаў,
Гэта сляды, што навекі пакінуў
Шлях наш суровы.

Толькі заўсёды,
Як мы зберымося дамоў
І на стол пакладзе рукі маці,
Быццам ад сонца, ад іх пасвятлее ў хаце
І ў сэрцы.

*1951*

З кнігі
## «У ДАРОЗЕ»
1954 г.

### НЕ БУДЗЬ НІКОЛІ ІНШЫМ

Дарма шукаеш, мілы,
Мне ў падарунак песні,—
Нідзе такой не знойдзеш,
Як у маім у сэрцы.

Дарма ўначы дадому
Ісці дапамагаеш,—
І так заўсёды радасць
Мне азарае сцежку.

Дарма ты ахінаеш
Мяне ў час непагоды,—
Вясновай ласкай грэе
І так маё каханне.

Дарма мяне былінкай
Уверх ты падымаеш,—
Вышэй за наша шчасце
Ніколі не падымеш.

Але, хоць і кажу я
«Дарма» табе, мой мілы,—
Не будзь ніколі іншым,
Не будзь ніколі іншым!

*1952*

### АНТОН НЯБАБА

Раз дваццаць ворагі сціскалі
Сваё смяротнае кальцо,
Але Нябаба вёў наперад
Сваіх адважных малайцоў.

Ён прарываўся праз пажары,
Што дымам засцілалі Пінск,
Праз гушчу конніцы шляхецкай,
Бясконцы лес райтарскіх пік.

І хоць за ім ляцелі каты
Ваўчынай зграяй наўздагон,—
Нябабу раненага вынес
За Прыпяць верны быстры конь.

За Прыпяццю, на скрыжаванні,
Карчма стагодняя стаіць.
У ёй спыніліся казакі
Агледзець раны, адпачыць.

Папуталі, пусцілі коней
На луг мурожны за гумном,
І ўсе, хто ў хаце, хто на прызбе,—
Заснулі, зmораныя сном.

Заснулі ўсе, адзін Нябаба,
На лаве лежачы, не спіць:
Не так баляць цяжкія раны,
Як сэрца ные і баліць.

Баліць за край свой здратаваны
І за прыгнечаны народ,
Баліць таму, што мо не ўбачыць
Над роднай хатай сонца ўсход.

А больш за ўсё Нябабе крыўдна,
Што ён за свой казацкі век
Клінком дамаскім, гартаваным,
Яшчэ не ўсіх паноў пасек...

Датлела ў светачы лучына,
Памалу вочы жмурыць сон...
Ды раптам чуе ён, як нехта
Яго заве: «Ты спіш, Антон?»

Глядзіць Нябаба — смерць у хаце
Сядзіць на покуце сабе,
Аблакацілася і кажа:
— Ну вось, прыйшла я па цябе...

Ты ўвесь пасечаны, і раны
Гараць, смяротныя, агнём.
Пара табе ўжо развітацца
З жыццём, з сябрамі і канём.

Не хочаш?.. Ну дык паспрабуем
З табою ў карты пагуляць,
Пакуль зара яшчэ не ўстала,
Пакуль яшчэ казакі спяць.

— На што ж іграць?
— На ўсё, што хочаш...—
Дастаў Нябаба свой кісет,
З бурштыну люльку-самакрутку
І сам за стол іграць прысеў.

Памалу смерць здае калоду,
Нябаба карты ў рукі ўзяў,
Глядзіць: адны вальты, сямёркі.
Ну што тут зробіш?.. Праіграў.

Пачаў здаваць.
Ізноў няўдача.
Другі і трэці... Сёмы раз...
Прапелі пеўні галасіста.
Даўно мінуў паўночны час.

Ужо смерць рукі пацірае:
— Не адыграеш, брат, да дня
Свайго жыцця, кісета, люлькі,
Свайго мушкета і каня.

Ды ўжо няма чаго і ставіць...
— Няма? Скажы, а гэта — што? —
І грозна выхапіў Нябаба
І ўбіў стальны клінок у стол.

— Яшчэ казацкая ёсць слава!
Яшчэ раз скінуся з табой!
Калі ж ты выйграеш і гэта,
Хіба тады ўжо буду твой!..

Гуляюць зноў... Ды што за дзіва!
Як зманнасць лёсу зразумець!
Раскінулі калоду тройчы—
І тройчы праіграла смерць.

Яна ўсе зоры пагасіла
І месяц хмарай абвяла,
Атрутай акрапіла карты
І выйграць славы не змагла.

І смерць, як ноч, пайшла за дзверы,
Пайшла шукаць другі начлег,
А ўслед за ёю доўга чуўся
Нябабы пераможны смех.

*1952*

## ЛЯ ГЭТЫХ СОСЕН

Ля гэтых сосен нельга не спяваць.
Нібы ахопленыя полымем пажару,
Яны, чырванастволыя, шумяць,

Калышучы вяршаліны, як хмары,
Ґуллівыя, густыя, ад якіх
Не знае цішыні — спакою Нарач.

Ля гэтых сосен цяглых, векавых
Не ўспомніць нельга грозных дзён мінулых
І партызанскіх вогнішчаў і тых,
Чые курганы слава ахінула.
Яшчэ і сёння з кожнага ствала
Смала слязіцца, дзе ўпілася куля.

Ля гэтых сосен маладосць прайшла,
І я ў дні вераснёвыя свабоду
Сустрэў тут, ля рыбацкага сяла.

Таму мне дарагі яны заўсёды,
І ў сэрцы, знаю, іх вясенні шум
Ніякая не згасіць непагода.

Ля гэтых сосен я табе пішу,
Яны шумяць пад сонечным блакітам.
Калі не мне, дык ім, цябе прашу,
Як некалі, хоць песняй адкажы ты!..

*1952*

## ТАВАРЫШУ

Калі дыхнуць вятры на пушчу,—
Яна шуміць.
Калі кране маланка хмару,—
Яна грыміць.
Калі струну стальную будзяць,—
Яна звініць.
Зямля ж, якую ломам білі,
Калі капалі дол-магілу,
Маўчыць...

Згадзіцца з цішынёй, з маўчаннем
Сырой зямлі
Нат пасля бою, ў час расстання,
Мы не маглі,
Таварыш наш, каго хавалі
На полі тут,
Любіў звон песень, рокат хвалі,
Сяброў, што з ім насмерць стаялі...
І тройчы мы яму аддалі
Салют.

*1953*

## СПАКОЙНАЙ НОЧЫ!

Вечар вясенні. Месяц над гаем.
Спакойнай ночы! — ўсім я жадаю.

Спакойнай ночы! — гулкаму рэху,
Каб не было чуць, як буду ехаць;

Псам паляўнічым, што госця чуюць,
Двор запаветны пільна вартуюць;

І тым варотам ля цёмнай ліпы,
Каб адчыніць іх мог я без скрыпу.

І, асабліва, спакойнай ночы
Маці, якая за дочкай сочыць,

Каб не пачула яна да рана,
Як буду клікаць выйсці на ганак,

Выйсці на ганак дзяўчыну-зорку,
Жыць без якой мне на свеце горка.

Вечар вясенні. Месяц над гаем.
Спакойнай ночы! — ўсім я жадаю.

*1953*

* * *

*Таварышу С. Крыўцу*

Сто шэсцьдзесят бардаў аплакалі смерць
Калісьці там Лопэ дэ Вэга.
А нам не было калі друга апець
У пушчы, занесенай снегам.

Ён паў за свабоду, і з песняй яго
Наперад, у наступ пайшлі мы,
Каб нашай бязлітаснай помсты агонь
Праславіў таварыша імя.

Сто шэсцьдзесят выкацілі мы гармат
На самую перадавую
І ўдарылі так, каб і мёртвы салдат
Іх песню пачуў штурмавую.

І там, дзе курган яго, ў лесе густым,—
Сто шэсцьдзесят мачтавых сосен,
Сто шэсцьдзесят пушч беларускіх па ім
Начамі і днямі галосяць.

Іх гулкаму шуму, іх песні лясной
Няма ні канца і ні краю,
Як славе героя, што яркай зарой
Над роднай краінай палае.

*1953*

## ПЛАЧА ХМАРА БЕЗ ЖАЛЮ

Плача хмара без жалю,
Стогне вецер без болю,
Ды не плача дзяўчына
Без прычыны ніколі.

Або крыўда якая,
Нехта сэрца ёй раніў,
Або песня кранула,
Што пяюць партызаны,

Або думы цяжкія
Устрывожылі ноччу,
Або пылам дарожным
Запарушыла вочы?

Запарушыла вочы,
Калі раненька-рана
Расставалася ў полі
З маладым партызанам.

Бо не плача дзяўчына
Без прычыны ніколі,—
Плача хмара без жалю,
Стогне вецер без болю...

*1954*

З кнігі

## «СЛЕД БЛІСКАВІЦЫ»

1957 г.

### НА ЎЗГОРКУ

На ўзгорку крутым партызан паміраў,
На ўзгорку, дзе вецер шуміць.
Там воран, прысеўшы, пра раны пытаў:
— Каторая болей баліць?

— Што раны мае! — адказаў партызан.—
Іх боль хутка згасне з зарой.
Век будзе крывавіць цяжэйшая з ран—
У сэрцы матулі маёй.

Таму я прашу цябе, воран, калі
Ў маёй будзеш ты старане,
Дзе кожнай вясной расцвітаюць палі,
Старой не кажы пра мяне.

Хай думае лепш, што здароў я і жыў,
Што, пэўна, сяброўку знайшоў.
Што я ажаніўся, пра дом свой забыў,
Таму не пішу ёй лістоў.

*1954*

### НАШТО ТЫ КОСЫ ЗАПЛЯТАЕШ

Нашто ты косы заплятаеш,
У танцы кружыш агнявым,
Нашто каралі прымяраеш
Перад люстэркам нежывым?

Яно маўчыць, яно не можа
І сотай долі перадаць,
Як выглядаеш ты прыгожа,
Як вочы зорамі гараць.

Ты лепш пакліч мяне, красуня,
Хоць на хвіліну да сябе,
І мне не будзе гэтак сумна,
І я дапамагу табе

Прымерыць стужкі, завушнічкі,
І плечы хусткай ахінуць,
І лакавыя чаравічкі
Перад «Лявоніхай» абуць.

Ты ўсё мне даравать не можаш,
Што, першы раз як памагаў,
Караляў шнур неасцярожна
Рукой няўмелаю парваў.

*1955*

## ПРА СЯБЕ

Вырас я тут між лясоў,
Неабсяжных лугоў.
Нават і сёння
Хаціна старэнькая тая,
На пількаўскія валуны абапёршыся,
Век дажывае;
Нават і сёння
Яшчэ на адным з вушакоў
Зарубіны ёсць,
Што калісьці мой рост адзначалі.
Па іх, пачарнелых,
Я лепш, як па кнізе якой,
Мінулае прыпамінаю...
Знак першы быў зроблен вясной,
Калі мне трубу берасцяную
З торбай ўручалі.
Другі знак быў зроблен

Рукою матулі маёй,
Калі мяне ў школу праводзіла
Восенню позняй;
А трэці — калі мае першыя
Леглі баразны
На гэтай зямлі, камяністай, скупой
І, аднак, дарагой.
А побач відаць тут
Сляды ад штыка ці прыклада,
Які тут пакінулі каты,
Шукаючы песень маіх,
І рана, якую пакінуў
Варожы асколак снарада,
Калі мы з баямі ішлі
Па дарогах бясконцых, лясных.

Пра кожнае дрэва і камень
Я ведаю столькі паданняў;
Пра кожную ў полі былінку
Ці голас птушыны ў бары,
Пра золакі ціхія,
Летнія поўдні, змярканні
Бясконцыя мог бы паэмы
Складаць, гаварыць.
А людзі, якія жывуць тут:
Аратыя, бондары, цеслі,
Музыкі і смалакуры,
Танцоры і кавалі!
Адменную іх пазнаеш
Усюды работу і песню.
Дай матэрыял ім толькі,
Зрабіць бы цуды змаглі.

Шмат лепш, як тварэц біблейны,
Праклалі б тут рэчышчы рэкам
І размеркавалі б расліны,
І птушак, і рыб, і звяроў.
Не столькі б сёння прыйшлося
У жыцці выпраўляць чалавеку
Памылак і недаробак
Усіх першабытных майстроў.
Вучыўся ў людзей я — нязнаных
За межамі вёскі, раёна,
Але без якіх не ўяўляю,

Што можа сусвет існаваць;
Вучыўся у іх плесці лапці,
Араць, засяваць загоны
І з сосен, смалістых, гонкіх,
Трывалыя зрубы стаўляць.
А словы складаць у песні,
Легенды, балады, сказы
Я ўзяўся таму, што гэта
Закінутай праца была,
І перад радзімай хацеў я
Выканаць свой абавязак,
Каб слава майго народа
Заўсёды і ў песні жыла.
Не лёгкім, я гэта помню,
Быў песні маёй пачатак.
То дым ад смалістай лучыны
Мае засцілаў радкі,
То чырвань агнёў-пажараў,
То цень ненавісных кратаў,
То ў полі іх снег заносіў,
Этапных дарог пяскі.
Я думаў тады: як пройдуць
Суровыя годы, цяжкія,
Настануць дні веснавыя
І радасныя часы,—
На змену прыйдуць баяны
І казачнікі другія,
Я зноў вярнуся да працы
Знаёмай — плуга і касы.
Але не ўлічыў аднаго я,
Што ў вольнай маёй краіне
Спатрэбіцца болей песень.
І так я народам маім
Прапісаны быў пажыццёва
Да цэху таго, дзе заўсёды
Ідзе несціханая праца
Над словам гарачым, жывым.
Я быў бы шчаслівы бязмерна,
Калі б удалося мне здзейсніць
Надзеі маіх незабыўных
Настаўнікаў і сяброў
І скласці пра нашу радзіму
Такую праўдзівую песню,
Якую, пачуўшы, пазналі б:

Сасна — гоман родных бароў,
Крыніца — гаючую свежасць,
Імклівасць сваю і празрыстасць,
А сонца — зямлю, над якою
Штодзённа з зарою ўстае,
А жаўранак — неба пагожае,
Ранні свой звон серабрысты,
А людзі — крылатыя мары,
Заветныя думы свае.

*1955*

## КАБ ДРУГІ РАЗ БЫЎ...

Песні весялей
Пець бы я пачаў,
Працаваць раней
За ўсіх уставаў,

Больш бы пасадзіў
На зямлі садоў,
Лепшых бы нажыў
Дружбакоў-сяброў,

І не шкадаваў
Сваіх ног і плеч,
І не прапускаў
Незабыўных стрэч,

Больш бы я прайшоў
Сцежак і дарог,
І сваю любоў
Я мацней бярог,

Больш бы даражыў
Кожным днём сваім,—
Каб другі раз быў
Маладзюсенькім!

*1955*

## БАЛАДА ПРА ГАРКУШУ

Як сядлаў Гаркуша варанога
І булат свой уздымаў з размахам,—
Ад дняпроўскіх кручаў і парогаў
Аж за Буг, аж па далёкі захад
Навальніца грозная ўставала,
Гром каціўся па шляхах, далінах,
Адступала панская навала,
Дым клубіўся з гнёзд яе асіных.

Як Гаркуша, ворагаў разбіўшы,
Захапіўшы Мірскага абозы,
Затрымаўся, кроў з булата змыўшы,
Над ракой, над слаўнаю Бярозай,—
Лірнікі яму спявалі славу,
Перасцерагалі: «Гэй, казача,
Не хадзі ў туман на пераправу,
Вораны галодныя там крачуць...»

Як збыліся гэтай песні словы
І Гаркуша, ранены смяротна,
Пакідаў сяброў, палі, дубровы,—
Плакалі ўсе горка і гаротна.
Ён жа загадаў на развітанні
Палкавога пісара паклікаць,
Каб той неадкладна завяшчанне
Напісаў, прымацаваў да пікі:

«Я вам, мае дзеці, пакідаю
Самы даражэйшы скарб на свеце:
Волю і любоў да свайго краю,
Славу — і вы гэта беражэце!
Зараўняйце мой курган нарогам,
Каб на ім век збожжа каласіла,—
На зямельцы роднай гора многа,
Хай жа будзе менш адной магілай...»

— Стой! Што там цямнее за туманам?
Чую нейкі тупат па гасцінцы...
— Бацька! Гэта — сокалы Багдана!
З Крывашапкай едзе Мікуліца!
— Дык хутчэй мне дайце варанога,

Каб братоў сваіх чаканых стрэціць!
Што ж вы, хлопцы, змоўклі ля парога?..
Як не ў час ты заміраеш, сэрца!..

*1955*

## НЕ СЯЧЫ САСНЫ

Не сячы сасны, бо пахіліцца,
Не муці ракі — вір уздымецца,
Не тапчы вясны — цвет асыпецца,
Не журы дачкі, бо пакрыўдзіцца.

Немагчыма ёй, звонкай, маладой,
Прапусціць было стрэчу над ракой,
Вечар ласкавы, ноч з сваёй красой,
Гэту раніцу з майскаю зарой.

Як не слухаць ёй гоману ў палях,
Перазвону хваль, песень салаўя,
Што гавораць ёй неба і зямля,
Голас мілага: «Зорка ты мая...»

Бо нашто тады ёй красу дала,
Белы тварык мыць на расу вяла,
І аб шчасці ёй песні ты гула,
Як маленькаю ды яна была?

Не сячы сасны, бо пахіліцца,
Не муці ракі — вір уздымецца,
Не тапчы вясны — цвет асыпецца,
Не журы дачкі, бо пакрыўдзіцца.

*1955*

## СВАРКА

Ты не ўгаворвай лепш мяне!
Няма сягоння часу мне
Глядзець, як лёд рака ўзрывае,
А то вось раззлуюся я.
Яшчэ не жонка я твая,—
Шмат вёсен у запасе маю!

Ды невядома, што і як
Лепш апрануць у гэткі вечар.
А мне не трэба твой пінжак,
Сабе яго накінь на плечы!

А гразь якая! І няма
Дзе абысці разоры, лужы.
Пусці! Я перайду сама,
Не клапаціся, мілы дружа!

І не нясі, і не мілуй,
А то з дарогі лёгка збіцца.
І асцярожна! Не цалуй!..
Ну, як з табою не сварыцца!

*1955*

## ЖЭТОН

З нержавеючага сплаву гэты быў
жэтон адліты,
Нумар сем мільёнаў трыста сорак пяць.
Я знайшоў яго на полі, дзе шуміць,
красуе жыта,
Дзе варожыя салдаты
сном бясслаўным спяць.

Я яго з пяску ачысціў.
Кім ты быў, забіты вораг?
Я хацеў бы знак твой родным адаслаць.
Ды не знаю, як завешся,
дзе сям'я і дзе твой горад,

Нумар сем мільёнаў трыста сорак пяць.
Толькі знаю: генарал твой
нейкі Крыгсвольф ці фон Шпадэль
З бандай імперыялістаў хочуць зноў
вайну пачаць.
Уставай, сваім ты крыкні,
што зноў смерць рыхтуюць гады,
Нумар сем мільёнаў трыста сорак пяць!

Ці ж ты можаш ім дазволіць,
каб дарогай беззваротнай
Сын пайшоў твой, загубіўшы
маладасць сваю і чэсць,
Каб павесілі на грудзі яму
новы знак смяротны—
Нумар сем мільёнаў трыста сорак шэсць!

*1955*

## ПАРТРЭТ ДРУГА

Не адзін пуд солі разам з'елі мы,
Не адну цыгарку выкурылі мы,
Не адна атака апаліла нас,
Не адна і песня падружыла нас.
А прыслаў партрэт мне, і я ледзь пазнаў—
Хто цябе, мой дружа, так намаляваў?!
Ну, ці ж гэта чуб твой непакорны той,
Што з-пад шапкі віўся хваляй залатой?
Або тыя бровы? Пэўна, рэтушор
Так падвёў алоўкам, сапсаваў іх, чорт!
А якія вочы! Я не бачу ў іх
Той хітрынкі добрай, аганькоў жывых,
Той усмешкі шчырай, светлай, без якой
Нават не ўяўляю цябе, дружа мой.
Ну, а нос? Таксама шмат даўжэйшым быў,
З моцнай самакруткі дым пускаць любіў,
Франтавую кухню без памылкі мог
Адгадаць, ці блізка, ля якіх дарог.
Ну, а рот не помню, ты ці закрываў.
То ў паходзе першы песню запяваў,

То смяяўся звонка, то на ўвесь акоп
Зморашы ў часіны адпачынку хроп.
Можа, цябе жонка падмяніла так?
Не, хутчэй, што нейкі багамаз-мастак,
Бо паверыць нельга, каб ты маху даў,
Не пад свой характар жонку падабраў.
І хоць неадкладных многа разных спраў,
Але твой партрэт, брат, нас усхваляваў,
І рашыла наша дружная сям'я,
Каб цябе наведаў. Заўтра ж еду я!

*1955*

## МОЙ РОДНЫ КУТ

Мне радасна, што на каменні
Знаёмай прызбы, з сосен новых,
Пастаўлен дом.
　　　　　　　　Зары праменні,
Прарваўшыся праз сад вішнёвы,
На шыбах, быццам зайчаняты,
Гуляюць, скачуць.
　　　　　　　　　Сярод хаты —
Стол для частунку, для бяседы,
А на сцяне — рог паляўнічы
І стрэльбіна старога дзеда,
І побач — з кнігамі паліца.
Я ўзяў адну, без пераплёту,
Відаць, шмат па руках хадзіла,
Відаць, чыталася з ахвотай...
«Мой родны кут, як ты мне мілы...»

І ўспомніў я зіму з вятрамі,
Што галасіла над палямі,
Калі мы з дзедам тралявалі
Настыўшыя, цяжкія шпалы.
— Нарэшце дома, дзякуй богу! —
Гаворыць дзед і снег страсае
З паўкажушка свайго старога.
Спаць ідучы, ў мяне пытае:
— А ты зноў не кладзешся разам?

Кнот укруціўшы, каб шмат газы
Не выгарала, я за кнігай
Сяджу гадзіну, дзве... адліга,
Чуваць, за вокнамі хлюпоча.
І дзеду нешта да паўночы
Не спіцца сёння.
Мо шкадуе,
Што я святло і час марную,
Ці мо ў запечку на памосце
Разныліся старыя косці.
І, кашляючы, ён пытае:
— Цікава, што ты там чытаеш,
Што там цябе запаланіла?
— Ну, што ж, паслухай, калі хочаш:
«Мой родны кут, як ты мне мілы...»
— Чакай! Папраў святло, каб вочы
Лепш кнігу бачылі. Вось гэтак!
Цяпер чытай!..
О, як шкада мне,
Што ты, араты,
сейбіт слаўны,
Пакінуў рана свой палетак,
Што больш табе не прачытаю
Я гэтых слоў аб нашым краі,
Якi нам воля азарыла,
Якi нам стаў яшчэ больш мілы.

*1955*

## ПАЭЗІЯ

Я ведаў, што ты — бліскавіца,
Што хмары рассекла;
Я ведаў, што ты — вызваленне
З няволі і пекла,

Вясновая кветка,
Што камень прабіла магільны,
Разведчыка след
На дарозе крамністай і пыльнай;

Я ведаў, што ты — пацалунак,
Ты — дружба і радасць,
Ты — чорствага хлеба скарынка
І сок вінаграда.

А ты аказалася большым:
Ты — кроў, што пульсуе па жылах,
Ты — сонца, якое
Прасторы святлом азарыла,

І без чаго, як без маці
Або без радзімы,
Ні нараджацца, ні жыць
На зямлі немагчыма!

*1955*

* * *

За тое, што я лішні круг
Правёў з яе сяброўкаю,
Не падала мне ў танцы рук,
Дамоў пайшла старонкаю.

Старонкаю, ды праз сады,
Я ж — націянькі аселіцай,
Бо што, калі і сапраўды
Больш да мяне не вернецца?

У хату ўбегла, бачыць — я.
Праз слёзы усміхаецца.
Ах, чараўніца ты мая!
Ах, веснавая раніца!

*1955*

## ДЫМ НАД СТРАХОЮ

Дзень загараецца над гасцінцам,
А за ракою
Пераліваецца і клубіцца
Дым над страхою.

Дым над страхою шчасця былога
Плыве высока.
Вось і хаціна. Мо да парога
Паўсотні крокаў.

Знаю: з вайны тут доўга чакала
Мяне дзяўчына,
Покуль ёй сумны ліст не прыслалі,
Што я загінуў.

Я ж не загінуў. Толькі быў ранен
На полі бою...
І разышліся сцежкі ў тумане,
І мы з табою.

Снегам пушыстым поле і хаты
Прыбраны пышна.
Нехта ў хусцінцы. Пэўна, яна там
На ганак выйшла.

Выйшла на ганак светлай, чароўнай
Зарой світання.
Можа, аклікнуць шчасце сваё мне,
Сваё каханне?

Позна, калі нат і адзавецца
Рэхам былое...
Моўчкі гляджу, як весела ўецца
Дым над страхою.

*1955*

## А ШТО ГЭТА ЗА ДАЛІНА...

А што гэта за даліна ды без рэха,
А зялёная ляшчына без арэхаў,
Ручаіна без жывой-крутой вадзіцы,
Лугавіна без духмянай медуніцы,
А гасціна без гаворкі ды без чаркі,
А дзяўчына без красы прывабнай, яркай,
Без вясёлай песні, ласкавай усмешкі?!!

О, як добра, што я, усе прайшоўшы сцежкі,
Не сустрэў такой даліны і ляшчыны,
Ручаіны, лугавіны і гасціны,
Не сустрэў такой дзяўчыны і не знаю
Ні ў сяле сваім, ні ў цэлым нашым краі!

*1956*

## СА ДНА ПАДНЯЛІ ВАДАЛАЗЫ

Са дна паднялі вадалазы
Затоплены некалі намі
Варожы лінкор. І стаіць ён
Іржавы увесь і прабіты,
З гарматнымі, ўзнятымі ў неба,
Цяжкімі, тупымі ствàламі,
Як прывід вайны ненавісны,
І слізззю, і цінай пакрыты.

Усе параходы і лодкі
Здалёку яго абмінаюць,
Ні песні матросаў, ні чайкі
Яго на зары не вітаюць.
Адна толькі хваля марская
Ўскіпае ля вострага кіля,
Як быццам бы сталь бранявая
Яшчэ ад агню не астыла.

Ці варта было, я не знаю,
З глыбінь падымаць гэты прывід,
Бо з ім, са дна памяці, раптам

Ўсплыло і мінулае гора:
Разбіты рыбацкі пасёлак,
Жанчына стаіць над абрывам,
Галосіць, дзяцей сваіх кліча,
Ў агні і зямля ўся і мора...

Мо лепей абсекчы канаты
І люкі адкрыць і кінгстоны?
Хай з гэтым варожым лінкорам
І даўняе гора патоне,
Бо, нат перакуўшы ў нарогі
Жалеза варожае гэта,
Я чуць буду голас трывогі
І гром кананады над светам.

*1956*

* * *

Я гэта люблю падарожжа,
З якім і зраўняцца не можа
Вандроўка ў любыя Таўрыды—
У казачныя краявіды.

А гэта — вандроўка праз сёлы,
Праз край мой шырокі, вясёлы,
Бясконцыя нівы, дубровы—
Ў маю беларускую мову.

У родную мову, якая
Усімі вясёлкамі ззяе,
Смалістымі пахне лясамі,
Жывымі звініць галасамі.

О, колькі яшчэ не адкрыта
Адценняў у ёй і блакіту,
Патрэбных народу, паэтам,
Каштоўнай руды, самацветаў!

*1956*

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ

Неспадзявана: — Добры дзень!
Я глянуў — сапраўды
Растаў дажджлівай хмары цень
І зацвілі сады.

Ад радасці я не знайшоў,
Каб адказаць, патрэбных слоў.
І ад усмешкі ад тваёй
Красы юнацкай, веснавой,

І ад хады, якой ідзеш,
Не мог адвесці воч...
— Ты падарыла: добры дзень,
Дык падары і ноч.

*1956*

## СУСТРЭЧА

— Дзень добры, маці! Не пазналі?
А я — аднасяльчанін, свой,
Сын Тэклі. З ёй вы сябравалі,
З маёю зналіся раднёй.
Каторы сын? Марцін, сярэдні.
Вы на маім вяселлі нат
Сядзелі за сталом бяседным,
Пець падахвочвалі дзяўчат.
А жонка хто? З сям'і Дзям'яна,
Што лепш за ўсіх сярпы зубіў.
Яе засваталі за Яна,
Але яму я перабіў,
Вярнуў запоіны, гасціны.
Вы, пэўна, помніце, як ён
Пачаў быў на вяселлі біцца,
Ледзь госця выпрасілі вон.
Не помніце?.. Я ж той, што лазіў
У сад па яблыкі да вас...
— Дык што ж, сынок, ты мне адразу
Не прыгадаў пра гэты час!
Цяпер я знаю... Божа мілы!

Якім жа быў ты хлапчуком!
Рваў яблыкі...—
І пагразіла
Сваім бярозавым кійком,
Як быццам бы не даравала
Мне за даўнейшыя грахі.
І сцежкаю павандравала
Збіраць траву ў барах глухіх,
Траву ад розных ран глыбокіх,
Ад дум, што камянём гнятуць,
І ад вачэй, і ад урокаў,
Што спаць начамі не даюць.
І як я не спытаў, не знаю,
Калі яе стрэў ля сяла,
Ці ёсць трава ў яе такая,
Каб маладосць вярнуць магла?

*1956*

## ПРЫЗНАННЕ

Калі б можна так зрабіць, каб твае дарогі
Ды прыходзілі заўжды ля майго парога,

Каб вячэрняю парой мне гасцінна дзверы
Адчыняла ты заўжды, клікала вячэраць,

І, прысеўшы за сталом, так, як гэта трэба,
Мы дзяліліся з табой радасцю і хлебам,

І даверыла б маім ты рукам, дзяўчына,
Ў час начны аберагаць сон твой і спачынак,

І даверыла б яшчэ кожнай раніцою
Пацалункамі будзіць і вітаць з зарою,—

Я адмовіўся б тады ад сяброў і чаркі,
Ад гармоніка свайго, дымнае цыгаркі,

Ад вандроўнага жыцця, што душа кахала...
Ты смяешся... Адкажы: можа, гэта мала?

*1956*

## ПЕРАД ДАРОГАЙ

Відаць, я пад сонцам цыганскім радзіўся,
Ці мо акрапілі бягучыя воды,
Што ўсе адпачынкі, пагожыя дні ўсе
Ў жыцці размяняў на вандроўкі, паходы.

І хоць не з такім хваляваннем сягоння
За свет, у краіны заморскія еду,
Як некалі ехаў праз родныя гоні
Па дровы, па сена, кірмашаваць з дзедам;

І хоць, пакідаючы дом свой, краіну,
Даўжэй, як тады, не адводжу я зроку
Ад белай ў імгле развітальнай хусціны,
Ад родных прычалаў, зямлі і аблокаў,—

І зноў я ў дарозе... Нібыта яшчэ раз
Я пераканацца хачу, як мне дораг
Пакінуты край, дзе зацепліўся верас
У засені наднарачанскага бору.

Нібыта яшчэ раз вачамі сваімі
Здалёк мне праверыць і ўпэўніцца трэба
Ў красе непаўторнай прастораў радзімы,
Ў блакіце майго беларускага неба.

Дык што ж мяне клічаш, дарога, заўсёды?
Дык што ж мяне вабіш ты новаю казкай?..
Відаць, акрапілі бягучыя воды,
Відаць, я радзіўся пад сонцам цыганскім...

*1956*

## ДОМ РЭМБРАНТА

Хоць дыхае сцюдзёны вецер з Зойдар-Зе,
Асенні сонца дыск гайдаецца ў вадзе

Паміж адлюстраваных мачт
партальных кранаў
І якараў «Пабеды», «Варміі», «Арані».

На кацеры плывём, і грузчыкі здалёк
Вітаюць нас. Гучыць прарэзлівы гудок,

І рэха паўтараюць прыстані кварталы,
І мы ўрываемся у лабірынт каналаў.

Абапал кроны дрэў і сцены камяніц,
Сярод якіх яшчэ крок Рэмбранта гучыць.

У пераплёце крат цямнеюць вокны тыя,
Што бачылі яго і шыбы, праз якія

На пэндзаль ападаў, іграючы, прамень,
Жывы прамень жыцця і неадлучны цень.

Хвіліну пастаім, бо, можа,
ў гэты поўдзень
Калі не Рэмбрант сам,
дык Хейндрыке тут пройдзе

У блізкую аптэку (хворы гаспадар),
У краму, на Старызны заглянуць базар,

Дзе, можа, ўдасца ёй
купцам з далёкіх портаў
Хоць за бясцэнак збыць апошнія афорты.

Нікога не відаць... Дрымотна на канале
Плывуць лісты, што з дрэў паападалі.

Ну што ж, яшчэ хвіліну пастаім —
Не можа быць дом Рэмбранта пустым!

*1956*

## ПЭР-ЛАШЭЗ

На Пэр-Лашэз — трагічная сцяна,
На Пэр-Лашэз — вянкі і цішыня.

Вянкі гавораць аб бяссмерці тых,
Што палі ў бітве, аб любві жывых,

Аб тым, што боль у сэрцы і цяпер...
А цішыня? Ніколі ёй не вер!

Яе тут не было і ў тыя дні,
Калі пагаслі барыкад агні,

Калі задушан быў народны гнеў,
Калі заключны стрэл тут прагрымеў.

Прыслухайся, як дрэў шумяць лісты,
Як час ідзе, і зразумееш ты:

Хоць і маўчыць трагічная сцяна,
Тут цішыня — прад бурай цішыня.

*1956*

## У ЛУЎРЫ

Джыяконда! Я, можа, адзін з закаханых,
Што прызнаннем не будзе табе дакучаць,
Хоць праехаў нямала дарог, акіянаў,
Каб пабачыць цябе, каб цябе прывітаць.

І таму мне не лёгка расстацца з табою
(Хоць даўно ўжо мінуў аўдыенцыі час),
Не спытаўшыся, што ты за ўсмешкай сваёй
Скрыла ад Леанарда, хаваеш ад нас?

*1956*

## ВЕНЕРА МІЛОСКАЯ

Як жа знайсці мне яе тут, дзе поўна
Розных Палад, Афрадытаў, Медэяў?
Добра, што ты мне, Вергілій, прыпомніў:
«Et vera incessu petuit dea»[1].

---

[1] Сапраўдная багіня пазнаецца па паходцы *(лац.)*.

Бачу: ідзе яна лёгкай хадою.
Рук няма. Пэўна, маланка скрышыла,
Каб перад небам і перад зямлёю
Імі грудзей сваіх не засланіла.

*1956*

## БАГІНЯ ПЕРАМОГІ

Самафракійская Ніка
лёт на хвіліну спыніла,
Пра перамогу прынёсшы
звестку ў Эладу сваю.
Радасцю дыхаюць грудзі,
высака ўзвіхраны крылы.
Ледзь я знаёмую постаць,
рысы яе пазнаю.
Праўда, калі з ёю стрэўся,
ў наступ рашучы ішлі мы
Па здратаваных прасторах
і па шляхах франтавых,
Іншай яна выглядала
ў хмарах і пылу, і дыму,
У шынялі і ў пілотцы,
ў кірзавых ботах цяжкіх.
Помню, як плакала ціха
ноччу над брацкай магілай,
Як памагала салдату
раны яго бінтаваць...
Толькі — у той цёплыя рукі,
ў гэтай — каменныя крылы...
Не, гэта — пэўна не тая!
Як жа я мог не пазнаць!

*1956*

## НЕАПАЛЬ

Сірэнаў пераклічка будзіць порт.
Нібы мурашкі, баржы на буксіры
(Адна «Цырцэя», а другая «Ліра»)
Наш цягнуць велізарны цеплаход.

Вось і прычал. Ужо апалі трапы.
Каля вакзала некалькі шпікоў,
На вуліцы ватага гандляроў,
Гатовых за грашы прадаць Неапаль.

Ледзь прарываемся праз іх заслон.
Ідзём парадна, шумнай via Roma,
А потым нейкай вуліцаю стромай,
Дзе муляры замешваюць бетон,

Дзе столькі шуму, гоману і крыку,
Дзе сушыцца на вуліцах шмаццё,
Дзе бачыш ты знаёмае жыццё
Па фільмах Расаліні і Дэ Сіка.

На мешаніне розных жэстаў, моў
Гаворым мы з рабочымі, якія
Пытаюцца ў нас пра Маскву, пра Кіеў,
Пра Беларусь, пра нас — сваіх сяброў.

І хваляць родны горад, хваляць мора,
Хоць тут на хлеб не лёгка зарабіць.
Нат і Везувій перастаў курыць,
Жартуюць, бо тытунь сягоння дораг.

А горад, што казаць, другі такі
Шукай, не знойдзеш ты на ўсёй планеце.
— Пабачыўшы яго, не страх памерці,—
Гавораць старажылы, маракі.

Я пагаворку б гэту перайначыў:
Хто раз хоць на Неапаль паглядзіць,
Аб смерці не захоча гаварыць.
А дзень стаіць прыпарлівы, гарачы.

Нат не ратуе нас і піній цень,
Што высяцца на кручах Сант Марціні.

І ўсё ж, калі туман прыйшоў з даліны,
Было шкада, што адыходзіў дзень,

Бо з ім знікалі перад нашым зрокам
Везувій,
        горад,
                скалы берагоў
І чайкі, што ляцелі з астравоў
Над Неапалітанскаю затокай.

*1957*

## AVE MARIA

Звон кафедральны кліча на Ave.
З цесных завулкаў злева і справа
Гуртам манашкі ў чорным адзенні
Цягнуцца, быццам сумныя цені.
Тут і старыя, і маладыя,—
Ave Maria...

Я не звярнуў бы і ўвагі, можа,
Каб не пабачыў між іх прыгожай
Стройнай манашкі, якая мае
Не больш хіба як семнаццаць маяў;
Чорныя вочы, бровы густыя,—
Ave Maria!

Нат пад жалобнай вопраткай чорнай
Ты адгадаеш: стан непакорны,
Ножкі, якімі б на карнавалах
І захапляла і чаравала,
Смуглыя рукі, грудзі тугія,—
Ave Maria!

Глядзіць набожна на крыж пятровы,
А я малюся на яе бровы:
Няўжо, красуня, ты не шкадуеш,
Што хараство і жыццё марнуеш?
Як танцавалі б ножкі такія,—
Ave Maria!

Цябе атрутаю апаілі,
Ружанцам рукі табе скруцілі.
Смялей парві ты яго, не бойся!
У полі недзе шуміць калоссе...
О, як бы жалі рукі такія,—
Ave Maria!

А потым хутка прыйшло б каханне,
Страчала б з мілым свой золак ранні.
А потым стала б ты гаспадыняй
І калыхала б сваю дзяціну!
О, як кармілі б грудзі такія,—
Ave Maria!

Не знаю, можа, мая малітва
Выйграць бы мне памагла гэту бітву,
Але пазвалі яе; манашка
Пайшла за ўсімі, ўздыхнуўшы цяжка,
Пад зводы змрочныя і глухія,—
Ave Maria!..

*1957*

З кнігі

# «МОЙ ХЛЕБ НАДЗЁННЫ»

1962 г.

## МОЙ ХЛЕБ НАДЗЁННЫ

Непакой за цябе, зямля мая,
За твой ураджай, спакойны сон,
За дрэва кожнае ў гаях,
За весніх песень перазвон,
Непакой за цябе, зямля мая,—
Мой хлеб надзённы.

Часамі ён горкі ад пылу быў,
Часамі салёны ад слёзаў быў,
Часамі гарачы ад пораху быў,
Але і салодкі ад дружбы быў
Мой хлеб надзённы.

І не кладзіце мне хлеб другі
У кайстру, калі я ў дарогу іду,
На стол, калі бяседу вяду,
На сэрца, калі на ім рукі складу.

*1957*

## СТОЛ

Пра гэты стол вам раскажу я,
Таму што з'яўляюся сынам
Вядомага бортніка Янкі
І ўнукам музыкі Кузьмы,
Які, зноў па лініі простай,
Быў спадчыннікам Каліны,
Што стол змайстраваў, за якім так
Ахвотна збіра́емся мы.

Стол гэты... Не, лепш па парадку
Гісторыю ўсю раскажу я.
Мой прадзед, які тут калісьці
Прыстанішча аблюбаваў,
З далёкага панскага лесу,
Казалі, на хату старую
Адзін на плячах сваіх дужых
Бярвення і лат нацягаў.

І, можа, ніхто не раскрыў бы
Ніякай парубкі-пакражы,
Бо ўмеў па-майстэрству Каліна
Сляды за сабой заціраць:
Пень свежы прыкрые ядлоўцам,
Прысыпле ігліцай, замажа,—
І дзе тут стаяла хваіна,
Не зможа сам чорт адгадаць!

Але ён пакваліўся ссекчы
На плашкі, на шуліны, дылі
Найбольшую старку на ўзлессі,
Хапіліся тут леснікі.
І пану данеслі, што ноччу
Каліну яны асачылі,
Злавіць пабаяліся толькі,
Бо зналі, асілак які.

Прыйшлі панятыя і соцкі,
Прыехаў і пан з леснікамі,
Здзівіўся: — Няўжо столькі лесу
Хто зможа адзін нацягаць?
Няйначай, яму памагала
Усё пекла з сваімі чарцямі!..
Хутчэй сеў у брычку ды — ходу.
Каліну сказаў не чапаць.

З камля старкі дробнаслаістай
Стаяк быў пастаўлен пчаліны,
З якога раіліся пчолы
Няспынна гадоў, можа, сто;
Ступ некалькі вычасаў добрых
Сабе і суседзям Каліна,
А з плашак стрыжнёвых, суцэльных
Зрабіў сабе лавы і стол.

Па бацьку з падзелу дастаўся
Стол меншаму сыну — музыку,
Якому, па праўдзе сказаўшы,
Ну дужа патрэбен ён быў,
Бо сам Кузьма вечна бадзяўся
Па свеце шырокім, вялікім,
Таму за сталом сваім рэдка
І хлеб і бяседу дзяліў.

Цікавым ён быў самародкам
Між аднасяльчан-хлебаробаў,
Умеў гаварыць далікатна:
— Дай божа, каб гожа было...
Шануючы неба, зямельку,
І сонца, і вашу асобу...
Без прыказкі чаркі не вып'е,
Не ступіць праз хату, сяло.

Калі ж валачобнікам быў ён,
Хапала дароў механошам.
Аб гэтым і сёння пасведчаць
Старыя музыкі-сябры...
Шкада мне, што простыя рэчы,
Напрыклад, вось стол гэты з дошак,
Даўжэйшы часамі век маюць,
Як самі іх творцы, майстры.

Калі ж пакідаў свет музыка,
Яго на стале адпявалі.
З ім разам і скрыпку паклалі,
Бо жыць без яе ён не мог.
І свечку далі, каб у цемры
Душа яго не вандравала
Сярод невядомых сузор'яў,
Сярод незнаёмых дарог.

Сягоння ўжо стол мае выгляд
Не гэткі, як у маладосці,—
У шрамах увесь і кульгавы.
Я мог бы шмат лепшы нажыць,
Але, хай прабачаць суседзі,
Даруюць шаноўныя госці,
Ніяк не магу з ім расстацца
І памяццю не даражыць.

На гэтым стале мне прыйшлося
Буквар свой раскрыць і вучыцца,
І першы буханак раскроіць,
Зароблены працай сваёй;
За гэтым сталом шырачэзным
У годы вайны-навальніцы
Не раз мы збіраліся дружнай
Усёй партызанскай сям'ёй.

І як жа мне не ганарыцца
Сваімі сябрамі і славай,
Што ў нас за сталамі працоўных,
Сталамі, як гэты — з сасны,
Усе вырашаюцца спрэчкі
І розныя важныя справы,
Складаныя справы кахання,
Жыцця і маёй стараны.

*1957*

* * *

— Скажыце, матуля, ці болей ніколі
Дачка ваша тут не гасціла?
І ці не сумуе па роднаму полю,
Па сцежках, дзе разам хадзілі?..

Ці муж яе добры, ці згода ў іх доме?
А ў пісьмах, што вам прысылала,
Пра даўнюю дружбу, сяброў і знаёмых
Ні разу ў вас не запытала?..

Сяджу за сталом, дзе сасновыя дошкі
Ад брагі вясельнай набраклі,
І шчасця мінулага чэрствыя крошкі
Збіраю, як быццам жабрак той.

Як быццам змагу заспакоіць свой голад,
Калі буду знаць да драбніцы,
Што піша матулі ў свой родны пасёлак
Юнацтва майго чараўніца.

*1957*

## БРАТНЯЙ ЛІТВЕ

Літва, Літва! Цябе я палюбіў
Яшчэ тады, калі варожы вецер
Гнаў хмары над прасторам тваіх ніў
І марылі аб хлебе твае дзеці;

Калі не кожны нат прыкмеціць мог
Красу тваіх узгоркаў і далінаў
І рэдка за сасновы твой парог
Пераступала шчасце у гасціны;

Калі свабоды нашай светлы дзень
Ледзь пачынаў гарэць зарою дальняй...
Літва, Літва! Як сонечны прамень,
Звіняць у маім сэрцы твае дайны.

Таму з наднарачанскіх берагоў
Ўглядаюся заўсёды з хваляваннем
У далячынь, дзе край маіх братоў,
І з песняю табе шлю прывітанне.

Шлю прывітанне Вільнюсу, з якім
Мяне здружыла маладосць навекі;
Шлю прывітанне я палям тваім,
Шляхам шырокім, паўнаводным рэкам,

Хацінам тым, што ў ранні, ў позні час
Гасцінна свае дзверы расчынялі,
І прыдарожным студням, што не раз
Салдацкую нам смагу наталялі.

Літва! Літва! Як мне не паўтараць
Тваё імя, што стала родным гукам!
Я рад, што зноў магу пацалаваць
Мазольныя твае, як маткі, рукі.

*1958*

## КОНАЎКА

З гільзы пустой, у якой некалі
смерць начавала,
Зроблена добрая конаўка.
Служыць каторы ўжо год!
Толькі заўжды, калі п'ю з яе,
у залацістым метале
Бачу сваіх незабыўных сяброў,
у агні небазвод...
І гаркаватым, як слёзы,
нават становіцца мёд.

*1959*

* * *

Якія раслі тут бярозы
На гэтых пясчаных наносах!
Калі б ні вяртаўся дадому,
З далёкай ці блізкай дарогі,
На іх вузлаватых карэннях
Заўсёды грымелі калёсы,
Нібы гаварылі: — Прачніся!
Ты ўжо ля свайго ля парога...

Ды знішчыла іх навальніца,
Што ў гады вайны бушавала.
Але і сягоння, калі б я
На родныя гоні ні ехаў,
На месцы, дзе некалі ў полі
Знаёмыя дрэвы стаялі,
Мне чуецца бразгат калёсаў—
Юнацтва мінулага рэха.

*1959*

* * *

Я часта прыпыняюся каля сталоў,
Дзе разлажылі прадаўшчыцы зёлкі,
Сабраныя з усіх лугоў, палёў,
На скрыжаваннях і на валатоўках,

Сабраныя у векавым бары
Пры ветаху, маладзіку і поўні,
З расою святаянскаю, у поўнач,
Да пераклічкі пеўняў, да зары.

Купляюць зёлкі: маці — загаіць
У сэрцы рану пасля страты сына;
Купляе маладзіца ці дзяўчына...
Нашто? Хіба каго прываражыць,

Пялёсткі ўплесці паміж кос густых,
Каб быць і маладой, і неўміручай!..
І я ў век атамны купляю іх,
Бо веру ў сілу родных траў гаючых.

*1959*

## НА ВЫСТАЎЦЫ АБСТРАКЦЫЯНІСТАЎ

Я не знаю, ці шчыра вы хваліце вобраз—
Вакханалію дзікую ліній і плям.
Можа, вочы мае не ўвесь свет бачаць добра,
Але я не магу ім менш верыць, як вам.

Мае вочы адкрылі свет фабраў і красак,
Не адзін правялі ў бурны час карабель,
Не спускалі з прыцэлу варожую цэль,
Міжпланетных ракет бачаць дальнія трасы.

І калі б я быў вашым каханкам ці мужам,
І калі б хто асмеліўся і напісаў
Так бязбожна каханае вусны, як ружы,—
Да яго секундантаў сваіх бы паслаў.

*1959*

## БЕШТАУ

Прывет, пяцíглавы Бештау!
Ты бачыў нямала—
Стагоддзі маршчынамі ўкрылі
Чало тваіх скалаў.
Аб чым ты ўсё думаеш думу
І позна і рана?
Аб выраі, што адлятае
Ў даліну Ірана?
Ці, можа, аб хмарах,
Што па-над табой пралятаюць?
Ці, можа, аб лісцях асенніх,
Што з дрэў ападаюць?
Маўчыш?.. Я, паслухай,
Прыйшоў пакланіцца мясцінам,
Дзе жыў у выгнанні паэт
І прадчасна загінуў.
Што ж не засланіў ты
Сваімі грудзьмі яго сэрца
Ад кулі фатальнай, ліхой,
Ад бязлітаснай смерці?..
І дрогнуў Бештау,
На бронзавы глянуўшы помнік:
— Нашто ты пра гэта мне ўспомніў,
Далёкі вандроўнік?!.
І, каб я не ўбачыў
Каменныя слёзы на твары,
Прыкрыў галаву сваю
Цёмнай папахаю хмары.

*1959*

## СТАРЫ МОСТ

Мост гэты цудам уцалеў.
Яго забылі мы ў свой час
Ці не паспелі падарваць
Пры адступленні, а калі,
Сабраўшы сілы, мы ізноў
Рашуча ў наступ перайшлі,
Дык вораг з мінамёта біў,

Бамбіў яго дзесятак раз.
Мост гэты сёння стараной
Ўсе абмінаюць ноччу, днём,
Бо, калі ўз'едзе калясо
Ці конь ударыць капытом,—
Грыміць, як клавішы, насціл
І між праломамі відаць:
Пераліваецца, блішчыць
Глыбокай завадзі вада.
Блішчыць вада. Я ж не магу
Вачэй адвесці ад яе.
Няўжо і ценяў не відаць
Тых, што забрала ў дні вайны?
Мо водарасці — рукі іх,
Працягнутыя з глыбіні
Да зелянеючых бяроз,
Да сонца, што з зарой ўстае?..
І мо таму сягоння мне
Праз гэты мост цяжэй ісці,
Як у той час, калі агонь
Шалеў над хвалямі, ў трысці,
Калі мы рваліся найбольш
Прайсці дарог, мастоў і рэк,
Калі ніхто не ведаў з нас,
З кім развітаецца навек...

*1959*

## ПЕЧ

Сябры мае, ці засыналі калі вы
На печы, пад спеў цвыркуна сіратлівы?

Ці бачылі, як маці ранняй часінай,
Узяўшы смалісты агарак лучыны,

Схіліўшыся, дзьме на вуголле ў пяколку,
Пакуль яно не разгарыцца вясёлкай?

Ці грэлі вы змерзлыя рукі ля печы
Пад гукі і казак і песень спрадвечных,

Загледзеўшыся, як агонь весяліцца
І скача па дровах жаўною, сініцай?

А бачылі, як у гаршках закіпае
Бацвінне ці бульба — і пена шугае?

Як пражыцца боб і гарох на патэльні,
Пякуцца бліны з караваем вясельным?

Як сушацца ягады, зёлкі з грыбамі —
Тугімі, паджарымі баравікамі?..

Я мог бы, сябры, звонкай одаю нават
Ці нейкай паэмай печ хатнюю ўславіць.

І ўсё ж я шкадую, што з доменнай печчу
Я меў мімалётную толькі сустрэчу.

Напэўна, была б мая песня званчэйшай,
На тоны руды залатой багацейшай.

*1959*

## РОЗДУМ

Не знаю, калі я паспеў пастарэць,
Расстацца з юнацкімі марамі;
Амаль развучыўся смяяцца і пець,
Узброіў свой нос акулярамі.

Больш стаў ў прэзідыумах засядаць.
Чытаць усім праўды вядомыя.
Дзяўчаты зусім на мяне не глядзяць,
І «дзядзем» завуць незнаёмыя.

Мо ў дурня згуляць мне суседа пазваць?
Ноч месячная над ваколіцай.
Ад рыфмаў дакучных баліць галава,
Да раніцы мучыць бяссонніца.

Прывык да дыеты, да цёплых галёш,
Да лазні з бярозавым венікам.
Пісаць пачынаю ўсё горш я і горш —
Пара выбіраць акадэмікам.

*1959*

## ШЧАСЦЕ

Простае шчасце людское,
Так як і наша з табою,

Пэўна, складаецца з солі,
З хлеба, сабранага ў полі,

З поту, дарожнага пылу,
З роднага небасхілу,

З дружбы, мацнейшай ад смерці,
З песні... І так мне здаецца:

Каб з чаго іншага скласці,
Дык ці было б яно шчасцем.

*1960*

## НА ПРАДМЕСЦІ, ДЗЕ ДАМЫ МАЛЕЮЦЬ

На прадмесці, дзе дамы малеюць,
А шырэюць градкі перад імі,
Некалі жыла мая надзея,
З косамі тугімі, ільнянымі.

Вуліцы ўсе тут былі пагнуты,
Глейкія калдобіны абапал.
Вечарамі граў гармонік люта
У заезным доме «Воўча лапа».

Тут народ жыў бедны і суровы.
І, каб не праслыць сентыментальным,
Я прыносіў кветкі з ніў вясновых,
Захінуўшы іх у цень змяркальны.

А калі пісаў лісты з-за кратаў,
Так было ў іх слоў патрэбных мала
І так многа з класікаў цытатаў—
Як, не знаю, іх яна чытала!

Як з няўдалых маіх вершаў ранніх,
Скрэсленых, знявечаных цэнзурай,
Адгадала аб маім каханні,
І не толькі — да вясны і буры?

Мо таму і сёння мяне вабяць
Вуліцы забытыя ускраін,
Дзе шумяць ліствой каштаны, грабы,
Дзе гармонік заліхвацка грае.

*1960*

## НА ЗЯМЛІ СУОМІ

Хіба таму, што я з такога ж краю,
Які не перад кожным раскрывае

Адразу хараство сваіх прастораў,
Лясоў, далін, узгоркаў і азёраў,—

Мне спадабалася зямля Суомі
У шуме сосен, вадаспадаў громе,

У нелінючай зеляніне гойнай,
Якой яе ўпрыгожыў Вяйнямёйнен;

Зямля, дзе некалі анёл, гавораць,
Ваду нёс у каўшы з алмазных зораў,

Ды спатыкнуўся і разліў яе тут,
Сярод лясоў, гранітных скалаў гэтых,

Дзе ажно шэсцьдзесят пяць тысяч б'ецца
Азёр, калі сюды заблудзіць вецер.

А вецер тут заўсёды гаспадарыць
На падуладных сіверу абшарах.

То ён рагоча, то ён свішча, плача,
Ўздымае ліст асенні, хмары качак;

То дужаецца з пушчамі, лясамі,
Пакуль не зляжа сам пад іх камлямі...

І хоць сягоння між табой і мною
Нямала вёрст, занесеных пургою,—

Я чую звон тваіх, Суомі, струнаў,
Я чую голас незабыўных рунаў.

*1960*

## ГАВАРЫЛІ МНЕ КАЛІСЬЦІ

Гаварылі мне калісьці,
Што на поўначы далёкай—
Толькі колер чорны скалаў
Або снегу белы колер,
Толькі ветру скавытанне
Або ціша зор палярных
І народ з крывёй халоднай,
Больш маўклівы і суровы.

Але я, стары бадзяга,
Веру больш вачам уласным.
Больш сваім вушам і носу,
Як усякім байкам-чуткам,
Нават сведкам верагодным.
Бо хто знае, ў колькі чарак
Вочы іх глядзець глядзелі,
Чым былі заняты вушы,
Нос з якой таўлінкі нюхаў?

Хоць сезон быў не турысцкі:
Час сустрэчы лістапада
З першым сіверам паўночным,
А дажджу — са снегам колкім,
А людзей — з праклятым грыпам,—
Скалы, лес, азёры, скалы
Ў непаўторным спалучэнні
Што ні крок мяне спынялі
Шматкалёрным сваім бляскам,
Шматгалосым сваім шумам,
Быццам нехта у задуме
Граў на кантале, нябачны.
Што да чутак аб народзе,
Не магу не запярэчыць:
Гаспадарны, працавіты,
Як і наш народ, гасцінны.
Што да холаду, дык, праўда,
Часта бачыў за сталом я
Глыбы лёду, але ў іх быў
Замарожаны сок хмельны
З ягад тундравых, які мы
З фінамі пілі за дружбу.

Пра дзяўчат блакітнавокіх,
Стройных і светлавалосых
Я адно скажу: напэўна,
Гарачэйшая ў іх жылах
Кроў цячэ, як у Венеры.
Бо на скверы Эспланада
Колькі год стаіць Русалка
Пад струменямі фантана,
Пад палярным ззяннем неба,
Пад сцюдзёнымі вятрамі,—
І не мерзнуць яе ногі,
І не ледзянеюць грудзі,
І не стынуць яе вусны,
Толькі ўсмешкаю чаруе,
Толькі сон з вачэй зганяе
Ды змушае сэрца біцца
І складаць напевы-руны
Гэтым водам, гэтым скалам,
Гэтым соснам і бярозам —
Яе казачнай радзіме.

*1960*

## ТАПОР

Ва ўсім, вядома, вінават адзін тапор:
Я не пайшоў бы, каб не ён, у цёмны бор,

Не высек бы хваіны гулкай і з яе
Не змог бы змайстраваць цымбалы я свае.

А не было б цымбалаў гэтых —
хто б пазваў,
Каб на вяселлі [redacted] «Лявоніху» іграў?

А не іграў бы — не паднесла б мне яна
З усмешкай ветліваю хмельнага віна

І пад вясёлы смех і чарак пераЗвон
Не захапіла б майго сэрца у палон.

Цяпер штоноч іду, крадуся ў яе двор...
Ва ўсім, вядома, вінават адзін тапор.

*1960*

## СКАРГА БУРКУНА

«Пэўна, канец настае ўсяму гэтаму свету:
Часта мяне будзіць джаза шалёнага роў,
Мала пашаны да каранаваных паэтаў,
Акадэмічных палоцен вядомых майстроў;
Шмат захапляецца хто Карбюзье і Пікасам,
Спортам і танцамі, моднай прычоскай валос;
Думаюць нават ляцець на міжзорныя трасы
І ўжо не вераць ні ў бога, ні ў чорта, ні ў лёс;
Нашых дзяцей захапіў супярэчнасці вірус,
І ўжо зусім развучыліся слухаць бацькоў...»
Кажуць, што ёсць старажытны ў Стамбуле
папірус
З гэткай жа скаргай,
якой больш трох тысяч гадоў.

*1960*

## ШАРЫ

— Купляйце шары! Купляйце шары!
Глядзіце, як кожны з іх ярка гарыць!

І вусны, якія мне спаць не даюць,
Стараюцца шар васільковы надзьмуць.

І вось ён, вясёлы, над кронамі дрэў,
Пад самае майскае сонца ўзляцеў.

Ты рада, смяешся. Мне ж крыўдна да слёз:
Ён столькі тваіх пацалункаў панёс!..

*1960*

## З ВЯСЕЛЛЯ

Вяртаюцца госці з вяселля,
Відаць, хмель яшчэ не прайшоў,
Бо ўсё, што не раз перапелі,
Спяваюць заўзята ізноў.

Не можа іх уціхамірыць
Ні бразгат калёсаў, ні ноч,
Ні чэрвеньскі бурны і шчыры
З грымотамі гулкімі дождж.

І толькі ў маланках імклівых
Убачыш, разбуджаны, ты
Лятучыя конскія грывы
І поўныя грому раты.

*1960*

## СЯМЕЙНЫ ФОТАЗДЫМАК

Дома чамусьці вяртаюся я
Да маленства ізноў.
Жытняй саломаю пахне
Туга набіты сяннік.
Быццам музыкі ў цымбалы,
Звініць талака камароў.
За пастаўню зачапіўшыся,
Ў хату глядзіць маладзік.

Дзедава стрэльба вісіць.
Час у музей яе здаць.
Рог, на які адклікалася
Кожнае дрэва ў бары.
А ля яго — фатаграфія даўняя.
Цяжка пазнаць
Твары знаёмых,
Хоць іх маладзік азарыў.

Прыпамінаецца мне
Ўсё, што калісьці было:
Нейкі вандроўны фатограф
Спыніўся каля варот,
Узбударажыў з канца ў канец
Наша глухое сяло,
Свой апарат прывалокшы,
Як калаўрот.

Доўга ўгаворваў бабку
За дзесяць яек зрабіць
Здымак на памяць унукам.
Дарагавата загнуў.
Толькі мой дзед, хоць стары,
Часам любіў пафарсіць,
Патаргаваўся і неяк
Згадзіўся на гэту цану.

Тыя, што ў шэрагу першым,
Пакінулі хату даўно.
Нат валуны надмагільныя
Мохам сівым параслі.
Ззаду стаім, маладзейшыя,—

Ўсе басанож,
Так, як вярнуліся з паствы,
Ад свежай раллі.

Збоку — сястра трохгадовая
Ляльку трымае сваю;
Маці — ў хусцінцы, завязанай
Пад барадой;
Тут паміж імі і я,
Выцягнуўшыся, стаю,
Каб хоць дастаць як
Да бацькавых плеч галавой.

Самае дзіўнае, што
Ўсіх захапляла ў сяле,
Гэта быў фон, на якім
Знятыя ўсе мы былі:
Нейкі палац у калонах,
Нейкія пальмы ў імгле,
І міма нашага гончага
Лебедзі мірна плылі.

Сёння, калі я паўсвета
Аб'ездзіў і абышоў,
Так мне шкада, што фатограф
Гэтай мазнёй засланіў
Курную хату маю,
Грэбень дрымучых лясоў,
Воблакі тыя, што таялі
Ў сонцы, за ўзгоркамі ніў.

І ўсё ж удзячны яму я
За фотаздымак стары,
За незабыўныя вобразы
Блізкіх мне і дарагіх.
Хоць, як гавораць сучасныя
Крытыкі, рэдактары,
Шмат пеpажыткаў было
І недахопаў у іх.

Праўда, нямала пры гэтым
І рысаў дадатных было:
Як працавітасць, сумленнасць,
Любасць да роднай зямлі...

І паміж тых, кім сягоння
Славіцца наша сяло,
Думаю, што не апошнімі
Гэтыя людзі былі б.
Верны іх звычаю,
З сонцам
я і сягоння ўстаю,
Хлеб крышыць асцерагаюся,
Дрэвы калечыць і цвет,
Камень прымаю з дарогі,
Пеўняў люблю, як пяюць,
Больш, як барометру, веру
Тысячам розных прыкмет.

Вось і цяпер — невыразнымі
Сталі ракі берагі,
Шэрае пер'е аблокаў
Вецер світальны нясе.
Покуль пагодзіць і годзіць,
Сена сабраць бы ў стагі.
Час падымацца і мыцца
З сонцам у ранняй расе!

*1960*

## У ФЛАРЭНЦЫІ

Дзівак, які дзівак!
Пасля дарог цікавых
Ты захацеў яшчэ
Фларэнцыю наведаць,
Прайсці паўз Стары Мост,
Што, як каханых рукі
Ці аркаю санет,
Два полымі злучае,
Пакінуць сэрца тут
На плошчы Сеньёры,
Хвіліну пастаяць
Прад несмяротным Дантэ.
Бо кожны камень тут
Яго радком палае,

Ён штодзень галубоў
З рук мармуровых корміць.
Што ж анямеў, стаіш?
Тут мала захапляцца!
Жывым тут грэх маўчаць.
І страх азвацца вершам.

*1961*

## СОНЕЧНЫ ГАДЗІННІК

Кожны купляе гадзіннік,
Каб не спазніцца на стрэчу з каханай,
На службу, на працу.
Я сонечны маю гадзіннік,
Які ўжо нямала гадоў
Без рамонту мне служыць.
Праўда, у кішэнь не паложыш яго
І не прымацуеш яго да рукі.
Але ён надзвычай дакладны.
Калі хто спытае:
— Якая гадзіна? —
Спынюся,
Як дзед мой ці бацька,
Ступнёю адмеру свой цень
І час да мінуты акрэслю,
Час весніх патокаў, сяўбы,
Уборкі хлябоў,
Ладзьбавання,
Вяселляў.
Ніводзін гадзіннік —
Сярэбраны ці залаты —
Не можа зраўняцца
З гадзіннікам сонечным гэтым.
Бо ён адзначае
І час нараджэння,
І час развітання з зямлёй,
Калі цень мой знікне
На вечназялёным
Яго цыферблаце.

*1961*

* * *

Перш непакоіўся:
Як сваю думку ўпрыгожыць.
І, як дзікун той,
Стараўся абвешаць яе
Цацкамі,
Рознакалёрнымі стужкамі,
Пацеркамі —
Старым і аджыўшым
Свой час рэквізітам.
Быццам зары ці траве
Патрэбны хімічныя фарбы,
Грому — літаўры і трубы.
Толькі шкада змарнаванага часу.

Сёння стараюся забыць
Вобразы каменнага веку,
У якім я радзіўся;
Словы бронзавага веку,
У якім я хрысціўся;
Забыць багоў жалезнага веку,
З якімі не раз я спрачаўся,—
Каб у наш час
Міжпланетных палётаў
І вершу даць строгую
Форму ракеты
І вывесці беспамылкова на трасу —
Да сэрца.

*1957*

## ЦІ БАЙ-ШЫ

Магіла Ці Бай-шы з Сянь Таня.
*Надпіс на пліце*

Не плачце над магільнаю плітой,
Як вербы сіратлівыя ў цішы.
Вы думаеце — тут закончыў свой
Бясконцы шлях вялікі Ці Бай-шы?
І я так думаў, калі руж вянок

Прынёс пакласці на яго парог,
Дзе, прытаіўшыся, лёг
Змрок.

Прыслухайцеся: чуцен птушак звон,
Якіх стварыў на радасць людзям ён.
Пасаджаныя туі на зямлі
Пад неба кроны вечныя ўзнялі,
А кветкі, што радзіме падарыў,
Гарачь барвовым водсветам зары!

Жыве ён у птушыных галасах,
У лотасе расцвіўшым, у траве,
У вадаспадах, горах і лясах,
У сэрцах землякоў сваіх жыве.
І не дзівіся, глянуўшы на свет,
Калі ў абрысе дрэў, скал, берагоў
Убачыш пэндзля яго
След.

*1957*

## БЕЛЫ КОНЬ

Будыйскія манахі два,
Джуфалэй, Шэлудзін,
На белым скакуне сюды прывезлі свой канон.
Для іх паставіць загадаў сам імператар Мін
Цудоўны храм і ў чэсць каня даў назву:
Белы Конь.

Багі тут аджылі свой век, і іх забыў народ.
Амаль дзве тысячы гадоў тут цішыня і змрок.
Каб не манах, што вартавым стаіць каля варот,
Напэўна б і каменны конь з манастыра уцёк.
Бо, толькі я застаўся з ім, ён ціха запытаў,
Ці не памог бы я яму ўцячы на росны луг,
За што удзячны быў бы ён, і нават абяцаў
Аж да апошніх дзён сваіх цягаць жалезны плуг.

*1957*

## БРОНЗАВАЕ ЛЮСТЭРКА

О бронзавае люстэрка
З грабніцы старой ці з кургана,
Скажы мне: якая глядзела
Ў цябе чараўніца-дзяўчына
І як яна веер трымала,
Ва ўборы якія прыбрана
Была, калі дом пакідала
Ў вясельным сваім паланкіне?

Скажы мне, прыпомні: якімі
Былі яе вусны і вочы?
Ты чуеш? Я тут, у музеі,
Гатоў пачакаць аж да рана.
Маўчыш ты? Няўжо не прыпомніш?
Ці мо адказаць мне не хочаш?
Тады я не знаю — навошта
Цябе адкапалі з кургана!..

*1958*

## «Я ПАЎДНЯ ВАС ЧАКАЎ...»

Сярод розных імён, дат і тэкстаў
на скалах —
Вечных кніг Дынхуа, праваднік прачытаў
Словы простыя, што ў мае сэрца запалі:
«Я паўдня вас чакаў...»

Больш дзвюх тысяч гадоў
гэтай скарзе на свеце,
І не сцерлі яе дождж і снег, зелень траў.
Пэўна, той, хто пісаў, не паўдня,
а да смерці
Свайго шчасця чакаў.

*1958*

## НА ЖАМЧУЖНАЙ РАЦЭ

Зара нацягнула свой лук,
Каб сонца паслаць у сусвет,
Драўляных абцасаў стук,
Як ляскание кастаньет.
— Хэй-хо-хай!
Скрып кранаў ля берагоў.
Лес мачтаў — куды ні глянь.
Зноў будзіцца ад гудкоў
Надводны раён Чжу Чжань.
— Хэй-хо-хай!
На палубах дзетвара.
Ва ўсіх на плячах — паплаўкі,
Каб не патануць на вірах
Падманнай Жамчужнай ракі.
— Хэй-хо-хай!
Крануліся джонкі з зарой.
На кожнай смех, гоман чуваць.
І, як на радзіме маёй,
Прачнуўшыся, пеўні крычаць.
— Хэй-хо-хай!
А хвалям канца не відаць.
Успомніў я Нарач сваю.
Плывём мы ў бясконцую даль.
І я з вeслярамі пяю:
— Хэй-хо-хай!

*1958*

## ПАЛЁТ НАД АЙСБЕРГАМІ

Айсбергі — гэта алмазы
Палярнага ззяння,
Сны, што пад сіверам
Сняцца грэнландскім кітам.
Айсбергі — гэта застылыя
Горы маўчання,
Помнікі шхунам разбітым
І іх маракам.

Я з захапленнем гляджу,
А сусед мой заплакаў.
Можа, загінуўшых блізкіх
Успомніў сваіх?..
Шчасце, што цень самалёта наш
Не зачапіўся, як якар,
Толькі адбіўся ад айсбергаў,
Высекшы полымя з іх.

Бераг норд-остам сустрэў нас
Калючым і цвёрдым,
Спорнаю шклянкаю віскі.
Зноў час адлятаць.
Добра, паспеў ліст паслаць
Табе з гор Стромфіёрда.
Хто яго ведае —
Зноў ці змагу напісаць.

*1961*

## СОСНЫ НА БЕРАЗЕ АКІЯНА

Сосны — гэта не сосны, а гаротныя ўдовы,
Што аднойчы прыйшлі стрэціць родных сваіх
І застылі на дзюнах ды на скалах суровых,
Не пабачыўшы, не дачакаўшыся іх.

Харыкейны-вятры пазгіналі ім кроны,
Сонца высушыла, апаліла ствалы.
І калі б ні прыйшоў, тут іх чуюцца стогны
І звіняць, ападаючы, кроплі смалы.

*1961*

## СМАЛЕННЕ КАБАНА

Агонь на дрывотні расклалі мы,
І закурыўся дым,
Якога тады наглытацца
Прыйшлося нам усім,
Пакуль кабана смалілі,
Пакуль падрумянілі так,
Што і за сялом чуваць быў
Духмянай скваркі смак.

Вехці з гаручай саломы
Падкладвалі пад кумпякі,
Пад карак, пакрыты шчацінай,
Пад вышчараныя клыкі.
А потым скраблі нажамі,
А потым змывалі вадой
І ў хату, як п'янага бога,
Ўняслі кабана грамадой.

Следам вятры за намі
Ўвагналі зіму не адну
І цюцьку з катом памаўзлівым,
Якія ўзнялі мітусню.
А потым шыпела патэльня,
І смажылася свежына,
І маці на стол высыпала
Бульбы гару з сагана.

Пасля там нейкай чаркі,
Я помню, гамонка пайшла
Пра розныя справы касмічныя,
Пра розныя справы сяла.
Былі мы, як чэрці, мурзатыя
Пасля работы такой...

Усё гэта мне прыгадалася
На дальняй зямлі чужой,
Калі я з сябрамі дзяліўся
Дамашнім салам тым,
Якое мне маці паклала
Перад падарожжам маім.

*1961*

* * *

Свавольная была маладая суседка:
То чуб асмяе, то характар мой зганіць,
То шапку закіне ў крапіўнік ці ў кветкі,
То кіне антонаўкай неспадзявана.

Паскардзіцца думаў — засунула браму,
Не раз памірыцца хацеў з ёю шчыра.
Збіраўся пабіць, ды так крыкнула «мама!»,
Што ледзь пацалункамі я ўціхамірыў.

*1961*

З кнігі
## «ГЛЫТОК ВАДЫ»
1964 г.

### У ЧЫСТЫМ ПОЛІ

У чыстым полі сваты блудзілі,
Блудзілі, скрыпку сваю згубілі.

А каля яра, дзе коней гналі,
Ў сумётах кінулі і цымбалы.

А калі ехалі праз сасоннік,
З рук гарманіста выпаў гармонік.

Ля самай грэблі старой, ля дуба,
З саней апошніх скаціўся бубен.

Цяпер завея на скрыпцы грае,
Цымбалаў струны перабірае,

Дзьме у гармонік, б'е ў бубен глуха.
Аж часам спынішся, каб паслухаць.

Куды нясецца шырокім светам
Завея гэта — вяселле гэта?

*1961*

### БАБКА

Ходзіць бабка лесам-гаем,
У хусціначку збірае:
Даланясты ліст кляновы —
Хлеб на ім пячы жытнёвы,
А дубовы ліст — для бочкі,

Каб хрумсцелі агурочкі,
А бабоўнік кучаравы —
Каб не страціць смак да стравы,
Ліст малінавы — да чаю,
Што ад кашлю памагае,
Жменьку ядлаўцовых ягад —
Для лячэбных кропель — брагі
Ад дакучлівай ламоты,
Рознай там непамыслоты...
Ачаплялася лістамі,
Ягаднікамі, імхамі,
Што, як сядзе ў цень мурожны,
І ваверка не адрозніць:
Ці то бабка каля сцежкі,
Ці пянёк, ці сыраежка?

*1961*

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ СНЕГАПАДУ

Нельга сёння нікому быць хмурным,
Галубам не пасыпаць зярнятаў,
Калі на падаконніку сядуць;
Нельга не адказаць на усмешкі
Незнаёмых людзей і знаёмых;
Не пазычыць апошняй капейкі,
Калі нехта папросіць, сустрэўшы;
Па-святочнаму не апрануцца,
Не паслаць тэлеграм віншавальных
Нават тым, хто цябе і не помніць;
Нельга не зачыніць усіх брамаў
На магільніках дальніх і блізкіх —
Каб ніхто пакідаць свет не думаў
У такі — чысціні незвычайнай —
Першы дзень, светлы дзень снегападу.

*1961*

* * *

Рэкі і смутку і радасці
Я пераходзіў не раз.
Хвалі іх бурныя вымылі
З сэрца нямала руды.
Толькі чамусьці пакінулі
Чуласць — нібыта яна
Самай была непадатлівай,
Самай цяжэйшай была.

*1961*

* * *

Дрэвы забылі пра буры і страты,
Раны свае загаіла зямля.
Толькі нічога забыць не змагла ты,
Памяць мая!

Скруткі калючага дроту — засекі,
Гул кананады, дарогі вайны,
А на пажарышчах — сосны-калекі
Ды курганы.

Нават і сёння, калі зноў на золку
Я запяваю з птушынай сям'ёй,—
Чую, іржавыя ныюць асколкі —
Ў песні маёй.

*1961*

## КАЗКІ

Па-рознаму людзі
Прыходзяць на свет.
Адных — знойдуць
У агародзе ці ў красках,
Другіх — прынясе
Бусел, наш дамасед.

Але ўсіх гадуюць нас
Матчыны казкі.
Яны вучаць
Родную мову любіць,
На крылах юнацтва
Ўздымацца пад хмары,
З няпраўдай змагацца,
А з праўдай дружыць
І аб недасяжным
І сонечным марыць.
Таму на сваіх я
Шляхах нарачанскіх
Паставіў бы помнікі
Матчыным казкам.

*1961*

## ШЫБЫ СТАРОЙ КАМЯНІЦЫ

Асцярожна
Выцірайце шыбы
Старой камяніцы!
Іх ва ўсім маім горадзе
Толькі некалькі ацалела.

Яны бачылі болей,
Чым дрэвы і помнікі.
Яны бачылі болей,
Як вочы людзей,
Якія заўжды пасля стрэлаў
Згасалі.

Асцярожна
Выцірайце шыбы,
Каб з ценямі дыму
Пажараў вайны
Не сцерці і ценяў
Вам блізкіх людзей,
Якія апошні раз
Некалі ў гэтыя шыбы глядзелі.

*1961*

* * *

Мусіць, моцна, верна любіш,
Калі ноччу часта будзіш.

*З народнай песні*

Хай пішуць распуснікі
Посныя вершы,
А я цябе, любая,
Слаўлю, як грэшнік.
За тое, што ты
Не зляклася паверыць
У сэрца, якое
Пастукала ў дзверы,
Акно засланіла
Ад вока ліхога,
Кашулю адмыла
Ад пылу дарогі,
Прынесла, галоднаму,
Хлеба кавалак,
На свежай саломе
Пасцель мне паслала,
Сагрэла ў сцюдзёную,
Лютую восень...
Калі ж пагасіла святло —
Мне здалося:
На правай руцэ,
На якой спачывала,
Ўсю ноч, не заходзячы,
Сонца палала.

*1961*

## ДВА АРЛЫ

Зацягнула далі
Дыму чорным крэпам,
Два арлы арлуюць
Над шырокім стэпам.

Першы арол чорны.
Чорны —
смерць салдата,

Што ляжыць, паранен,
На траве прымятай.

А другі — ўвесь белы,
Белы, яснакрылы —
Вернае каханне
Заручонай, мілай.

Цішыня. І травы
Нат не шалахнуцца.
Толькі чуць, як птахі
За салдата б'юцца.

А ён сам — без сілы
І прыўстаць не можа,
Глядзіць толькі ў неба:
Хто там пераможа?

*1961*

* * *

Словы без справы —
Шум ветру толькі,
А без крыві —
Шоргат дрэва сухога,
А без нянавісці —
Крэмня асколкі,
А без любві —
Ў забыццё дарога.

О, каб ніколі
Вас не вымаўлялі
Вусны мае,
Што зямлю цалавалі.

*1962*

* * *

Не толькі ўзяў таму я гэту мову,
Што на ёй рэкі, пушчы гаманілі,

Шумелі ў полі каласы і травы,
Пераклікаліся па гнёздах птушкі,

Што з ёю лёгка было стаць чым хочаш —
Пявучай скрыпкай,
                    жаўруком,
                              паэтам.

Я гэту мову ўзяў сабе таму, што
Зашмат у ёй было гаротных песень,

І мне хацелася прынесці болей
Ёй чалавечай радасці і сонца.

Таму цяжэй мне, як другім, калісьці
На гэтай мове стаць было паэтам.

*1962*

## КАНЦЭРТ У СЕНЕ

Сонца дакладна адмерала поўдзень.
Косы паклаўшы, прыселі мы ў засені,
Ў Нёман духмянага сена нырнуўшы,
Ў бездань запаўшы суквеццяў і зелені,
Поўную гэткай чаруючай музыкі,
Што шалахнуцца было нават боязна,
Каб не парушыць спрадвечнага ладу.

Вось шэлест ветру прабег над пакосамі,
Недзе камар ціха струны наладжвае,
Звон падала свой пчала, пралятаючы.
Ёй адказала асвянка сварлівая,
Хрушч у літаўры шарахнуў мядзяныя,
Чмель загудзеў, чмялянят аклікаючы,
Застракаталі бяссонныя конікі.

Колькі ў адной копцы свежага сена
Музыкі радаснай!
Мы яе слухаем,
Шырака рукі цяжкія раскінуўшы,
Гледзячы ў неба пагоднае, сіняе,
Покуль нас гулкае косаў кляпанне
Зноў не пакліча на працу.

*1962*

## НУМАР ХУТКАЙ ДАПАМОГІ

Сейсмографы зямны пульс адзначаюць.
Але аб тым, што ў нечым сэрцы выбух,
Парою нават блізкія не знаюць,
Бо як пазнаць, калі не звоняць шыбы,

Калі маўчаць усе гудкі трывогі
У цішыні бязлітаснай, зацятай,
А нумар тваёй хуткай дапамогі —
Калі б ні пазваніў — заўжды заняты.

*1962*

## ДЗЕ ЯНЫ?

У горадзе
Разбітым, апусцелым
Убачыў я ў прытворы
Спаленай фашыстамі царквы
Двух у блакітнай вопратцы
Анёлаў.
Яны,
Як сведчыў надпіс,
Запісвалі: хто уваходзіў
І хто выходзіў з храма.
У першым спісе
Я прачытаў больш тысячы

Імён і прозвішч,
Але ў другім —
Я не знайшоў нікога.
Няўжо ніхто
Не выйшаў з гэтых сцен?
Скажыце:
Дзе яны?
Але маўчалі і анёлы
З апаленымі крыламі,
І іх таксама
Кулі
Не мінулі.

*1962*

* * *

Вы думаеце, гэта — шчасце,
Калі ад дотыку твайго
Ператвараецца ўсё ў песню:
Зямля, трава, вада, агонь,
І хлеб, і соль, і боль, і радасць,
І кожны міг, і кожны час...
Як позна зразумеў, дзівак я,
Тваю трагедыю, Мідас!

*1962*

* * *

Я знаў людзей, якія ўсё ведалі,—
І я зайздросціў ім;

Я знаў людзей, якія не памыляліся,—
І я зайздросціў ім;

Я знаў людзей, у якіх быў
Начлег свой заўсёды,—
І я зайздросціў ім;

Я знаў людзей, якія пісалі
Даўжэзныя лісты каханым,—
І я зайздросціў ім...

Цяпер і я больш ведаю,
Менш памыляюся,
Свой маю начлег,
Пішу даўжэзныя
І без адказу лісты каханай
І не зайздрошчу сабе.

*1962*

## ДАЧНІКІ

Прыедуць,
Дастануць бутэрброды,
Загорнутыя ў плёткі, недажованыя дома,
Дастануць шпроты,
Перакусяць,
Чарвей ля рэчкі накапаюць,
Выражуць вудоўі.
Перад ад'ездам
Доўга мыюць рукі
І наракаюць, што прыстала гліна,
Што зеляніна траў
Забрудзіла ім вопратку.
Не знаюць, дзівакі,
Што дакраналіся яны
Да найчысцейшага, што ёсць на свеце,—
Да зямлі.

*1962*

* * *

Растуць нашы словы, як дрэвы.
Вазьмі хоць бы слова «Любоў»
І прасачы ўсе напевы
Галінак яго і лістоў.

Любоў мая, Любачка, Любка.
А Любчаў, Любаней — больш ста.
Прылюбчыкаў, Любчыкаў — лубка.
Ну проста — адна любата!

Як дрэвы, растуць усе словы,
Ўздымаючы кроны свае,
Дзе вецер гуляе вясновы,
Птушынае племя пяе.

Абвіты ліствою стазвоннай,
І я стаў падобны зусім
Да цёмна-зялёнага клёна
На беразе Нёмна крутым.

*1962*

## АРАБЕСКІ

Як глуха тут перапляліся
Палын, румянкі, медуніца,
Крапіва, падбярозка, гірса,
Шчавель, трыпутнік і мятліца,
Разбітых дотаў арматура,
Калючы дрот, гнілое колле,
Жыццё і смерць, зацішша, бура —
На замініраваным полі!

І, прытаіўшыся, сурова
Маўчаць зямлі цяжкія глыбы,
Бо нават песня жаўрукова,
Апаўшы, выклікае выбух.

*1962*

## ВЫШЫНЯ

Тут расстраляна трое
Мсціўцаў народных было.
Ты мусіш іх знаць!
Стань і разгарні свае плечы!
Яны перад смерцю
Сваіх не схілілі галоў.
Аб гэтым
          сляды
                    куль
На цэгле параненай сведчаць.

*1962*

* * *

Калі балансіруе
Нейкі там канатаходзец,
Ад жаху замершы, маўчыце
Ці просіце: «Годзе!»

Чаму ж тады кожны
Галёкае: «Біс!» — і смяецца,
Калі над бяздоннем іду
Свайго сэрца?

*1962*

## У ПАРЫЖЫ

Ліхтары на хвалях шэрых
Паплаўкамі скачуць, нібы
Нехта ловіць сны-хімеры
Ці неонавыя рыбы.
Змрок заштрыхаваў бульвары.
Як у штукара Шагала,
Усе прывідамі сталі:

Дрэвы, парасоны, твары.
З шыльды над мясной вітрынай
Шчэрыць конь гнілыя зубы.
Грае з ветрам гром у рынах
І прарэзліва і груба.
Праўда, гід са мной найлепшы —
Я прыдбаў у букініста
За апошніх франкаў трыста —
Нержавеючы том вершаў.
І калі пытаюць часам,
Дзе і з кім стаптаў падноскі,
Я кажу: на Манпарнасе
З верным другам — Маякоўскім.
Там віно ў бістро мы пілі
І ўглядаліся ўлюблёна,
Як палаў зары чырвонай
Сцяг над Эйфелевым шпілем.

*1963*

## НОЧЧУ

— Ты чуеш, прыйшоў я!
— Цішэй!
— Ледзь хату знайшоў я.
— Цішэй!
— Дзе ж клямка, не знаю.
— Цішэй!
— Што ж не адчыняеш?
— Цішэй!
— Ці ўсе спяць, Анэта?
— Цішэй!
— Ноч цёмная. Дзе ты?
— Я тут.

*1963*

## РОЗДУМ КАРАЛЯ

І дурны ж ты, Квэк, што згадзіўся стаць
Над цыганскімі табарамі каралём!
Знаць, табе не змагла маці розуму даць,
Мала бацька вучыў пугаўём.

Як ты змог памяняць волю, сукін сын,
Волю, што не мае цаны,
На якісьці табе непатрэбны чын
І з чужога азадка штаны!

Лепш бы недзе, галодны, у кустах густых
Коні пасвіў, кастры раскладаў
Ці ў «Смаргонскай акадэміі» ты
Медзвядзёў абучаў:

Як ідзе мужык ды на паншчыну,
Як б'е пана, узняўшы кол,
Як мядзведзіца лезе на сасну
І ратуецца ад пчол...

Што з таго, што ў Мірскі палац
жыць пайшоў,
Маеш брычку ды пару кабыл.
Цяпер — ні кірмашоў табе, ні барышоў,
Тут сапсееш, як Радзівіл.

Ужо ўчора нейкі карэспандэнт
Лез, каб даў яму інтэрв'ю:
Што ты думаеш, як глядзіш на свет
І на новую ролю сваю?

Добра, што аброць была пад рукой.
Адагнаў яго, як авадня.
Падымаецца туман над ракой.
Пэўна, ўжо недалёка да дня.

Ля кастра варажбітка Папуша пяе:
— Дэ ту, таўла, рат калі...[1]
Мо пагрэцца пайсці, запытацца ў яе:
Што чакае нас на зямлі?

---

[1] Дай, божа, ноч цёмную... *(цыганск.)*

Толькі карты гавораць —
пабраў бы іх чорт! —
Кожны раз нешта ўсё пра бяду,
Што на чорным кані ўжо стаіць ля варот,
Пра шляхі, што на той свет вядуць...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

І хоць ведалі ўсе, што ні раны, ні боль
Не маглі век асіліць яго,
Горка плакаў апошні цыганскі кароль
На зары панавання свайго.

*1963*

## ПРЫТЧА ПРА ХЛЕБ

Аднойчы на кірмаш здалёк
Вандроўнік плёўся ў горад
І наракаў на свой мяшок,
Набіты лустай спорай.

Аж Хлеб не вытрымаў і так
Азваўся: — Што бядуеш?
Зусім не ты мяне, дзівак,
Але цябе нясу я.

— Ну што ж, пабачым хто — каго! —
Той запярэчыў строга
І з цяжкага мяшка свайго
Хлеб вытрас на дарогу.

І сам пашкандыбаў далей.
Нішто не муліць плечы.
Дзень прамінуў. Ужо ў імгле
Стаў набліжацца вечар.

Настаў і час перакусіць.
Успомніў Хлеб Вандроўнік,
Што недзе, кінуты, ляжыць,
Духмяны і цудоўны!

Прылёг на нейкім дзірване,
Каб адпачыць хоць трошкі.
Але галоднаму і ў сне,
Знаць, сняцца хлеба крошкі.

Цяпер і сам сабе не рад.
Не спіцца, не ляжыцца.
Ці не вярнуцца лепш назад
Ды з другам памірыцца?

Устаў Вандроўнік і брыдзе —
Ідзе пад зорным небам
На месца памятнае, дзе
Ён пасварыўся з Хлебам.

О, як ён рад быў зноў, калі
Сваю пабачыў страту!
І Хлебу нізкі, да зямлі,
Аддаў паклон, як брату.

*1963*

* * *

З амфары гэтай даўно
Вінаградны сок выпілі госці.
П'яныя, потым разбілі яе.
Пенелопа
Вымела ўсе чарапкі
За парог свайго дому.
Цудам адзін ацалеў,
А на ім — цень музыкі з жалейкай.
І, хоць вякі праміну лі,
Мы чуем ізноў «Адысею».

*1963*

З кнігі

# «ПЕРАПІСКА З ЗЯМЛЁЙ»

1964 г.

## ПЕРАПІСКА З ЗЯМЛЁЙ

Я пісаў зямлі многа лістоў
Пяром, якім пішуць лірычныя песні,
Гімны розныя,
                    маніфесты;
Пісаў я смыкамі ўсіх скрыпак,
Якія смяюцца і плачуць;
Пісаў спіцамі дрогкіх калёс,
Якарамі і мачтамі караблёў,
Штыком і
                    сапёрнай лапатай;
Пісаў кубкамі, з якіх п'юць
За здароўе і вечную памяць,—
Але пакуль што
Адказ атрымаў я
Толькі на ліст мой,
Напісаны плугам.
Вось ён.
Парэжце на скібы яго.
Частуйцеся.
Ешце.

*1964*

## БІБЛІЯТЭКА

Багатая бібліятэка
Была ў бацькі майго старога:
Пад асеццю — саха-недарэка
З вышчарбленым нарогам,

Барана,
калёсаў звенні,
Каля клеці —
каса і лапці,
На дрывотні —
кладня палення,
Дратаванка з сякерай — у хаце...
Можа, і ўспамінаць бы не варта
Кнігі гэтыя, што назалілі,
Ды яны, шмат раней за буквар той,
На свет белы мне
вочы адкрылі.
Хоць ніколі не быў стараверам,
Але нават і сёння, прызнацца,
Усе вартасці,
ісціны
меру
Я мужыцкім аршынам — працай.

*1964*

## УДАРЫЎ ГРОМ

Ударыў гром на голы лес.
Гавораць, цяжкі будзе год:
Зярна і пошару — ў абрэз,
Грыбоў і ягад — недарод;
Скупей шмат будзе ўзятак пчол,
Мяльчэй — у завадзях вада,
Пыльней — шляхі праз сухадол,
Драбней — сялява ў невадах.

Ударыў гром на голы лес.
Ударыў бы ў мяне ён лепш.

*1964*

## ГІСТОРЫЯ ВЁСКІ ПІЛЬКАЎШЧЫНА

**Дысертацыя на атрыманне годнасці бакалаўра навук вызваленых.**

Калі пала Троя,
Сем дзён піравалі ахейцы.
Шмат хто, прагуляўшы
Трафеі ваенныя, ўлегцы

Вяртаўся дамоў.
Сярод гэтых няўдалых ваякаў
Быў і Пількаўшчадзіс —
Сарвігалава, забіяка.

Ён нават праспаў,
Заваліўшыся пад сікаморай,
Сваіх караблёў адплыццё
З Гелеспонта за мора.

Таму ён і мусіў вяртацца
Да Грэцыі роднай
Наўкола Еўксінскага понта,
Дарогай абходнай.

Пра гэта гаворыць Гамер
У той песні, якую
Адкрыў акадэмік смаргонскі
Амброзій Кукуеў

Аднойчы, капаючыся
Ў старажытных паперах.
Дык вось, Пількаўшчадзіс
(Я гэта дакладна праверыў,

Чытаючы сам Герадота,
Плутарха і іншых)
Прайшоў праз Таўрыду —
Праз край вінаграднікаў пышных,

Праз горы Каўказа,
Дзе снег з леднікамі бялее,
Дзе печань арол вырываў
У зняволенага Праметэя.

Прайшоў праз патокі
З крутымі, як Сцікс, берагамі,
Праз скіфскія стэпы,
Дзе звёў яго лёс з чумакамі.

Два дні Пількаўшчадзіс
Гасціў у сяброў сваіх новых,
Пярцоўку піў, юшку еў
З хлебам духмяным жытнёвым.

І так даспадобы, да смаку
Прыйшлося ўсё гэта,
Што ён з чумакамі рашыў
Вандраваць на край свету.

За скрыпам абозаў
Прайшоў ён варажскай дарогай
Усё Прыдняпроўе,
Палескія багны, разлогі.

І так у вандроўках
Праводзіў ён лета і зімы,
Пакуль не пpыстаў ён
На Мядзельскіх лядах у прымы.

Ля Шыпаўкі рыбнай
Зрабіў ён з хваінаў хаціну,
Праз год нарадзіў сабе
Сына — музыку Юстына.

Юстын — самагоншчыка першага,
Майстра Захарку,
Захарка — сыноў-грэчкасеяў:
Сымона і Марку;

А Марка — мыслівага Хведара,
Хведар той — Янку,
А Янка — мяне, які сам
Ахрысціў сябе Танкам.

Таму месца гэтых падзеяў,
Як хронікі баюць,
Мы ад Пількаўшчадзіса
Пількаўшчынай называем.

Тут неверагодная колькасць
Слоў грэцкіх бытуе ў фальклоры,
Як: пан, тэлебачанне, грэчка,
Амброзія, флора...

Тут першая выйшла
На мове тубыльцаў газета,
Ў якой ўсе вучоныя
Не разбяруцца дагэтуль.

Адны — яе хаюць,
Бо ўсё сваё хаяць прывыклі,
Другія — у іншы бок
Перагінаюць, як звыклі.

Ды гэта — другой дысертацыі
Тэма, якую
Сабе ўжо намеціў
І распрацаваць я мяркую.

А зараз я за дапамогу
Падзякаваць мушу
Яго Магніфіцэнцыі рэктару —
Слаўнаму мужу.

Ды іншым свяцілам
Айчыннай навукі і цноты,
Якім прысвячаю я
Сціплую гэту работу.

*1964*

## ТЭМПЕРАТУРА СЭРЦА

Тэмпература сэрца, я знаю,
Не трыццаць сем градусаў, на якой
Не прыгатуеш нават чаю,
Не зварыш кашы бульбяной.
І калі ад сэрца загараюцца
Вусны,
вочы,
нават ільды,

Калі песні ў ім выплаўляюцца
З тугаплаўкіх слоў руды —
Значыць, тэмпература такая,
Якой нават сонца не мае.

*1964*

## З ХРОНІКІ

«Вядомы антраполаг
Па знойдзеным у саркафазе чэрапе
Стварыў партрэт цара.
                    Цікава тое,
Што ў самадзержца нос
                    з гарбінкай большай,
Як гэта летапісцы адзначалі,
А на шчацэ яго — бародаўкі чатыры,
Аб чым ніхто з гісторыкаў не ведаў.
Надзея ёсць, што хутка будзем мець
Партрэты іншых самадзержцаў і іх жонак...»
О Пугачоў,
          Балотнікаў
                    і Каліноўскі,
Вы ўсе, што рвалі ланцугі няволі,—
Дзе хоць адна пылінка праху вашага?
Сваёй крывёй яе я напаіў бы
І ажывіў бы вас,
                каб вы змаглі яшчэ раз
Паслаць у венцаносны чэрап кулю.

*1964*

* * *

Ах, чаму я, калі нарадзіўся,
Чараўніцтву ў бабулі не ўчыўся!

Не падгледзеў, якою вадою
Акрапляла яна ўсё ліхое;

Чым акурвала хату і сені,
Адганяючы змрочныя цені;

Скуль прыносіла траваў дрымучых,
Каб вярнуць сон спакойны, гаючы;

Што прыкладвалі яе рукі
Ад смяротных укусаў гадзюкі

І абводзіла крэйдай якою
Свет ад злыбеды, ад непакою...

А мо гэта — і лепш. Бо, ніколі
Не спытаўшы ні гора, ні болю,

Не адчуўшы ні жару, ні лёду, —
Што сказала б ты, песня, народу?

*1964*

## ЁН ЗАРАБІЎ НА ХЛЕБ

Калісьці, памагаючы старэйшым,
Малому, так хацелася пачуць
Ад бацькі ці ад маці,
Што, як і ўсе,
Я зарабіў на хлеб.
Тады так радасна было,
Прысеўшы за сталом,
І лусту ўзяць у рукі,
І бульбіну ў соль памачыць,
І лыжкай зачарпнуць бацвіння.
І смачнае было усё —
Словы і маўчанне.
Шмат сёння пройдзена
Дарог жыццёвых.
Ёсць недзе дрэва, што я пасадзіў,
Ёсць недзе вогнішча, што я зацепліў,
Ёсць недзе песня, што сябрам пакінуў.
Але за ўсё, што зроблена
І што зрабіць мне ўдасца,

Я большай пахвалы не знаю,
Як гэта, чутая ў дзяцінстве:
— Ён зарабіў на хлеб...
І, можа, варта было б ордэн
Устанавіць такі,
Якім узнагароджвалі б тых,
Хто сапраўды
На хлеб свой зарабіў.

*1965*

## ДЗЕ НАМ З ТАБОЮ СУСТРЭЦЦА

Дзе нам з табою сустрэцца?
Можа, ў Маскве,
Дзе Крымскага моста смычок
Санаты выігрывае закаханым?
Можа, ў Лазенках,
Дзе белыя лебедзі маюць прыпынак
І просяць вавёркі гарэзлівыя,
Каб іх пачаставалі?
Можа, ля Трэві-фантана,
Дзе кідаюць людзі манеты
З надзеяй вярнуцца зноў
Да маладосці?
Можа, на Елісейскіх палях
Ці на пляцы Згоды?
Якое прыгожае слова: «Згода»!
Толькі часта, як ты,
Са спазненнем прыходзіць.
Аж смешна,
Што столькі цудоўных мясцін
Прапаную табе,
Нібы пры сустрэчы
Я, апрача тваіх воч,
Іншае нешта заўважу.

*1965*

* * *

У тваіх валасах
Сны начуюць мае неспакойныя,
У тваіх вачах
Загараюцца ўсе мае золакі,
У тваіх вуснах грэюцца
Усе мае ўсмешкі,
У далонях тваіх рук
Збягаюцца ўсе мае сцежкі...

Як, пасля бунтаў
І рэвалюцыяў столькіх,
Захавала ты адзінаўладства!

*1965*

* * *

Так захацелася пагаварыць з сасной —
Даўнейшаю сяброўкаю маёй,
Якая недзе на сваіх галінах
Калыша сонца з клёкатам буслiным
І ценем стромага свайго ствала
Час адзначае жыхарам сяла.
Але ў ніводным спіску тэлефонным
Я не знайшоў сваёй сасны зялёнай.
Я не знайшоў таксама нумароў,
Каб пазваніць вятрам палёў, бароў,
Квітнеючым садам, лугам, патокам,
Наднарачанскім зорам і аблокам,—
Хоць там такія нумары былі,
Век без якіх пражыў бы на зямлі.

*1965*

## ПАРТЫЗАНСКІЯ ЗАБАЎКІ

На лаве сядзіць старая.
Сонца прамень развітальны іграе,
Скача
На забаўках дзіцячых —
На грабліках,
Сохах, баронах,
На вабіках,
Вядзерцах, верацёнах,—
Што некалі яе сынам
Былі выструганы з лучыны,
Каб мелі занятак малыя.
Ля парога — сыноўскія боты цяжкія,
На цвіку — яго кашуля прастрэленая,
Мытая матчынымі слязамі,
Партызанскімі вятрамі
Беленая.
Колькі раз старую прасілі
Перадаць музею гэтыя экспанаты —
Не згадзілася.
Калі сіні
Змрок запаўзае ў хату,
Ажываюць знаёмыя рэчы,
І здаецца ёй, бачыць ізноў свайго сына,
Які чамусьці спыніўся ля печы,
Быццам не пазнае роднае маці,
І не асмеліцца спытацца:
Дзе жонка? Чаму не сустракае?
Дзе яго дзеці? Чаму не гуляюць
У гэтыя забаўкі?

*1965*

## ДЖУНГЛІ

Завуць мяне Джунглі,
Люблю я дзяцей сваіх
Кіпцюрастых, іклaстых, дзюбатых.
Люблю і гаспадароў зямлі гэтай —
Смуглявых і працавітых.
Я ненавіджу чужынцаў,

Якія, разбурыўшы гнёзды, лагоўі,
Прынеслі маім дзецям гора.
Вось ідуць яны, узброеныя ў смерць.
Ідуць, прадзіраючыся праз ліяны.
Хай ідуць.
Калі б і стралялі ў мяне —
Я стогнам не выдам,
Што перад імі — засада.
Калі б нат палілі мяне —
Я не прызна́юся, што іх чакаюць,
Прытаіўшыся, дзеці мае.
Калі б нат бічавалі мяне —
Я не скажу ім нічога.
Я — Джунглі — умею маўчаць.

*1965*

## КАРОНА

Яна нешта шыла і шыла,
Пакуль з рук не выпаў напарстак
(Чамусьці пачаў выпадаць ён
Апошнімі днямі часта).

Я нахіліўся падняць яго,
Ды быў ён, як вугаль, гарачы
Ад недаспаных начэй яе,
Ад непасільнай працы,

І поўны уколаў іголак,
Якія ёй ранілі пальцы,
Калі абшывала дзяцей сваіх,
Перабірала на пяльцах,

Калі партызанскія латала
Курткі, прабітыя куляй...
Я твой падыму напарстак.
Крыху адпачні, матуля.

І хоць ён да дзірак сцёрты,
Здаецца маленькай каронай,
Якая ў матулі старэнькай
Гарыць на дрыготкай далоні.

*1965*

* * *

Пасля розных паэм і вершаў
Мудрагелістых і наймаднейшых,
Пра якія з усіх званіцаў
Вечна звон з фіміямам дыміцца;
Пасля заплеснявелых цытатаў
Дапатопных кантычак, трактатаў —
Так прыемна чытаць на прыволлі,
На заснежаным іскрыстым полі
Верш, адціснуты лапай куніцы,
Шарака,
          гарнастая,
                    лісіцы
Ці напісаны каля стайні
Кіпцюрамі вароны звычайнай.

*1965*

## НАРАЧАНСКІЯ ЛОДКІ

Вычарпаўшы чарпакамі пах водарасцяў,
Радасць удач і горыч рыбацкіх няўдач,
Перад зімой мы выцягваем
Свае лодкі на бераг.
У перавернутыя, асмаленыя днішчы
Восеньскі дождж барабаніць,
Дождж, як шрапнель
Ці град куль,
Якія іх секлі пад час пераправаў
Партызанскіх.

Можа, таму ў непагоду
Мы часта прыходзім на бераг
Праверыць:
Ці кроў з нашых лодак сцякае,
Ці дождж.

*1965*

## ЛЯ НАВАГОДНЯЙ ЁЛКІ

Вось і сустрэліся, браце, з табою!
Хто там, спазніўшыся, грукае ў дзверы?
Сцюжа?..
Хай зойдзе!
Мы некалі з ёю,
Помніш, зубамі праляскалі ў скверы.
Бачыш: хлеб-соль у нас з чаркай вясёлай...
Ну, хто там клямкаю бразгае зноўку?
Голад?..
Заходзь, былы дружа мой, голад,
На навагоднюю нашу ёлку.
Што ж прыгадаць мы хацелі з табою?..
Нехта яшчэ, чутна, просіцца ў хату.
Гора мінулых гадоў, франтавое?..
Што ж, хай паслухае песню салдатаў.
Можна паставіць даўжэйшую лаву.
Зноўку цень нечы за шыбай працёртай.
Хто там?
Не чутна!
А, нейкая Слава!
Каб не займала, гані яе к чорту!

*1965*

* * *

Калі б вы паслухалі
Просты расказ маёй маці,
Як на дываны
Трэба ніткі кужэльныя прасці,

Потым сукаць, фарбаваць
У вясёлак адценні,
Потым снаваць, укідаць
У ніты іх з цярпеннем,

Потым — як ткаць на ставах,
Панажоў, можа, дваццаць,
Быццам бы струны цымбальныя,
Перабіраць, не мыляцца,—

Можа, тады вы, сябры,
Дагадаліся б, знал б,
Як у маім краі
Некалі песні складалі —

Песні суровага
І незайздроснага лёсу,
Але якія не ведаюць
Старасці, зносу.

*1965*

## ЗАЦЬМЕННЕ СОНЦА

Казалі: поўнае зацьменне сонца,
Казалі: змрок зямлю ўсю атуліў.
Казалі: зоры былі бачны ў небе.

А мы з табою гэтага чамусьці
І не заўважылі, хоць і глядзелі пільна
Праз невялічкае закуранае шкельца,
Што я прынёс табе
                    і на якім
Астаўся, помню, нашых пальцаў след,
Адбітак нашых вуснаў і насоў,
Якія потым не маглі адмыць.

Ты не цікавілася часам,
Калі настане новае зацьменне?

*1965*

## КАБ ДАЙСЦІ ДА КАЗКІ

Каб дайсці да казкі,
Трэба развітацца
З дарогамі езджанымі,
Дарожкамі ходжанымі,
Дарожанькамі грыбнымі
І ягаднымі...

А даверыцца — сцежкам
Ласіным і заечым,
Мураўіным і яшчаркавым,
Слімаковым і вожыкавым...
І даверыцца —
Карчам асінавым,
Святаянскім агеньчыкам,
Вачам савіным,
Слязам жывіцы,
Што ў змроку цепляцца...
І даверыцца —
Травам непрымятым,
Галасам няпуджаным,
Шорахам неразгаданым...
І даверыцца —
Зелені найзелянейшай,
Цемені найцямнейшай,
Цішыні найцішэйшай,
У якой нават сэрца стук
Громам здаецца.

*1965*

* * *

Парог, вычасаны з успамінаў,
Астаўся за мной;
Дзверы, на завесах цвыркуновай песні,
Асталіся за мной;
Вокны, зашклёныя вачамі блізкіх,
Асталіся за мной;
Хата, пакрытая крыламі ластавак,
Асталася за мной,—

Як жа мне не азірнуцца назад,
Нават калі б я застыў
Слупом солі?

*1965*

## АНТЭНА

Па-суседску з бусліным гняздом — антэна.
Перш насцярожана птушкі глядзелі
На мадэрнісцкую копію дрэва.
А зараз —
забыўшыся пра паляванне на жаб —
Слухаюць мелодыі роднай зямлі,
Далёкай Афрыкі,
апошнія паведамленні
І асабліва звесткі пра пагоду.

*1965*

## НА ЛЯСНОЙ ДАРОЗЕ

Калёсаў ляскат.
Курганы.
Акопы.
Пчаліны звон над верасам духмяным.
Дзесяць цецярук,
спалоханы, залопаў.
Гарыць зара папахай партызана.
Тане дарога ў
зелень баравую.
— Спі! Конь дацягне
да свайго дварышча...
— Мне лепш не спаць,
бо сна й не ўпільную
І апынуся зноў на папялішчах.
Зноў буду, ранены, брысці гушчарам,
Бінты зрываць,
тапіцца ў хвалях Нёмна.
Таму, каб сон нас гэты не захмарыў,
Лепш, можа, песню даўнюю спяём мы...
Вячэрні змрок згусціўся над дарогай.
І, заглушаючы калёсаў ляскат,
Над цішынёю бору векавога
Нясецца рэха
песні партызанскай.

*1965*

## З АПАВЯДАННЯ СТАРОЙ

Зямелька ў нас, бачыш, сынок:
Камень на камень, корч на карчы.
Калі едзе Ілля-прарок —
Ці ўдзень, ці ўначы,—
Кожны раз зачэпіцца за нешта, вядома.
Ну і грыміць тады громам,
Ну і сцёбае сваіх коней
Дажджом-дратаванкай,
Ну і паласуе папругай-маланкай,
Ну і лупіць іх шляёй-вясёлкай!
Аж я малюся,
Каб хутчэй ён са сваёй двухколкай
Выбраўся з пасёлка.

*1965*

## РЭАБІЛІТАЦЫЯ КАМНЯ

Камнем кідаюць пасля дружбы,
Пасля кахання і знявагі,
Пасля таго, як тройчы
Певень прапяе...
І, можа, ён таму
Найменш балючы.

*1965*

## ЗЯМНОЕ ПРЫЦЯГНЕННЕ

Закон зямнога прыцягнення
Мы адчувалі,
Калі падалі яблыкі,
Калі падалі мы,
Ахмялеўшы ад шчасця,
У духмяныя травы,
Калі падалі
Пад кулямётным агнём.

Але, адлятаючы ў космас,
Мы пераканаліся, што
Закон гэты трэба дапоўніць
Прыцягненнем — вярбы над ракой,
Шуму дажджу,
Паху свежага хлеба,
Рэха песні,
Цяпла рук сяброўскіх
І нат прыцягненнем святла,
Запаленага ў хаціне,
Дзе чуцен яшчэ
Скрып калыскі тваёй.
Таму закон гэты
Не проста акрэсліць,
Як і квадратуру шчасця.

*1965*

## ВЫКЛІК НА ДУЭЛЬ

Дон Гавэнда, прачытаў я
Вашы кнігі і, прызнацца,
Вырашыў, што нельга болей
Так з паэзіі смяяцца,

Так змушаць яе, нябогу,
Быць служанкай нешчаслівай,
Кожны дзень батфорты чысціць,
Бегаць на базар, па піва.

Я лічу ўсё гэта шкодным
Для народнай нашай славы,
Братніх сувязей са светам,
Для сацыялізма нават.

І таму на паядынак
Вас сягоння выклікаю.
Месца — самі выбірайце,
Зброя — можа быць любая.

Толькі трэба нам быць голым,
Каб, з пасад і званняў скуты,
Вы непрабіўны свой панцыр
Не схавалі пад сурдутам.

І каб вашы секунданты
Не былі з пароды хіжых,
Што адным кусаюць пяткі,
А другім — азадкі ліжуць.

*1965*

## КОЛЕР СНЕГУ

Нічога больш рознакалёрнага,
Як узмяцелены снег,
Я не знаю.

Які ён быў сіні,
Калі замярзаў я
Ў пакоі настылым
Ці, беспрытульны, на вуліцы!

Які быў ружовы,
Калі я страсаў яго з плеч
Той, што прыносіла шчасце!

Які ён чыў чорны,
Калі замятаў
След расстання з радзімай!

Які быў чырвоны
На брустверах нашых акопаў!

Які быў іскрысты і светлы,
Калі яго дзеці
Прыносілі мне ў падарунак!

Вось так і не знаю,
Які колер снегу
Сапраўдны.

*1966*

## ВЯСНОЙ

Першай прачнулася вярба —
Руплівая маладзіца,
Пачуўшы,
Як верхаводка
Казыча ногі.
Верхаводка,
Абліскавічаная бліскавіцай,
Агромленая
Громам крутарогім.

Расплюшчыла свае вочы —
Коцікі шэрыя —
І ўбачыла жаўрукоў,
Што звінелі над берагам.

Перш хацела
З навіной гэтай
Бегчы да сонных
Кучаравых бяроз,
Да рабін і асін на адхонах;
Але покуль касу расчасала
Крыгай — грэбенем срэбным
І ўпрыгожыла плечы
Хусткай — золакам зрэбным,—
Верхаводка паднялася
Па калені,
                па пояс.
Толькі крыкнуць сяброўкам
Змагла на ўвесь голас:
— Вясна!

*1966*

* * *

Свет, у якім мы жывём,— не наш,
Яго даўно закаханыя параздавалі
Сваім Дульцынеям, Джульетам.

Я вось хаджу па зямлі
З галавой, перапоўненай песнямі,
І не здагадваюся і не знаю,
Што мо і яе нехта паабяцаў
Падарыць нейкай там Саламеі.

*1966*

## У МАГАЗІНЕ КВЕТАК

Мне патрэбен букет
Для прапаўшай імянінніцы,
Якой сягоння — дваццаць год.
А чаму — прапаўшай?
Выехала з нашага горада,
Грукнуўшы дзвярмі майго сэрца,
Забараніўшы нават правесці,
Званіць па тэлефоне, пісаць.

А мо яе і не было?..
Усё роўна — зрабіце букет.
Вазьміце адну чырвоную ружу,
Сцяблінку яе голасу,
Пару пажоўклых лістоў цішыні
І цень яе — цень тубярозы...
Усё, калі ласка, перавяжыце
Стужкаю Млечнага Шляху
І падлічыце,
Колькі з дастаўкай на месца
Ўсё гэта каштуе.

*1966*

* * *

Скептыкі праверылі неба
І не знайшлі
Ні першага неба,
Ні другога,
Ні сёмага...

Я з імі заўсёды
Асцерагаюся дружыць,
Бо яны могуць нават усумніцца
І ў існаванні тваіх рук,
Тваіх воч, вуснаў
І адраса,
Хоць на канверце
Выразна напісана:
«Вуліца на сёмым небе,
Ад бліскавіцы — направа,
У рагавой вежы замка,
Пабудаванага з весніх аблокаў,
Што праляталі калісьці
Над намі».

*1966*

## ПАСЛЯ ВАЙНЫ

Можа, і лепш было б нам будавацца
На новым месцы.

А то падымаю бярно,
А з ім — успаміны.

Дах новы рыхтую —
І чую буслоў спаленых клёкат.

Шулы ўстаўляю —
І чую скрып даўніх дзвярэй,
Калі адчыняла іх маці.

Шклю вокны —
І бачу ў іх водсвет
Юнацтва свайго.

Кладу печ —
І чую зноў пах
Праснакоў партызанскіх
І мокрых, як восень,
Ануч.

Можа, і лепш было б нам будавацца
На новым месцы.

Алё я на ўсёй зямлі
Месца другога,
Дзе мог будавацца б,
Не знаю.

*1966*

* * *

Можа, таму, што ў маладосці
Часта прыходзіласяданошваць
Нечыя боты,
Нечую вопратку.
Якія заўсёды былі
То завялікія,
То замалыя,—
Я цяпер асцерагаюся
І чужых думак.

*1966*

* * *

Агонь, што расклалі пагрэцца,
Ламачча настылае ліжа,
Якое то дымам, то трэскам
Расказвае пра сябе мне.

Адзін сук быў тронам глушцовым,
Другі быў гняздом салаўіным,
А трэці — калыскай вавёркі.

Адзін корч альховай нагой быў,
Другі — рогам лесавіковым,
А трэці — у бабы-ягі качаргою.

Адзін ствол быў скрышаны бурай,
Другі — перабіты снарадам,
А трэці — знявечаны некім...

Сябры мае спяць, а я доўга
Пра ўсё гэта слухаю, покуль
Не перагараць галавешкі,
А з імі — успаміны і зоры,
І пасмы туману сівога
Заменяцца ў прысак світання.

*1966*

## СТРЭЛКІ ГАДЗІННІКА

Стрэлкі гадзінніка — нажніцы
Нястомнага краўца,
Які дзень і ноч
Кроіць час
І шые мне з яго вопратку.

Якіх ён за век
Не нашыў мне дзівосных убораў!

Была ў мяне вопратка пастуха,
Што пахла малаком, травой,
Гулам берасцянкі.
Была ў мяне
Вопратка аратага,
Прасоленая потам, сонцам,
Пылам зямлі.

Была ў мяне вопратка вязня,
Расшытая дротам калючым
І ценем крат.

Была ў мяне вопратка салдата,
Абвеяная дымам родных папялішчаў.

І простая блуза рабочая,
У якой найлепш я чуўся.
А колькі было маскарадных касцюмаў —

Рамэа,
Дон Кіхота,
Фаўста —
Стракатых, бліскучых і яркіх!
Ніводнага касцюма не паспеў знасіць.
Ножніцы гадзінніка выразалі новы.

Вось і цяпер
На мне яшчэ зусім прызваіты касцюм
Грузчыка чалавечых надзей,
Разведчыка будучыні.

Касцюм, які мог бы насіць яшчэ,
Можа, паўсотні гадоў.
А стрэлкі гадзінніка
Крояць мне новы.

Толькі я ўсё збіраюся
І не магу запытацца ў краўца:
Чаму ён мне вопратку шые
З усё больш і больш цёмнага
Матэрыялу?

*1966*

З кнігі

## «ХАЙ БУДЗЕ СВЯТЛО»

1972 г.

### ХАЙ БУДЗЕ СВЯТЛО

Чамусьці словы «Хай будзе святло!»
Прыпісваюць Саваофу,
Хоць не ён, як вядома,
Распаліў першы касцёр,
Каб пагрэцца,
Крэсівам аб крэмень
Высек іскру,
Каб зварыць сабе страву
Ці закурыць самакрутку;
Не ён залпам «Аўроры»
Азарыў цемру,
Не ён, з прыладамі
Прыйшоўшы ў сяло,
Сказаў маёй маці:
— Хай будзе святло!
І запаліў лямпачку Ільіча.

І сёння старая
Моліцца за здароўе
Нашага электраманцёра.

*1966*

### ПЕРАКРОЙВАННЕ ШЫНЯЛЯ

— Нешта вы, маці, сыноўскі
Шынель гэты доўга хавалі.
Зараз прыкіну,
Што можна пашыць з яго
Вашаму ўнуку.

Вось толькі шкада,
Мо недзе ля печы
Рукаў асмаліла...

— Не, у той дзень наша вёска гарэла...

— Ну, я памяркую, прыкіну.
Ды тут і крысо, зачапіўшыся,
Нехта падзёр на цвіку.

— Не, гэта — на дроце калючым...

— Тут можна было б падтачыць.
Вось толькі на самых грудзях
Невялічкая дзірка ад молі...

— Не, гэта ад кулі...

*1967*

## ВЯТРАК

Ён нястомна махае
Драўлянымі крыламі,
Абвяшчаючы на ўвесь свет:
Што аблокі,
Якія пралятаюць над ім,
Паблісkваючы падковамі маланак,—
Самыя няўрымслівыя
Коні на сяле;
Што ластаўкі,
Якія гняздзяцца ў падстрэшшы яго,—
Самыя звонкія і вясёлыя
На сяле шчабятухі;
Што вецер,
Які з ім заўсёды
Падужацца любіць,—
Самы заўзяты музыка-гуляка
У аколіцы;
Што з зярнятаў,
Якія ён меле няспынна,—

Самы духмяны хлеб
Выпякаецца ў печах;
Што дачка млынара —
Найпрыгажэйшая ў свеце красуня.
Я дружу з ветраком:
Памагаю цягаць мяхі,
З пода муку выграбаць,
Як гарачае лета,
І таму ўсіх, хто не згодзен,
Выклікаем мы
На паядынак.

*1967*

## ПЕРАД ВАНДРОЎКАЙ

Кій дарожны выразаецца з дрэва,
Якое не баіцца марозу,
Не захлынаецца ў завею,
Не хмялее ад траў нецвярозых
І не ўцякае ад сабачай звягі,
Ад поглядаў незычлівых,
Ад пустой біклагі,
Ад дзвярэй маўклівых.
Каптан дарожны кроіцца з надзеі,
З кішэнямі, што дна не маюць,
У якія змясціў бы ўсе нядзелі,
Ўсе фэсты і хлеба акраец.
А колер яго такі быць павінен,
Каб нельга было адрозніць
Ад дажджу, ад пылу каляінаў,
Ад baрознаў.
А боты дарожныя шыюцца са скуры
Быка-трацяка — моцнай і цягавітай,
З падэшвай цёмна-бурай,
У два рады цвікамі падбітай,
Каб смела было ў іх можна
Ісці, не знаючы стомы,
І па восеньскім бездарожжы,
І па схілах стромных.
А песня падарожная складаецца з шуму

Вятроў і птушынага шчабятання,
З вясёлых і невясёлых думаў
І нават з маўчання...
Каму не даспадобы ўсё гэта,
Таму я не раю
Вандраваць са мной зімой ці летам
Па роднаму краю.

*1967*

## ЛЕСАВІК І ПАЛЯВІК

Стрэліся Лесавік і Палявік.
Першы кажа:
— Я такія знаю чары,
Што мяне баіцца нават сам ляснік,
Хоць і выраслі мы з ім сярод гушчараў.
Часам высыплю яму з набояў шрот —
І ён цэлы дзень пудлуе па звярыне;
Часам закручу яго сярод балот,
Між сцяжынак і вужыных, і ваўчыных;
Часам табакерку я ў яго ўкраду,
Муравейніку насыплю ў гайдаверы,
Памачу ў смалу-жывіцу бараду —
І сяджу,
і рагачу
у змроку шэрым.
— Я таксама,— прызнаецца Палявік,—
Калі жнеі завіхаюцца ля жыта,
То сцягну ў каторай серп ці чаравік,
То хусцінку перакіну за ракіту.
А ў палудзенныя міскі і збаны
З ружы-мяты свайго зелля наўліваю.
Потым трызняцца любошчыя ім сны,
Ад якіх кроў маладзіцам ускіпае.
То калені ім
чмялём
паказычу,
То жука на грудзі ўскіну палахліўцы.
Шум падымецца, а я за ўсім сачу,
Прытаіўшыся ў іржышчы
ды ў мятліцы...

Потым пачалі спаборнічаць яны:
Хто з іх лепей выпраўляе танцы-гарцы.
Лесавік біў капытамі, бы ў званы,
Палявік стаў за хвастом сваім ганяцца.
Першы скочыць,
перавернецца раз пяць,
А другі, каб не адстаць,—
раз дзевяць-дзесяць.
Першы сіліцца зямлю
на рогі
ўзяць,
А другі — узбіць на патарчакі месяц.
Я глядзеў, глядзеў, аж страх пачаў праймаць
(У той час ішоў з вяселля я, паверце).
Уцякаць хацеў назад праз лес і гаць.
Добра, пеўні пачалі крычаць-спяваць,
І разбегліся
па зарасніках
чэрці.

*1967*

* * *

Думкі пра цябе
Я пастараўся выкінуць з галавы.
Але яны перабраліся ў рукі,
Якія ўначы цябе часта шукаюць
І не знаходзяць.
Я выкінуў з рук —
Перабраліся ў ногі,
Якія — куды б я ні йшоў—
Вядуць мяне зноў
Да хаціны тваёй.
Можа, адсекчы іх?
Але я не ўпэўнен,
Што гэтыя думкі
Не пераселяцца
І ў мае мыліцы.

*1967*

## ПЕРАД «РАБАМІ»

Як Мікеланджэла тварыў сваіх «Рабоў»,
Што рыхтаваліся
паўстаць
з ярма і поту,
У дзверы скульптара загрукаў ноччу бог,
Прыйшоў, прасіў яго: «Спыні сваю работу!»
Да раніцы яны спрачаліся, чуваць.
І бог, разгневаны, пакінуў гэту стрэчу.
Не змогшы запалохаць і пераканаць,
Да Мікеланджэла
паслаў
анёла смерці.

*1967*

## МЫЦЦЁ БАБКІ УЛЛЯНЫ

Яе ўсе шкадавалі,
Як шкадуюць кожнага,
Хто выняньчыў дзяцей,
Іх працу, будучыню, хлеб.

І, можа, ўсё спакойна абышлося б,
Але перад апошняю дарогай
Ніяк яе адмыць рук не маглі
Ад скіб зямлі,
Ад каласоў і сонца,
Ад пялёнак іануч,
Ад чорных і распаленых гаршкоў
З бацвіннем, з бульбай,
Што больш паўсотні год
Яна стаўляла і выцягвала з печы.

Глядзяць усе на рукі гэтыя,
Пасівераныя, парэпаныя,
І заходзяцца плачам:
Бо як рукамі гэткімі
Ды ў дзверы раю
Грукаць!

*1967*

## ЗАВЕЯ

Калі вецер скручвае дарогі, як лейцы,
І свішча ў тваіх скабах так,
Што аж мурашкі разбягаюцца па целе;
Калі снег белымі пчолкамі раіцца
І, ападаючы на вочы,
                    жаліць, жаліць,—
Гэта звычайная завея.
Калі на кожным кроку цябе валіць з ног,
А зямля ўсё хутчэй і хутчэй адплывае, і ты
Адстаеш, як ад санітарнага цягніка,
Які не ўдаецца ніяк ні спыніць, ні дагнаць,—
І гэта звычайная завея.
Калі ты ідзеш і ў вокнах агні ўсе — чужыя,
Калі ўсе запоры прымерзлі да весніц,
Калі ўсе сабакі, як на незнаёмага, брэшуць,
Калі тваіх слоў не разумее ніхто,
Калі, сваё імя назваўшы, пачуеш маўчанне,—
Няхай цябе гэта завея
                    не стрэціць!

*1967*

## КАЛІ ВЕЦЕР ВЕЕ

Калі вецер вее — шумяць сосны ў лесе,
Шумяць сосны ў лесе — гул нясецца весні.

Гул нясецца весні — жыццё ўспамінаеш,
Жыццё ўспамінаеш — запяваеш песні.

Адну песню — звонка — пра сваё юнацтва,
А другую — ціха — пра сваё каханне,
А трэцюю — моўчкі — пра сваю самоту.

Ад першай — у сэрцы будзіцца світанне,
Ад другой — заўсёды зззяе сонца мая,
Ад трэцяй — чамусьці вечар наступае.
Вечар наступае, шумяць сосны ў лесе.

*1967*

* * *

Добры з ваўка музыка,
Ды не скакаць пад выццё;
Добры чарпак з рэшата,
Ды толькі з яго не піццё;
Добры мёд на памінках,
Толькі ніхто не пяе;
Добры рубель пазычаны,
Толькі спаць не дае;
Добры кажух са спагады,
Толькі сцюдзёна ў ім;
Добры агонь на чужыне,
Толькі грызе вочы дым.

*1967*

## У БЕЛАРУСКУЮ ВОСЕНЬ

У беларускую восень
Нат і верабей багацее,
Лес на грыбы не скупіцца,
Пуні хмялеюць ад сена,
Мёдам вуллі набракаюць,
Сцежкі гараць ад лістоты,
Скрыпкі звіняць на вяселлях,
І маладзіцы дабрэюць —
У беларускую восень.

*1967*

* * *

Калі сцюжа ўмацоўвае поле,
Вецер ледзянымі падковамі яго
ўтрамбоўвае,
Ноч пасыпае колкімі зорамі і цішынёй —
Ідуць плугі на адпачынак.

І хоць субяседнікі з іх невялікія,
Але, калі добра прыслухацца,
можна пачуць,
Колькі баразён за лета яны правялі,
Колькі перавярнулі камення і дзёрну,
Колькі старых дзірваноў і акопаў яны заaралі...

Можа, скупымі яны на ўспаміны
Сталі, працуючы з намі,
Людзьмі стрыманымі і маўклівымі
Ці наадварот: мы перанялі ад іх
Мову зямлі гэтай чэрствай, падзольнай.

*1967*

## ДЫЯЛОГ З ДЫЯГЕНАМ

— Каго, мудрэц, шукаеш з ліхтаром?
— Прызнаюся: шукаю чалавека.
— Няўжо ў Афінах цяжка яго стрэць?
— Цяжэй, як думаеш. Ён — у турме
пад стражай.
— А сам куды збіраешся ісці?
— Не знаю, бо асуджан на выгнанне.
— За што ж цябе тыран мог пакараць?
— За тое, што шукаў я чалавека.

*1967*

## У ТАТРАХ

Скарына
А мы не збіліся з дарогі, праваднік,
Блукаючы па горным бездарожжы,
То сярод хмар, то бліскавіц, то зор?

Праваднік
Дарэмна непакоіцеся, пане.
Паўсотні год, як я па гэтых сцежках,

Вядомых толькі мне, мядзведзям ды вятрам,
Праводжу праз граніцу то купцоў,
Што хочуць абмінуць Чарштынскі замак,
Каб водкуп не плаціць ягоным душыгрошам,
То хлопаў, што ад душагубаў збеглі,
То збуйнікаў, што тут цюпагі шчэрбяць.

Скарына

Я мог бы ехаць шляхам больш вядомым,
Але на водкуп грошай не хапіла б.
А збуйнікаў няма чаго баяцца:
Для іх я — невялікая спажыва.
Адзін каптан, паношаны, на плечах
І торба маіх кніг святых, якія
Мне трэба ўратаваць ад пошасці, ад мору,
Што ў Празе люта косіць гараджанаў,
А больш за ўсё —
ад служак Фердынанда,
Што пачалі сцінаць, саджаць у турмы
Братоў-гусітаў, табарытаў, чужаземцаў...
Глядзі, каб не спаўзла з каня мая паклажа.

Праваднік

Ты кажаш, кнігі нейкія вязеш?
Мо ў іх што ёсць пра нас —
людзей гаротных?
Скажы, на свеце ёсць дзе гэтакія кнігі,
Ў якіх запісаны ўсе нашы крыўды
І сказана, як іх пазбыцца нам?

Скарына

Прызнацца, кніг такіх яшчэ няма.
Але я ўпэўнены, што з'явяцца яны.
Заўсёды кніга нараджае кнігу,
Больш дасканалую, бліжэйшую да праўды.

Праваднік

Чаму ж сам падаешся не на поўдзень,
Як гэты вырай, што ляціць над намі,
Але на поўнач, дзе, чуваць, паўгода
Зіма лютуе і пануе ноч?

Скарына

Пра сцюжу і пра ноч — набаяў нехта.

Там — бацькаўшчына, край майго юнацтва.
Усе звяры свае лагоўі знаюць,
Не забываюць птушкі гнёзд сваіх,
Свае віры ўсе рыбы адчуваюць.
Вуллі свае абараняюць пчолы —
І людзі так да тых мясцін святых
Вялікую любоў і ласку маюць.

Праваднік

Я гэта знаю.
У Чарштынскіх лёхах
Сем год адседзеў за любоў да волі,
За свой круты і непакорны нораў,
Пакуль зноў уцячы мне не ўдалося
Да гэтых смрэкаў, скал і вадаспадаў...
Ну, вось і выйшлі мы на перавал.

Скарына

Дык чым табе аддзячыць за паслугу?

Праваднік

Ты мне сваімі лекамі памог
Старую рану прыгаіць, за што я
Табе яшчэ шмат вінен, чалавеча,
Таму вазьмі з сабой маю цюпагу
З лязом сталёвым
ды з дзяржальнам моцным —
Яе ўсе знаюць у Карпацкім краі.
Захочаш спаць — загрукай ёю ў дзверы,
І кожны гураль дасць табе начлег;
Захочаш есці — пакажы! — накормяць,
З дарогі збіўся — шлях табе пакажуць.
А стрэнуць збуйцы — ім скажы, што даў я
Табе, Скарыне-доктару, цюпагу,
І будзе яна граматай ахоўнай.

Скарына

А як цябе самога зваць?

Праваднік

Як зваць?
Табе сама мая цюпага скажа.

*1967*

* * *

На Таймыры ёсць у мяне сябра,
З кім злучылі нас навекі дружбай
Перажытыя гады, прыгоды,
Страты беззваротныя, знаходкі
Рудных жыл, багатых рыбных тоняў,
Вогнішчы вясёлыя жаркоў.
Калі мы развіталіся, помню,
Я сваю яму пакінуў песню,
Каб яна заўжды яму служыла
Лайкай ці аленем ветраногім,
Паляўнічым кубкам ці нажом.

А каб я сярод бязмежнай тундры,
Сполахаў паўночных і маўчання
Мог знайсці яго — сваім ласо ён
Прывязаў Палярную да чума.

Вось яна гарыць над галавою.
Гэта значыць — ён мяне чакае.

*1967*

## ВЫКУП НЯВЕСТЫ

Мы ляжым, прытаіўшыся, на зямлі,
Покуль стук капытоў
                    нам у сэрца не ўдарыць,
Покуль не заклубіцца пыл над бальшаком,
Покуль не зазвініць бубен сонца вяселлем.

Гэта значыць,
Што час нам перагарадзіць
Вулку жэрдкамі, пугамі,
Трубамі-берасцянкамі,
Маладога прымусіць спыніцца і нам —
Басаногім падпаскам — даць выкуп
За нявесту.

Над галовамі нашымі —
Песні і свіст,

Рып гармоніка
і шматкалёрныя стужкі.
У натоўп наш
Цукеркі
лятуць вераб'ямі.
Покуль шапкамі ловім іх,
Віхрам праносяцца коні,
Смех баярак,
сватоў
і нявеста ў слязах.

Эх, як прадзешавілі мы,
Дурні мурзатыя,
Гэткую кралю!

*1968*

## КАСМАЛОГІЯ

Зямля трымаецца на трох сланах,
Сланы — на велізарнай чарапасе,
Чарапаха — на голубе,
Голуб — на хлебным коласе.
Колас — на калысцы,
А калыска — на песні матчынай...

І пакуль песня будзе гучаць,
Калыска будзе калыхацца,
Зерне — прарастаць,
Голуб — віць гняздо пад страхой,
Чарапаха — ісці Млечным Шляхам,
Сланы — переступаць з нагі на нагу,—
Зямля будзе век
Зелянець, зелянець, зелянець...

*1968*

## TERTIUM NON DATUR

Любы дружа, Альда Севярыні,
Колькі год прайшло ад нашай стрэчы,
Колькі зім Арно зрывала грэблі,
Колькі лет у Чазанаціку матросы
І гарыбальдзійцы-партызаны,
У старой сабраўшыся таверне,
Пелі «Чоа» і «Бандэра роса»!
Трэба б зноў пабачыцца, прадоўжыць
Нашы незакончаныя спрэчкі
Пра Тальяці, Грамшы, Гарадзі;
Стрэцца на ўзбярэжжы нарачанскім,
Пры вячэрнім вогнішчы падумаць
Аб жыцці-быцці, штодзённых справах,
Новых бітвах, да якіх мы мусім
Быць штодзень гатовы.

Я цябе хацеў бы пазнаёміць
З землякамі, хмарамі, вятрамі,
З валунамі мядзельскімі, з хлебам
Пількаўскім, духмяным ад аеру,
З роднаю маёй зямлёй, якая
Была вечна матчынай калыскай
Для ўсіх нашых галасістых птушак,
Самых сумных і вясёлых песень,
Незлічоных прыказак і казак.

Потым трэба б нам было наведаць
Ля Глыбокага курган-магілу,
У якой, абняўшыся, спачылі
З партызанамі салдаты-берсальеры.
Там і сёння, да зямлі прыпаўшы,
Ты пачуеш:
«Я — Умберта, з Кіпра...
Я — Даната, з Чыта-Сан-Анджэла...
Я — Франчэска, з Порта-Рэканаці...
Я — Энрыка, з горада Мілана...
Я — Паола, з Умбрыі гарыстай...»
Хвалі жыта б'юцца ў стромы сосен.
Калі ціхне гул-прыбой шумлівы,
Ты пачуеш і расказ аб тым, як
За адмову ў партызан страляць
Іх скасілі кулямі фашысты.

«Дзве дарогі ў нас былі: адна з іх —
Да злачынства і да вечнай ганьбы,
А другая — праз парог смяротны —
Да братэрства з гэтаю зямлёю
Непакорнай і з яе народам,
Мужным і бясстрашным, як свабода...
Вось на гэтай — на другой — дарозе
Нас шукайце, маткі, жонкі, дзеці
І сябры,— хто хоча з намі стрэцца.
На ваш кліч заўжды мы адзавёмся:
Я — Франчэска, з Сеста-Ф'ёрэнціны...
Джыявані — з горада Мілана...
Сальваторэ — з узбярэжжа Цібра...»

Ты іх чуеш, мой далёкі дружа,
ці помніць іх твая радзіма?

*1968*

## ПЕРАД СТАТУЯЙ ШЫВЫ

Нашто, ўсемагутны Шыва,
Табе столькі лішніх рук?
А мне, бачыш, іх не хапае,
Калі я зямлю ару,
Калі драблю каменне
І зброю сабе кую,
Калі абдымаю зоры,
Тугу і радасць сваю,
Калі на жалейцы граю,
Танцую, смяюся, грашу...
Дай мне свае лішнія рукі,
Дай мне свае рукі, прашу!
Бо ты ўсё роўна імі
Не ўзняў здратаваных траў,
Не сцішыў разліваў Ганга,
Тайфунаў не акілзаў,
Не выцер слязы сірочай,
Людскіх не суцішыў мук...
Нашто, ўсемагутны Шыва,
Табе столькі рук?

*1968*

## З БЕРАГОЎ АМАЗОНКІ

Нанятая каланізатарамі-плантатарамі,
Узброеная не традыцыйнай касой —
Бо колькі ёй выкасіш? —
А стрыхнінам, тыфам, праказай,
Смерць ходзіць
Па штатах Мату Гросу
І Амазонас.

У хатах племя Цінтас Ларгас,
Куды запрасілі яе, як госцю, вячэраць,
Яна, развітваючыся,
Дзякавала гаспадарам кулямі,
Бразгала дзвярамі агню,
Харкала дымам у твар.

У хатах племя Цікуна,
Калі падалі ёй люльку міру,
Яна зацягнулася раз-другі,
Потым, падсыпаўшы марыхуаны,
Атруту
Перадала па кругу.
І ўсё гэта — таму,
Што за зямлю з магіламі індзейцаў
Даюць больш долараў.

І дзень, і ноч, як праз сельвасы,
Плыве праз маё сэрца Амазонка —
Чырвоная рака агню,
Крыві і гневу.

*1968*

* * *

Араў бы нівы, засяваў бы іх,
Дзяліў бы за сталом праснак духмяны,
Штодзень унукаў гушкаў бы сваіх,
Перабіраў бы галасы баяна,
Здымаў бы сваю шапку раніцой

Прад кожным чалавекам працавітым,
У дзверы грукаў бы з жаданай навіной,
Прыносіў бы букеты ўсім забытым,
Стаўляў бы хаты вокнамі на ўсход,
А каб іх што не знішчыла ліхое,
Шынель заўсёды браў бы у паход,
Пад галавой трымаў бы сваю зброю,
Пісаў бы пісьмы кожнаю парой
Жывым і мёртвым дружбакам — салдатам.

Вось колькі спраў зрабіў бы ён рукой,
Якую адняла ў яго граната.

*1968*

## ПАЎКАЗКА

Захацеў Паўдзед
Аб'ехаць Злыбяду.
Запрог Паўгнядога
Ў паўкалёсы-паўсані,
На адну нагу абуў паўлапця,
На другую — паўатопка,
Узяў паўторбы лусты
(Паўакрайца хлеба,
Паўжмені солі,
Паўцыбуліны,
Паўкапшука мультану).
Але з паўдарогі вярнуўся.
Гаворыць паўжартам:
— Аб'ехаў бы Злыбяду,
Каб меў Гнядога,
Калёсы ці сані,
Хадакі ці лапці,
Кажушок
І поўную торбу лусты.

*1968*

## ХАТА З КРАЮ

Мая хата — з краю.
Таму ў яе першую грукаюць
Вятры, збіўшыся з дарогі,
Хмары снежныя і дажджлівыя,
Птушкі пералётныя,
Сакавікі і лістапады,
Кірмашовыя дні,
Працавітыя будні,
Змораныя падарожнікі...

Мая хата — з краю.
І ў таго, хто жыве ў ёй,
Усе дні — клапатлівыя,
Усе ночы — бяссонныя,
Усе лавы — занятыя,
І ніколі не гуляюць,
Ні хвіліны не святкуюць
Ні печ, ні качарэжнік,
Ні міскі, ні лыжкі,
Ні конаўкі, ні цымбалы.

*1968*

* * *

Усе песні, апроч расстайных, сірочых —
Жаданыя;
Усе чаркі, апроч налітых прымусам,—
Лёгкія;
Усе ночы, апроч самотных, бяздомных,—
Кароткія;
Усе рэкі, апроч тых,
што плывуць на чужыне,—
Гаючыя;
Усе дарогі, апроч тых,
што вядуць на пагост,—
Бясконцыя.

*1968*

* * *

Я толькі частку невялічкую
Змог праспяваць
Таго, што расказалі мне
Вятры,
Дарогі,
Валуны і рэкі,
Лясы і зоры;
Я толькі частку невялічкую
Змог перадаць,
Што гаварылі вочы,
Вусны,
Рукі,
Людзей, з якімі жыў і сустракаўся.

Таму пад песнямі маімі
На першым месцы
Подпісы іх стаўце.

*1968*

## ПРЫЛЁГШЫ ПАД ЯДЛОЎЦАМ

Прылёгшы пад ядлоўцам,
Схаваўшы галаву пад мухаморам,
А ногі — ў дзеразе,
А рукі працягнуўшы
Паміж карэння сосен,
Я зліўся з мохам,
З верасам, з ігліцай,
Што нат лясныя жыхары
Не бачылі мяне.
І я пачуць змог
Казкі пра людзей,
Якія яны
Дзецям сваім баюць,
Пачуць, што чалавек —
Ім родная істота,
Але, ім здрадзіўшы калісьці,
Не любіць прызнавацца
Ў гэтым.

*1968*

## ПЕРАНОСІМ УРНУ З ПРАХАМ ЯНКІ КУПАЛЫ

Мы доўга не асмельваліся пераносіць
Паэта урну на яго радзіму,
Каб лішні боль не прычыніць зямлі,
Той, што яго ў пакутах нарадзіла,
Крывавіла на франтавых дарогах,
Дыміла галавешкамі руін.

Мы думалі, калі залечым раны
І зааром зямлянкі і акопы,
Узросцім першы хлеб на папялішчах,
Падвесім зноў калыскі ў нашых хатах,—
Не гэткаю цяжкой і гэта урна будзе.

Але бяссільны аказаўся час.
З гадамі усё больш і больш
Мы толькі ўсведамлялі нашу страту.
Таму, калі паэта урну неслі
На месца яе вечнага спачыну,
У кожнага схіляліся так плечы,
Як не схіляліся ні пад свінцовым градам,
Ні пад якой бядой і навальніцай.

*1968*

* * *

У музеі — маска паэта
Акамянелая.
Абыякавая да ўсяго.
Разбіце або прыміце яе!
Ці ж вы не знаеце,
Што, каб ён быў такім,
Як гэта маска,
Напэўна, яшчэ жыў бы.

*1968*

* * *

Самыя незабыўныя сны
Мне сніліся пад страхой
Тваіх шорсткіх далоняў.
(Даруй за такі сецэсійны
Пачатак прызнання.)
Твае вусны былі
На ўсе раны
Гаючымі лісцямі,
Хоць часамі вяртаўся да іх я
Не варты спагады.
(Даруй мне і гэты грэх,
Як даравала ранейшыя.)
Ніводзін касцёр так мяне
Не вяртаў да жыцця,
Як цяпло тваёй песні,
Ля якога заўжды
Грэю змерзлыя рукі свае.
(Даруй, што сваім бесталковым жыццём
Гэтак часта цябе непакою.)

*1969*

## НОЧ БЕЗ ЦЯБЕ

Ноч без цябе кашмарнаю здалася,
Таму я першым фарбам дня быў рад.
Далонямі сабраў лясную засень
І белізну, што кінуў снегапад,

Блакіт нябёс, бясхмарны і бяздонны,
І чырвань, што была ў крыві маёй...
І, быццам Фра Анджэліка мадонну,
Прыкленчыўшы, малюю вобраз твой.

Мне рэўнасць кажа даць
больш фарбаў цьмяных
Тваім вачам і валасам тваім...
Але неперaможна золак ранні
Над галавой тваёй гарыць, як німб.

*1969*

## УЗЫХОД СОНЦА

Раней за ўсіх прысніцца пеўням дзень.
Але ніхто ім веры не дае.
Адна старая маці, іх пачуўшы,
Прачнецца,
качаргу сваю разбудзіць,
У прыпечку раздзьмухае агонь,
Хлеб перахрысціць, пакладзе на стол.
А потым
чарада аблокаў
Зачапіцца, бы песня жаўрука,
І бусел — вартавы вясковы —
Дастане дзюбай сонца,
памацуе
Ды перадасць пабавіцца малым,
Пакуль яно з няшчыльнага гнязда іх
Не зваліцца на прызбу
нашай хаты
І не рассыплецца пчаліным перазвонам,
Кляпаннем кос
і звонам
берасцянкі.
Цікава, ці ўсё гэтаксама сонца
І сёння ў маёй Пількаўшчыне ўсходзіць?

*1969*

## ХОЦЬ РАЗ У ГОД

Трэба,
Хоць раз у год,
Прайсці басанож баразною за плугам,
Каб аднавіць
Сваю даўнюю сувязь з раднёй —
Зямлёй, камянямі, травой.

Трэба,
Хоць раз у год,
Наведаць магазін забавак,
Каб прыпомніць,

Які быў калісьці ты сам,
Каб дарунак купіць маломy,
Бо хто ведае:
Мо за капеечную ракету тваю
Ён некалі чалавецтву падорыць
Галактыку шчасця.

Трэба,
Хоць раз у год,
Наведаць магільнік,
Каб пераканацца,
Што ты не назаўсёды прыпісан
Да гэтай зялёнай планеты
Ці нейкай пасады.

Бо нават тыя,
Што спачылі пад эпітафіямі мармуровымі,
Пад бронзаю рэквіема,
У трыумфе вянкоў і прамоў,
Калі па сабе
Не пакінулі добрую памяць,—
Былі выпадковымі толькі
Прахожымі.

*1969*

## НАДНАРАЧАНСКІЯ СОСНЫ

Яны калышуцца
З асмаленымі кронамі,
З залітымі жывіцай
Ранамі ад куль.

У ясную пагоду
Аж на заходні бераг Нарачы
Уброд пераносяць сонца,
Памагаюць рыбакам
Цягнуць з сялявай невад;
А вечарам
Спяваюць з піянерамі
І скачуць цераз агонь.

У навальніцу —
З далоні на далонь
Сваіх пакручаных
І вузлаватых рук-галін
Перакідаюць
Абліскавічаныя
Гром і хмары.

Я, нават будучы глухім,
Між тысяч іншых сосен
Адрозніў бы іх пошум
І, нават будучы сляпым,
Абняўшы ці пацалаваўшы,
Іх пазнаў бы.

*1969*

## РАДЗІМА

Перад тым як вымавіць тваё імя, Радзіма,
Я, быццам джангарчы,
калі збіраецца спяваць,
Свой рот крынічнаю вадою палашчу,
Як сейбіт, выйшаўшы з сяўнёю поўнай,
Я кланяюся полю, хмарам, сонцу,
Як воін перад невядомым лёсам,
Я апранаю чыстую кашулю.

*1969*

## ЛЯ СТАРОЙ ХАЦІНЫ

Стаю ля хаціны старой,
У якой было:
Больш нараканняў на жыццё,
Як самога жыцця,
Больш дыму лучыны,
Як святла,

Больш едакоў,
Як лыжак,
Больш саганоў,
Як панцаку,
Больш цвыркуноў,
Як крошак хлеба,
Больш няспраўджаных сноў,
Як сукоў на бярвенні.

І, быццам недаверлівы Фама,
Дакранаюся да ран —
Вуглоў пагнілых
Са слядамі прыкладаў і куль,
Да дзвярэй, у якія грукалі
Ўсе навальніцы,
Да слепаватых вачэй шыб,
Скупых на сонца,
А на засень шчодрых,—
І пачынаю сумнявацца:
Няўжо хаціна гэта
Была калыскай песні?..

*1969*

* * *

Каторы раз старая,
Калі лыжкі раскладае на стале,
Памыляецца і лішнія кладзе.

Калі мы лазню цеплім,
Падрыхтуе бялізну ўсім,
І нават тым,
У каго бронзавыя на плячах кашулі
Ці шынялі з валошак, з чабару.

Калі ж збіраемся ў дарогу,
Дык не забудзе блаславіць і тых,
Што соснамі расстайнымі шумяць.

*1969*

## ФІНСКАЯ ЛАЗНЯ

На ўзбярэжжы Нясіярві,
Дзе граніт рвуць хвалі яра,
Запрасіў мяне друг Арві
Ў лазню фінскую памыцца.

Прывалок ён для распалу
Корч, што пражыўся на скалах,
Дроў бярозавых удалых,
Палкіх, быццам маладзіцы.

Як пачаў агонь іх песціць
І смалу з бяросты гнесці,
Цалаваць іх, а нарэшце
Кінуўся ў чырвоны танец —

Жар такі пайшоў ад лазні,
Што і там, дзе чэрці гразлі,
Тлець пачаў з імхом дзяразнік,
Аж не ўлежаў яніс-заяц.

Уцякла лісіца-кету,
Сусі-воўк — за ёю следам,
Потым з карху-медаедам
І вядзьмарка мойта-ака.

Тут і я хацеў даць ходу,
Толькі ўспомніў, што я — з роду
Тых, хто парыцца заўсёды
Ўмелі горача, са смакам.

Венікам перажагнаўся,
З Арві на палок забраўся,
Скуль здавалася — зямля ўся
Ходзіць ходырам пад намі.

А як па каўшы яшчэ мы
Хлабыснулі ў печы цемень,
Дык не зналі самі, дзе мы —
Ў д'яблаў ці паміж багамі.

Ды раптоўны пары выбух,
Як шпунты з той бочкі, выбіў

Нас у возера, дзе рыбы
Ходзяць хмарамі густымі.

Тут ачухаліся толькі,
Асвяжыў нас сівер колкі.
Кажа Арві: — І ты стойкі...
І зноў парыцца пайшлі мы.

*1969*

## ПЕРАД СВЯТАМ

Перад святам пачынаецца мыццё.
На балконах, развешаныя, сушацца
Дзіцячыя пялёнкі, паўзункі
З вышытымі пеўнікамі, зайчыкамі.
Як мірныя сцягі, іх развявае вецер,
А з імі, прымацаванае прышчэпкамі,
Калышацца веснавое сонца.
Сусед мой, інвалід,
                    старую разбудзіў пласцінку,
І яна адны і тыя ж словы паўтарае:
«Да цябе мне нялёгка дайсці... да цябе...»
Ніхто не слухае...
                    А мне здаецца:
У шынялі з вятроў і непагоды,
У ботах, да якіх прыстала паўпланеты,
Ізноўку да цябе я не магу дайсці...

*1969*

## НАРАКАЦІ

Над «Кнігай сумных песняў» у змярканні,
Нібы над безданню, схіліўся я,
Наракаці пачуўшы нараканні,
Уздрыганулася душа мая.

Што змусіла паэта — я пытаю —
Прызнацца нам з бязмежнаю тугой:
«Мне людзі хуткай смерці пажадаюць,
Я папрашу, каб стрэлася са мной»?

Няўжо ён страціў веру і надзею
Ўсе злыбеды свае перамагчы?
Ніхто не знае. Сведкаў прах развеян.
А друг ягоны — Арарат — маўчыць.

*1970*

* * *

**Як была я мала, мала...**
*З народнай песні*

Як была я мала, мала,
Калыхала мяне мама,

Потым — вецярок-свавольнік,
Сярод жыта польны конік,

Потым — цвыркунок запечны,
Потым — салавей надрэчны,

Потым — яблыні, чарэшні,
Потым — хлопцы, танцы, песні...

А сягоння прамінулі
Ўсе мае забавы-гулі.

Асталася толькі ціша,
Што ўспамінамі калыша.

*1970*

## МАДОННЫ НА АРЭЛЯХ

Было калісьці —
Разгушкаўшы дзяўчатаў на арэлях,
Глядзіш і думаеш:
Колькі ў небе мадонн
З нагамі, паколатымі іржышчам,
З грудзьмі, набраклымі жніўнымі песнямі,
З рукамі, загарэлымі ад абдымкаў з сонцам,
З косамі, расчэсанымі ветрам,
З вуснамі, прагнымі да шчасця,
З вачамі бяздоннага блакіту...

І шкадуеш,
Што яшчэ не маеш за што каяцца,
І молішся за будучыя грахі.

*1970*

## ПЕРАД СНОМ

— Накрыйце мяне рунню! —
Просіць зямля.
— Накрыйце мяне зорным небам! —
Просіць вада.
— Накрыйце мяне імглой! —
Просіць лес.
— Накрыйце мяне цішынёй! —
Просіць дарога.
А я перад сном:
— Накрыйце роднай песняй.

*1970*

## НА ШАЛЯХ АЗЁР

На шалях азёр
Узважваюцца рыбацкія лодкі,
Пералётныя хмары і птушкі.

Вось на шалю Мястра
Легла навальніца,
І яно — пачало ападаць.
Потым на шалю Нарачы
Цень партызанскага помніка лёг,
І яно — пераважыла.

І так хістаюцца шалі азёр
Ад хмар і вясёлак,
Ад сонца і зор.

Колькі разоў на гэтых шалях
Узважваліся
І маё сэрца і мае песні!

*1970*

## ПРЫЗНАННЕ

Шмат хто табе, Радзіма, прызнаваўся ў любві.
Каб зноў не паўтарыць слоў сцёртых
Ад частага ўжывання
і ў прамовах і ў цытатах,
Стараўся аб сваёй любві табе сказаць я
Плугам, пракладваючы барозны без агрэхаў,
Касой на нарачанскіх сенажацях,
Сякерай, узводзячы з бярвення зрубы хат,
Вінтоўкай, што ўручыла ў час суровы...

Даруй, калі маё прызнанне гэта —
Сярод узнёслых, красамоўных — здасца
Скупым і чорствым.

*1970*

## ЛЕТНІ ДОЖДЖ

Ці будзе дождж, ці пройдзе стараной?

Хмара велізарнейшым карытам,
У якім цяпер палошча бліскавіцы
І гром-бугай сваю ўталяе смагу,
Насунулася на сенажаць.

Ці будзе дождж, ці пройдзе стараной?

Хаця б паспелі стог мы завяршыць,
Перахрысціць яго бярозавымі віткамі.
Віхор рве з рук апошнія пласты,
З плеч — потныя кашулі,
З галоў — шапкі, хусткі.

Ці будзе дождж, ці пройдзе стараной?

Ён, можа, і не зачапіў бы нас,
Але буслы, што прыляцелі памагаць нам,
І кнігаўкі, што ў трыснягах кружылі,
І ластаўкі, што над зямлёй снавалі,
Неасцярожныя, прыселі на край хмары,
І тая, як карыта, пахіснуўшыся,
Накрыла ліўнем нас.

*1970*

* * *

Ад сукаватых жардзін плота,
З якіх пеўні
Уваскрэсенне з мёртвых абвяшчаюць;
Ад пасмаў дыму,
Што недаснёнымі снамі
Уецца над бацькаўскай хатай,—

Да чарод бяроз,
Атуленых цыганскімі хусткамі
Лістападу,
Якія заўсёды прадракаюць

Дарогу,
Да самага далёкага вогнішча,
Ля якога грэюцца песні і думы,

Да тваіх рук,
Што з майго твару
Стому і пот сціраюць,—

Цягнуцца лініі
Маіх небасхілаў.

*1970*

* * *

На пытанне —
Чаму мае рукі заўсёды цягнуцца
Да касы, да плуга, да сякеры,
Я адказваю:
— Усё яшчэ веру
У старыя прымхі,
Што ў канцы жыцця ўзважваюцца
Дрэнныя і добрыя справы
І прылады, з якімі хто дружыў,
І незайздросны лёс тых,
Хто зможа на шалі палажыць
Толькі лыжку
Ці толькі свой язык.

*1970*

## ПАГАСЛА ЭЛЕКТРЫЧНАЯ ЛЯМПАЧКА

Пагасла электрычная лямпачка.
Уставіў новую, 25-свечную.
— Чаму,— крычаць,— такую цьмяную?
А мне, як чалавеку,
Які калісьці
Пры адной свечцы

Вучыўся грамаце,
Бачыў, як вытыкала маці
Лугі веснавыя посцілак,
Уцягвала нітку ў іголку,
Каб самаробны гузік-бірку
Прышыць да палатанай сярмягі,
Бачыў, як бацька
Плёў лапці, майстраваў,
Малоў у жорнах хлеб,
А потым з адной свечкай,
Якая ледзь яго маршчыны азарыла,
Пайшоў у цемень вечнасці,—
Здаецца гэта лямпачка
Сапраўдным сонцам.

*1970*

* * *

Гэта зямля — нічым не прыкметная.
Калі будзеце ехаць, пярэднія колы
Могуць захлынуцца балотам,
А заднія — пяском.

Калі будзеце араць,
Плуг можа выараць валун
Або гром забытай міны.

Захочаце будавацца —
Будзе шчарбіцца сякера ад куль,
Заселых у кожнай сасне.

І нікому не зразумець —
Чаму, развітваючыся,
Кожны з нас бярэ з сабой
Жменю гэтай зямлі.

*1970*

* * *

Адкуль у цябе столькі радасці,
Што і я пачынаю смяяцца?
Адкуль у цябе столькі суму,
Што і я ўпадаю ў роспач?

Адкуль у цябе столькі святла,
Што я і ўначы цябе бачу?
Адкуль у цябе столькі цемені,
Што і днём, як сляпы, блукаю?

*1970*

## АВІДЗІЮ

У Давыд-Гарадку, на выгнанні, з тугі
Па радзіме далёкай Авідзій памёр.
*«Авідзій на Палессі», Сыракомля*

З вятрамі, аблокамі,
З птушкамі
Шмат павандраваў я па свеце.
Быў і на радзіме тваёй,
Дзе сярод пылу і друзу
Форума і Калізея,
Калон старажытнага Рыма
Знаходзіў асколкі
Гекзаметраў гулкіх тваіх.
Толькі дзе ты спачываеш —
Не знаюць
Ні хвалі крутога Дуная,
Якія ў выгнанні твой цень адбівалі,
Ні вулкі Канстанцыі,
Дзе галубоў ты карміў,
Ні нават нашчадкі сарматаў,
Якім склаў на мове іх
Некалькі песень, за што
Табе падарылі яны
Мядзведжую шкуру

І лук
З паланянкай-дзяўчынай.
Магчыма, яна цябе звабіла
Ў край наш паўночны,
Дзе Прыпяць не ведае берагоў,
Дзе пушчы трубілі
Ў сто туровых рагоў,
Гарэла зямля ад вясёлак суквецця,
І неба — ад зор.

Ты не памыліўся,
Што трапіў у край Светавіда,
Хоць быў тут далей
Ад радзімы сваёй,
Але быў далей і ад дружбы няшчырай,
Даносаў, хлусні,
Імператарскай ласкі,
Што едзе на клячы рабой.
А побач
Апошняя песня была
І цішыня,
За якой пачынаецца
Вечнасць.

*1970*

## ПАВЕСТКА Ў СУД

Аднойчы
(На календары было, помню,
«Канец дваццатага стагоддзя»)
Я атрымаў павестку ў суд.
Перабраў у памяці
Усе свае справы,
Губляючыся ў дагадках,
У чым я мог правініцца.
І толькі ў судзе даведаўся,
Што мяне абвінавачваюць робаты
За напісанне не прадбачанага імі
Верша.

І, напэўна, прысудзілі б
Заплаціць штраф,
Калі б мне не ўдалося давесці
На падставе пашпарта, і метрыкі,
І паказанняў
Некалькіх жывых сведкаў,
Што я
Быў яшчэ зачаты не штучна
І народжаны
Са стыхійнымі здольнасцямі і недахопамі,
Не запраграмаваны ніякімі камп'ютэрамі,
І таму не магу і сам прадбачыць,
Якія фантастычныя птушкі
Вылетуць з маёй галавы,
Якія казачныя дрэвы
Зашумяць у маім сэрцы,
Якія кветкі расцвітуць у вачах.
Баюся, каб зноў не прысніўся
Мне гэты сон,
Бо што я буду рабіць,
Калі ўстарэюць мае дакументы
І сведкі
Не з'явяцца ў суд?

*1970*

* * *

Відаць, ніводная з каралеўскіх дынастый
Не можа пахваліцца такой вечнасцю,
Як мой працоўны род,
Трон якога быў з простага лемяша,
Абапёртага на касу і серп,
На сякеру і гнаявыя вілы.

Відаць, ніводная гісторыя
Каранаваных дынастый
Не можа спаборнічаць са славай
Майго роду,
Запісанай галавешкамі

Спаленых панскіх маёнткаў,
Непісьменных крыжыкамі,
Сціснутымі цяжкімі, як гнеў, кулакамі.

І хоць не раз каты вырывалі
Цэлыя старонкі
Гэтай гісторыі роду майго,
Перакрэслівалі бізунамі, штыкамі —
Яны, быццам кроў праз бінты,
І сёння праступаюць праз барозны зямлі,
Праз мае песні.

*1970*

* * *

Калі ў Харонавай бюракратычнай установе,
Падвёўшы рысу пад чаргой маіх гадоў,
Спытаюцца:
— Ці варта было жыць?
Я адкажу, што варта, бо цябе сустрэў.
А ці хацеў бы зноў вярнуцца я?
Адмоўлюся.
Бо не хацеў бы цябе страціць зноў.

*1970*

* * *

Дрэвы паміраюць,
Калі перастаюць пазнаваць
Змены года
І не адгукаюцца рэхам;

Вада — калі забывае,
Куды ёй плыць,
І нікому не спатольвае смагі;

Зямля — калі перастае
Радзіць хлеб
І быць калыскай песняў;

Чалавек — калі страчвае здольнасць
Здзіўляцца і захапляцца
Жыццём.

*1970*

* * *

Каторы дзень
Мая левая рука
Дакарае правую,
Што не ўтрымала цябе,
А правая — левую,
Што не памагла.
Ты мусіш прыйсці
Памірыць іх.

*1971*

## УСЁ ПАЧАЛОСЯ З ІГОЛКІ

Усё пачалося з іголкі,
Што некалі маці купіла.
Іголка патрэбна была ёй
Мне зрэбную вышыць кашулю.
Кашуля патрэбна была
Прыкрыць мае плечы ў дарозе.

Дарога патрэбна была
Знайсці сваё шчасце на свеце.
А шчасце патрэбна было,
Каб скласці вясёлую песню.
А песня патрэбна была,
Каб болей не плакала маці,
Якую ужаліла ў палец іголка.

*1971*

* * *

Вершы мае — часовыя прыстанішчы,
Якія будую ўсё жыццё.
Але пасля таго, як заб'ю
Апошні цвік у рытмы,
Устаўлю вокны ў строфы,
Навешу дзверы на цэзурах,
Прымацую клямку да pointe —
У гэтым доме
Ўжо мяне не шукайце.

*1971*

## БРАЗНУЛА КЛЯМКА

Бразнула клямка, пазнаўшы мой дотык.
Дзверы, як рукі, да болі знаёмыя,
Бацькава хата раскрыла маўкліва.
Пэўна, глухой ад грымотаў жыццёвых —
Здаўся «Дзень добры!» мой звонам, які ёй
Радаўніцу прыгадаў, калі людзі
Раніцай — пашуць, днём — плачуць
на могілках,
Вечарам — скачуць, дадому вярнуўшыся.
Лыжка застыла над міскай заціркі.
Недзе зязюлі дзве пераклікаюцца:
Першая — лічыць мінулыя годы,
Скупа — другая — адлічвае рэшту.
Цэрбер бяссонніцы лёг ля парога
І да мяне не пускае дрымоту,
Хоць, каб задобрыць, аддаў яму хлеб свой
І недапітую конаўку квасу.
Вочы заплюшчу і бачу на покуце
Тых, што свой век аджылі і не вернуцца,
Толькі чый голас заўсёды мне чуецца.
Ды як заснеш тут, калі вуглы хаты,
Печ з лавай у субяседнікі просяцца.
Хочуць знаць: дзе мае ногі бадзяліся,
З кім мае рукі дружылі, страчаліся,
Што мае вочы цікавае бачылі
І пад якім грузам плечы схіляліся.

Ноч камарыная хутка мінае.
Шыбы слязяцца расою світальнаю.
Толькі пратрэш — і зноў кроплі збіраюцца,
Як на вачах.

*1971*

* * *

Аднойчы я ішоў з Дантэ
Па спіралях пекла.
І ён дзівіўся,
Што з часоў апошняе вандроўкі,
У царстве ценяў
Прыбавілася столькі новых
І невядомых
Яму кругоў.

*1971*

## ЧЫТАЮЧЫ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Часта, з трывогаю,
Разгортваю папялішча песень,
Бо ў стольках не знаходзіў
Ніводнай іскры.
Але на вогнішчы тваім —
Хоць над ім безліч прашумела
Лістападаў і дажджоў! —
Кладу свае далоні —
І адчуваю полымя жывое.
Угледзеўшыся — бачу яго водсвет,
Прыпаўшы вуснамі —
Апальваю іх да болю.

*1971*

## ГАМЕР

— Кінь, пясняр «Іліяды»,
Сваю нескончоную працу.
Хоць крыху адпачні,—
Гаварылі сябры з сваякамі.—
Мала славы табе,
Якой нат на Алімпе зайздросцяць.
Зноў звязаў ты свой лёс
З Адысеем — бяздомным бадзягам.
Не зазнаць табе з ім
У жыцці ні спакою, ні шчасця.
Ты, напэўна, сляпы,
Што не бачыш,
Як дом заняпаў твой.
Праз дзіравую столь
Вецер, зоры
І дождж прасявае.
Двор пакрыўся травой.
Толькі ходзяць суседскія козы,
Сам аброс, як сатыр.
У бясконцых даўгах заблытаўся.
Ты, напэўна, сляпы,
Бо не бачыш пакут Наўсікаі,
Што не зводзіць з цябе
Сваіх воч закаханых гарачых,
Як прыносіць заўжды
Раніцой табе мёду і хлеба.
Ты ж — заняты паэмай,
Падзякаваць ёй забываеш.
Ты не ходзіш ні ў храмы,
Ні на алімпійскія гульні.
Шмат хто нават пачаў
Сумнявацца ў тваім існаванні
І аспрэчваць, што ты
Напісаць мог сваю «Іліяду».
Ты, напэўна, сляпы...
— Хто сляпы з нас? —
Гамер запытаўся.
І, не ўзняўшы вачэй
Ад сціла, плыў далей з Адысеем —
Плыў у вечнасць.

*1971*

## У ПАРЭПАНАЙ РАМЕ ДЗВЯРЭЙ

З непрытульнага
Слабадскога пагоста,
Хоць і абгароджанага толькі
Заламанымі ў роспачы рукамі
І шумам сосен,
Ніхто зноў не вяртаўся.
І ўсё ж,
Здаецца мне,
У парэпанай раме дзвярэй
Зноў цябе бачу, маці!
Бачу, пасівелую, як валун,
Што і сёння трымае
На згорбленых плячах
Зруб нашага шчасця.
Бачу, атуленую хусткай трывогі,
Трывогі за дзяцей,
Што наведаць спазняюцца,
За нівы,
Што смягнуць пад сонцам,
За грады,
На якіх вецер кошкаецца пеўнем...
З-пад рукі —
Анямелай галіны плакучай вярбы,
Глядзіш у бясконцую далячынь
Перажытага.
Я стаю
І баюся пераступіць парог,
Каб не спудзіць твой цень
У парэпанай раме дзвярэй.

*1971*

## ЭСТАФЕТА АГНЮ

Правяраю эстафету:
Праметэй, які вырваў агонь з рук Зеўса,
Перад тым як закулі яго ў ланцугі,
Галавешку паспеў перадаць майму продку.
Той — у ракушцы жменю вугалля

Перадаў свайму сыну...
І так з рук у рукі
Перадавалі агонь, покуль ён
Пад надзейнай апекаю маці маёй
Не зацепліўся ў бацькаўскай хаце.
Сёння полымя я берагу.

Як жа так магло здарыцца, што
Трапіў гэты агонь у злачынныя рукі,
Якія маю спапялілі зямлю
І зараз падпальваюць свет?
Правярайце штодзённа
Эстафету агню!

*1971*

## ПАРТЫЗАНСКАЯ ШКОЛА

Дошка «Партызанская школа»
Даўно як экспанат
Разам з ордэнамі і медалямі,
Самаробнай зброяй,
Паходнымі сухарамі,
Зводкамі баёў
І берасцяным кубкам
Здадзена ў музей.

А ў самой школе,
Зрытай фугасамі,
Ацененай лесам гадоў,
Маўчаннем курганоў,
Пакрытай небам успамінаў,
Дзе некалі
Дзеці пісалі на бяросце
Крылатыя словы Купалы:
«Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны...»;

Дзе авалодвалі арыфметыкай,
Падлічваючы гільзы патронаў,
Падарваныя варожыя цягнікі,

І колькі яшчэ трэба
Мужнасці і толу,
Каб дабіць вайну;
Дзе вучыліся грыбамі,
Ягадамі ашукваць голад,
Маскіравацца
Ў папаратніках і верасах,
І чакаць, і чакаць загінуўшых,—
Сёння вучацца птушкі
Віць гнёзды з перасвістаў,
Пераліваў,
Звяры — трапінкі зашыфроўваць свае,
Мурашкі — будаваць з іглiцы буданы,
Вясёлы маладняк
У абгарэлых сосен-ветэранаў
Вучыцца спяваць
Адзвінеўшыя тут песні
Партызан.

*1972*

## ГОТЫКА «СВЯТОЙ АННЫ»

Загад пячаткай замацаваны —
Пярсцёнкам біскупа самога,
Каб грахаводніцу дзеўку Анну
Аддаць на споведзь агню святога:

Агню за тое, што ўсіх чмурыла
Сваёй пякельнай прыгажосцю,
Аж мужыкі ўсе гублялі сілу,
Гублялі розум ад грэшных млосцяў;

Што нат у варты, якая недзе
Яе злавіла ў часы купання,
Зацяла мову, і варта ледзьве
Суду змагла даць сваё дазнанне;

Што ў падзямеллі пад магістратам,
Дзе ў кайданы была закавана,
Нячыстай сілай былі ўсе краты
І ўсе запоры паадмыканы;

Што нават ката змагла сурочыць,
Хоць і маліўся той miserere,
Бо намагаўся яе сцяць тройчы
І тройчы выпала з рук сякера.

І вось высокі касцёр палае.
Ды дзіва-дзіўнае бачаць людзі:
Агонь, цалуючы, абдымае
Сваёй ахвяры і стан, і грудзі

І застывае гатыцкім храмам,
Дзе быццам з бронзы гарацъ чаканнай
Званіцаў вежы, апсіды, рамы...
І вусны шэпчуць: «Святая Анна!..»

*1972*

* * *

Кажуць:
«Цішэй едзеш — далей будзеш».
Мо праверыць?
«А за кукіш круп не купіш».
А я думаў?
«Праўда люба, хоць і груба».
Ці заўсёды?
«Папрацуеш — смак пачуеш».
Мо і праўда?
Кажуць: «Смерць вянчае славай».
Пачакаю?

*1972*

З кнігі
## «ДАРОГА, ЗАКАЛЫХАНАЯ ЖЫТАМ»
1976 г.

* * *

Звычайна сур'ёзныя людзі
Калі будуюць дом,
Перш закладаюць фундамент,
Потым узводзяць сцены,
Ставяць кроквы,
Крыюць.
У мяне ж — наадварот:
Я пачынаю з мары,
З дыму над комінам,
З буслінага гнязда,
Якое прымацоўваю да страхі,
Страху кладу на латы,
Латы — на кроквы,
Якія асаджваю на плечы сцен,
І ў вокнах — яшчэ не зашклёных —
Стаўлю кветкі.
Некаторыя смяюцца.
Хоць — як не дзіва! —
Дом гэты выстаяў
Пад громам навальніц.

*1972*

* * *

Помню: маці заўсёды клалася спаць
Толькі пасля таго, як засыналі
І дзеці ў запечку,
І куры на куросаднях,
І косы, заточаныя пад страхой,

І агонь у задымленай печы,
І вілы з памялом у качарэжніку,
І яблыня, заглядзеўшыся ў студню,
І аблокі над страхой буслінай,
І палявая дарога, закалыханая жытам.

Як жа мне сёння заснуць,
Калі, яе прыгадаўшы,
Усё не спіць,
І не спяць мае думы.

*1972*

## КАЛІ ТРЭБА БЫЛА ПЕСНЯ

Калі трэба была песня —
Ні ў чые не грукаў дзверы.
Я яе знаходзіў дома,
Як пад лаваю сякеру,
Як у прыпечку — цяпельца,
У сальніцы — жменю солі,
На дрывотні — кій дарожны,
Жаўрука — на родным полі.
А калі зноў песні буду
Я патрэбны, добра знаю:
Мяне знойдзе яна ў хаце
Ў тым жа нарачанскім краі
Ці за плугам, ці ў дарозе,
Ці ў дуброве рана-рана,
А не знойдзе — хай пакліча.
Я і з-пад кургана ўстану.

*1972*

## ДА АЎТАБІЯГРАФІІ

Ніякая віфлеемаўская зорка,
Ніякая планіда
Не абвяшчалі
Аб маім прыходзе на свет,
Як не абвяшчалі
Аб з'яўленні
Ніводнага з мужыкоў.
Толькі,— апавядала маці,—
Пачуўшы мой крык,
Світанак адклікнуўся пеўнем
Ды пратрубіла рабая карова,
Якую спазніліся выгнаць на пашу.

Таму міма гэтай падзеі
Можна прайсці, не спыняцца.

Дзяцінства на цягніках праляцела.
Тулілася ў змрочных падвалах,
Забітых бежанцамі,
Мышамі, клапамі
І толькі парою асветленых
Казкамі маці.

Таму міма яго
Можна прайсці, не спыняцца.

Юнацтва мінула
На сцежках этапных
У пошуках шчасця,
Штодзённага хлеба,
Незакратаванага сонца і песні.

Таму і міма яго
Можна прайсці, не спыняцца.

Сталасць прайшла
Ў цяжкіх ботах салдацкіх,
З вінтоўкай на плячах
І з верай у свята на вуліцы нашай.
Я рад, што была яна
Чэрствай і чулай,
Асветленай дружбай маіх пабрацімаў.

Чаму ж і пры ёй
Спецыяльна спыняцца!

Вось каля расстайных дарог
Ёсць курган.
Пад ім спяць тыя,
Якія жыццё аддалі
За нашу свабоду і шчасце.

Заўжды я спыняюся тут
І вам раю спыніцца.

*1973*

* * *

— Званалітнікі, скажыце,
Ці вы зможаце званочак
Выліць гэткі, які звоніць
На канваліі вясной.
Або гэткі, якім рана.
Будзіць жаваранак поле,
Або гэткі, які грае
Пад вясельнаю дугой,
Або гэткі, што нас кліча
Сваім голасам набатным,
Або гэткі, што праводзіць
На спачын жалобным днём?

— Мы адліць усё патрапім,
Апроч звону векавога,
Таго звону, які ўсе мы
Роднай моваю завём.

*1973*

## КАЛЫСКА

У кожнай песні ёсць свая
Матульчына калыска:
У баравой — зялёны цень
З верасавішчам нізкім;
У салаўінай — зорная
З паразіхценнем месяца;
У ветравой — з тых жэрдачак,
Што на скрыпучых весніцах;
У дажджавой ці грамавой —
З сінеючых абшараў.
Яна і ў песні ёсць маёй,
Хоць з полымя пажараў.

*1973*

* * *

Трое было нас неразлучных:
Бацька, я і піла.
Гэта могуць пацвердзіць
Вуглы зрубаў,
Стрыжняватыя пні,
Лежакі, як мядзведзі,
Залеглыя ў пасецы,
Цэбры з-пад агуркоў,
Вёдры — калыскі з вадой,
Да вочапаў прымацаваныя,
І цымбалы, якія вандруюць
Ад хаты да хаты,
Ад вяселля — да вяселля,
Ад свята — да свята.

Таму мне і сёння здаецца,
Што мы ўтрох зноў пілуем,
Хоць з пілой гавару я адзін:
Адзін на сталюгі ўздымаю калоду,
Адзін б'ю круглякі,
Адзін нясу дровы,
Адзін іх распальваю ў печы
І адзін грэю зяблыя рукі свае.

*1973*

## САНЕТ

У век рэвалюцыйны, штармавы,
Калі ідзе перабудова свету,
Калі імкнуцца ў космасе ракеты
На рэактыўных крылах агнявых,—

Над ветразем лірычнай сінявы
Задумаў я, як даўнія паэты,
Адправіцца на караблі санета
На дальнія сузор'яў астравы.

Не верыце, што я ажыццяўлю
Намер свой і вярнуся на зямлю,
Што вытрымаюць ветразі і ванты?

Наіўныя! Мой карабель — санет
Калісьці збудаваў вялікі Дантэ,
А сам Шэкспір на ім адкрыў сусвет.

*1973*

## ІЕРАРХІЯ

Зараз
Самы важны
Ва ўсім нашым племені — ўнук,
Які цэлы дзень барабаніць бразготкай
Па місках і сценах,
Па ўсіх нас — падданых.
Потым — яго маці,
Якая заўсёды нервуецца,
Што ён яе не слухае.
Потым — бацька,
Які павучае жонку, як гадаваць малога.
Потым — сваякі, дарадчыкі, тлумачы,
Якія распрацоўваюць распарадак дня
Яго вялікасці,
Калі вызначаць аўдыенцыі дактарам
І ў якой кашы больш вітамінаў.

І недзе на самым канцы —
Мы з бабкай,
Якая штодзень на балконе вывешвае
Яго распашонкі.

*1973*

## ГАРАЧЫНЯ

Гарачыня. Ледзь разаднее —
Трава на сенажаці млее.
У дзюбах птушак смягнуць песні.
Гараць з лістотаю чарэшні.
Ад пылу і сляпнёў сляпая,
Дарога ў возера нырае.
А поле прысакам дыміцца.
Замёршы, вецер не павее.
Ля студні — ты.
— Дай мне напіцца
Або схавай у засень веек.

*1973*

* * *

Аслепшы,
Яшчэ можна з кульбакай
Дарогу дадому знайсці.

Аглухшы,
Яшчэ будзеш чуць
Скрып дзвярэй сваёй хаты.

Анямеўшы,
З сябрамі бяседу весці
Ва ўспамінах.

Толькі страціўшы Радзіму,
Будзеш, як камень,
Сляпы, і глухі, і нямы.

*1974*

## ПІГМАЛІЁН

— Шчаслівы ты, што можаш Галатэю
У мармуры стварыць, Пігмаліён.
Перад яе прывабнасцю нямею.
І мне здаецца, што ўсё гэта — сон.

Не сон!
Чакай!
Яшчэ разцом прайду я,
Яшчэ распраўлю валасоў бруню.
І ты пабачыш наяву жывую.
Глядзі! Скідае туніку сваю.

*1974*

## ГЕРБАРЫЙ

У гербарыі маім сабрана лісце
І траў, і дрэў паводле плыні дзён,
І навальніц,
што над жыццём шумелі.
Тут пераблытаны ўсе кантыненты,
Ўсе поры года, радасці і смуткі.
Таму і дзівяцца свайму суседству
Лісты бярозы, што была калыскай,
Лісце трыпутніку,
што раны суцішаў,
Галінка ядлаўцу,
што стаў маёй кульбакай,
Далонь кляновая,
што грэла матчын хлеб,
Чабору жменька,
што купалка падарыла,
Калі яе ля вогнішча злавіў,
Сцяблінка верасу,
што сон мой берагла,
Лазовы парастак,
варожай куляй збіты,
Куст палыну
з хатынскіх папялішчаў

І лапка хвоі,
                    што ля сцен крамлёўскіх,
Пялёсткі ружы, як салюту выбух,
Што абвясціў аб нашай перамозе.
Далей —
            трысцінка з шалаша ў Разліве,
Галінка лімбы з берагоў Паронца,
Каштана ліст,
                    што помніць Пер-Лашэз,
Жаркоў сузор'е, што сагрэла тундру,
І веер лотасу, што абвяваў Янцзы,
Аліві ліст, які спяваў з Гамерам,
Цвет амярцвелай вішні з Хірасімы,
Калючкі кактуса,
                    дзе стыне кроў Гевары,
Галінка араўкарыі,
                    што адчыняла дзверы
Ў гасцінны дом Нэруды, у які
Зноў некалі
                    ён вернецца з сябрамі...

Перагортваю гербарыя старонкі
І чую зноў, як гэтыя лісты,
Сцяблінкі кветак,
                    траў з усёй зямлі
У маім сэрцы ажываюць песняй...

*1974*

* * *

І радасць — ніякая радасць, а горыч,
І песня — ніякая песня, а скарга,
І страва — ніякая страва, а камень,
І брага — ніякая брага, а слёзы,
І сонца — ніякае сонца, а крыга,—

Калі ты на свеце ўсім гэтым
Не маеш з кім падзяліцца.

*1974*

## АНТЫСАНЕТ

Што сваёй Музе рупнай, працавітай
Я падару на схіле сваіх лет?
Мо з дрэва райскага прынесены ранет,
Пярсцёнак Палікрата срэбраліты?

Мо чару, поўную вясновага блакіту,
Ці нейкіх кветак палявых букет,
А мо гарэзу прыбяру ў санет —
У вопратку багіняў старажытных?

Як гэты вабны ўбор да твару ёй!
Чаму ж не радуешся, дарагая?
— Як мне ў ім дзіцянё карміць, не знаю,

Як працаваць і цешыцца з табой,
Калі санет твой грудзі і стан мой
Чатырнаццаццю клямрамі сціскае.

*1974*

## НА НОВАЙ ВУЛІЦЫ

Гэта — зусім новая вуліца:
З новымі дамамі,
Дзетварой і галубамі,
З новымі тралейбусамі
І паштовымі скрынкамі,
Клопатамі і радасцямі,
З новымі прызнаннямі
У каханні
І расстаннямі,
З новымі ліпамі,
Якія толькі што прыжыліся,
Але яшчэ не прывыклі
Да электрычных маланак і зор,
Да дажджу з палівальных машын,
Да транзістарных салаўёў...

Кожны дзень
Гэтыя ліпы
Мяне спыняюць
І распытваюць пра мясцовыя
Звычаі,
Як дзяўчаты,
Якія далёка выйшлі замуж
І якім ўсё яшчэ сняцца
Пакінутыя дубровы.

*1975*

## НАД НЁМАНАМ

Я даўно з табой, Нёман,
Пагутарыць марыў.
Не асмельваўся толькі
Дакучаць, як іншыя,
Рамантычна-гуллівым
Сваім уздыханнем,
Меркантыльна-турысцкім
Сваім захапленнем.
Ды і часу твайго
Шкадаваў, хоць ты маеш
Не стагоддзі,
А тысячагоддзі ў запасе.
Але маеш і працы
Клапатлівай нямала:
Раніцой — напаіць
Табуны імглы шэрай,
Памагчы пабяліць
Ручнікі маладзіцам;
Днём — плыты гнаць,
Рыбацкія лодкі гайдаць,
Бліскавіцы крышыць
І турбіны варочаць,
З палахлівымі чайкамі
Пераклікацца;
Ноччу — зорнае неба
Трымаць у абдымках.
Я хацеў бы ў цябе

Запытацца, мой Нёман,
Умудронага бачаным
І пяражытым,
Што за далечынёю гадоў
Нас чакае
З той сасной, над якой
Бусел крылы раскінуў,
З песняй роднай —
Маёй спадарожніцай вечнай—
І нязменнай,
Як матчына вернасць, зямлёю?

Не таму я пытаю,
Што няпэўнасць трывожыць.
Як калісьці ў маленстве,
Заглянуць я хацеў бы:
Што — за громам і рэхам,
Што — за казкай і сонцам?
Можа, сёння ў цябе
Многа спраў неадкладных,
Каб са мною пагутарыць?
Я пачакаю
Ля вогнішча,
Водсвет якога гуляе
Шчупаком сярод хваль,
Ацяжэлых ад змроку,
Ці дамовімся, што
Сам мяне ты паклічаш.
Толькі не адкладай
Нашай стрэчы-бяседы
Аж да грэцкіх календаў,
Калі вогнішча згасне.

*1975*

## У ГЭТЫ ДЗЕНЬ

Ніколі, як у гэты дзень,
Не прыбіралі цябе, маці,
Так святочна,
Нібы на кірмаш
Ці да радні ў адведзіны.

Ніколі,
Як у гэты дзень,
Так высака
І ў такой славе
Ты не ехала.
Сустрэчныя спыняліся,
Здымалі шапкі.
І нат машыны грузавыя
З дарогі саступалі.

Ніколі,
Як у гэты дзень —
Хоць сонечны і людны,—
Так сцюдзёна,
Так цёмна,
Так сіратліва не было
У нашай хаце

*1975*

## КОРМЯЦЬ СЯРГЕЙКУ

Першая лыжка за маміну ласку,
Другая — за татавы гушканні-гулі,
Трэцяя — за бабуліны казкі,
Чацвёртая — за жалейку дзядулі,
Пятая — за пеўніка чубатага,
Шостая — за коціка-дуроніка,
Сёмая — за жаўрука над хатаю,
А восьмая — за наша сонца-сонейка,
Дзевятая — за веснавую раніцу...
Ну вось і каша ў місачцы канчаецца.

*1975*

## НАВЕДВАННЕ ДОМА ЯКУБА КОЛАСА

Зноў асцярожна
па маўклівых сходах
Заходжу ў яго дом. Стары кажух —
Як зборнік прыказак
і прымавак дзівосных.
Забіўшыся ў куток, стаяць валёнкі,
Пра даўнія дарогі ўспамінаюць
І дзівяцца, чаму пра іх забылі.
Чарнее трубка тэлефонная, як шпак,
На ворыве пісьмовага стала,
Дзе недаканчанага пісьма
Чарнеюць першыя барозны.
Неспадзявана, пэўна, госця-смерць
Аклікнула яго. І ён адклаў пяро,
З якім, як з цудадзейным талісманам,
Непадуладны быў нікому.
Адклаў пяро і на сустрэчу выйшаў.
Нат дзеці не паспелі папярэдзіць.
А можа, не пазналі, бо яна
да кожнага
З'яўляецца пад выглядам іншым,
З другой,
загадкавай усмешкай па абліччы.
І да яго магла прыйсці сястрою медыцынскай,
Суседкаю, прасіцелькаю нейкай
Ці паэтэсай пачынаючай, якая
Пачуць хацела свой прысуд ад Зеўса.
Адклаў пяро... Нашто яго адклаў?!

*1975*

## ШЧАСЛІВЫ ДЗЕНЬ

Завяралі старэйшыя,
Што імі
Ўжо вырашаны праблемы
Праўды, няпраўды,
Дружбы, кахання,
Жыцця і смерці...

І я быў засумаваў,
Што мне яны
Нічога не пакінулі.
Але аднойчы, усумніўшыся
У нейкай дробнай ісціне,
Я пачаў правяраць,
І аказалася:
Усё — ад альфы да амегі —
Трэба мне вырашаць
Нанава.

І гэта быў
Мой самы шчаслівы дзень.

*1975*

## ДОМ СІБЕЛІУСА

Не мінайце
Дом Сібеліуса Яна
І ў яго адсутнасць.
Ён недзе блізка.
Вы толькі размінуліся,
Калі ішлі
Ў мінулы дзень,
А ён — у заўтрашні,
Вы чуеце звон кантэле?
Ён, пэўна,
У Вайнямёйнена гасціць,
Запісвае паўночнае зіянне,
Маўчанне айсбергаў,
Шум сосен,
Вадаспадаў гул...
Не мінайце
Гасцінны дом
Сібеліуса Яна,
Калі вы хочаце пачуць
Яго Суомі.

*1975*

## Ц. НОРВІД

Трэба ж было
                    пры жыцці табе зведаць
Сум па далёкім пакінутым краі,
Ўсе ліхалецці, ўсе злыбеды-беды,
Лютасць, варожасць заілаўскай зграі,

Трэба ж было табе зрокам прарочым
Бачыць і бронзы і велічы марнасць,
Бачыць трыумф свой за далеччу хмарнай,—
Каб у самотнасць адважыцца збочыць,

Дзверы пытаннем, як гром, зачыніўшы:
«Чым ты, Сакраце, Афіны праславіў,
Што залаты бюст табе люд паставіў,
Перш атруціўшы?..»

*1975*

## ПРЫЗНАННЕ,
## ВЫРАЗАНАЕ НА КЛЫКУ МАРЖА

Калі будзеш
І далей ты жартаваць:
Мне штодзень
Зацьменне сонца учыняць,

Давядзецца вандраваць
За сотні рэк,
Пашукаць выратавальных
Нейкіх лек.

Кажуць, дзесь
За Індзігаркай ёсць шаман,
Што закляццем
Разганяе ноч, туман.

Я аддам яму
Аленяў і пясцоў,
Каб мне сонца
Тваіх воч вярнуць ізноў.

*1975*

8—2143

## ЛЯ ДАМАШНЯГА КАЛОДЗЕЖА

Дарога ад лавы да парога —
Падзея ў сяле.
— А Домчын сын пачаў хадзіць,—
Абменьваліся навінамі
Суседкі ля калодзежа.

А потым працягнулася
Гэта дарога
Ад парога да варот,
Ад сяла — да сяла,
Ад сэрца — да сэрца,
Ад песні — да песні,
Ад зоркі — да зоркі...

І нашто я
Так далёка завандраваў,
Што нат не чуваць,
Аб чым сёння гавораць
Ля дамашняга калодзежа.

*1975*

## ЛЯ ПАДНОЖЖА ОХАС-ДЭЛЬ-САЛАДЫ

— Чаму так згорбіліся горы?
— Гэта — не горы,
а плечы маіх продкаў,—
Адказаў чыліец.—
Яны няслі на сваіх плячах
Нядолю утапіць у акіяне,
Ды не дайшлі.
Застылі пад яе цяжарам.
Цяпер мы збіраемся
Ажыццявіць намер іх.

*1975*

## МЕТАМАРФОЗА АГНЮ

Ён тысячы раз нараджаўся,
Паміраў
І зноў нараджаўся.
Ён такі ж спрадвечны,
Як зоры.

Вось ён зараз
Лашчыцца сабакам
І ліжа мае змерзлыя рукі.
Я асцярожна
Гладжу яго,
Каб не раззлаваць.

Падкінуў
Смалістую костку карча,
За якую ён прагна схапіўся
І ператварыўся ў бусла,
Які, распусціўшы крылы,
З гадзюкай дыму
Ў чырвонай дзюбе
Пусціўся ў вясельны танец.

Не паспеў я аглянуцца,
Як ён скурчыўся,
Стаў матылём,
Што калыхаўся калісь
На лучыне.

А потым прыкінуўся вожыкам.
Але толькі прыкрыў голлем
Яго залатыя іголкі,
Як ён узвіўся ў неба
Ракетай Гагарына,
А потым — змалеў,
Стаў партызанскай папахай
З чырвонай стужкай гневу.

А потым — закалыхаўся знічам
Над безыменнай магілай.
А праз хвіліну заззяў
Маладым сонцам,

Якое толькі што
Выцягнулі вочапам
З бяздоннай студні ночы.

Не знаю, кім ён яшчэ
Прыкінецца,
Чым здзівіць?

І таму мне заўсёды
З вогнішчам кожным
Шкада расставацца.

*1975*

* * *

Прайшоў міма
Прыдарожнага камня,
Ды вярнуўся,
Каб даведацца,
Каго ён чакае.
Можа, аблокаў,
Што лятуць на стрэчу.
Можа, весняй
Лістоты бяроз,
Можа, першых плугоў?
А можа — мяне,
Каб расказаць пра тых,
Хто прайшоў
Па гэтай дарозе.

*1975*

## ДУБ ЯГЕЛЫ

Газеты пісалі:
Белавежскі дуб Ягелы
У навальнічную ноч
Свой з́акончыў век.
Шкада, што я не быў
На яго пахаванні,

Не чуў развітальных прамоў
Дзятлоў,
Якія яго столькі год лячылі,
Дзікоў,
Што ласаваліся яго жалудамі,
Зуброў,
Што на ім вастрылі свае рогі,
Буслоў,
Што калыхаў ён на сваіх руках,
Рыдання грузавікоў,
Якія яго везлі
На тартак.

Я, як homo politicus,
Калісьці угаварваў яго
Падзяліцца сваімі ўспамінамі
Аб мінулых вяках і падзеях.

Пэўна, забыў стары.
А цяпер будуць розныя гісторыкі
Прыпісваць яму
                    неверагодныя небыліцы,
Хоць ён больш за ўсё клапаціўся,
Каб навокал яго прараслі
Жалуды праўды.

*1975*

## НА РЫБАЛЦЫ

*Міхасю Лынькову*

— Міхась!..
Зачынена акно.
Няўжо ён яшчэ спіць?
Хаця ў чаўне зары
На бераг наш
Ужо вяслуе ранак.

— Мі-хась!..
Няўжо забыўся ён,
Што сёння меліся

Рыбацкае мы шчасце
Паспытаць?
Ці, ноч правёўшы
З героямі
Сваіх апавяданняў,
Пад дзень яго ахмарыў сон?

Але ж заўжды,
Калі з ім дамаўляліся,
Ён загадзя
Рыбацкія прылады рыхтаваў
(Сачок і спінінг, блёсны і грузілы,
Сярод якіх
Былі такія мудрагелістыя —
Прывезеныя з Амерыкі ці з Азіі,—
На якія толькі
Шчупакі дзівіліся),
Хаваў у лодцы ад дамашніх
Цыгарэты
(Дактары курыць забаранялі)
І доўга экзаменаваў
Свой лодачны матор,
Які пляваўся дымам,
Чыхаў, агрызаўся,
Як цюцік, у якога
Адбіралі костку.

А можа,
Размінуліся мы з ім,
І ён раней адплыў
На гатаўскія тоні?
Яшчэ аклікну раз
І паплыву шукаць.

*1975*

З кнігі
## «ПРАЙСЦІ ПРАЗ ВЕРНАСЦЬ»
1979 г.

* * *

Я спытаў чалавека,
Які прайшоў праз агонь,
І воды,
І медныя трубы:
— Што самае цяжкое
На гэтым свеце?

І ён адказаў:
— Прайсці праз вернасць.

*1976*

### У ВІЛЬНЮСЕ

Не знаю, што магло расчуліць
Мяне між вільнюскіх муроў.
Мо тое, што тут столькі вуліц
З імёнамі маіх сяброў?

Ну як жа іх не пераведаць?
І я за ценем сваіх дум
Па пераходах, пераездах,
Знаёмых вуліцах іду.

Званю. Мне дзверы адчыняюць.
Не застаю сяброў былых,
І шмат хто, здзіўлены, пытае:
Няўжо іх знаў і помню іх?..

Няўжо іх знаў, няўжо іх помню?
Чаго ж бы ў дзверы грукаў я,
Чаго ж бы кожны раз у поўнач
Блукала песня тут мая?

*1976*

* * *

Тры крумкачы кружаць-тужаць
Над забітым партызанам:
Каму гэтую звестку несці
Да заручанай дзяўчыны,
Да сяброў яго, да маці?..

Тры крумкачы кружаць-тужаць.

Першы кажа: — Да дзяўчыны
Я не ведаю дарогі...

Тры крумкачы кружаць-тужаць.

Другі кажа: — Ў дыме бітвы
Як знайсці сяброў ягоных?..

Тры крумкачы кружаць-тужаць.

Трэці кажа: — Я занёс бы
Звестку сумную да маці,
Ды цяжар яе на крылах
Не змагу сваіх падняць я...

Тры крумкачы кружаць-тужаць.

*1976*

* * *

Старажытныя амфары.
Гэта, што была з вадой,
Расказвае пра дзяўчыну,
Якая з яе спаталяла смагу.
Гэта, што была з віном,
Расказвае пра песні.
Якія спявалі на свяце Дыяніса...
Але чаму з іх адна маўчыць?
Няўжо была ў ёй цыкута?

*1976*

## НЕПАДСУДНАЯ

Я на яе хацеў у суд падаць
За скрадзены мой сон,
Парушаны спакой
І за сваё,
Як пелася ў старых рамансах,
Разбітае сэрца.

Ды следчы,
Перагарнуўшы —
Ад рымскага да нашага —
Ўсе фаліянты права,
Развёў са спачуваннем рукі:
— Непадсудная.

*1976*

## НА ЭКЗАМЕНЕ

У мяне спыталі:
— У якой імперыі
Не заходзіла сонца?
Я адказаў: — Толькі ў адной —
У імперыі паэзіі...

І праваліў экзамен
Па гісторыі.

*1976*

## ОДА НА СМЕРЦЬ КАРДЫНАЛА І. ДАНЕЛОНА

О свяцейшая высокасць,
Вы даруйце, што я славіць
Буду ў грэшнай сваёй одзе
Ваша імя, вашы справы.

Бо адны камедыянты,
Скалазубы скаляць зубы,
А другія з папам Паўлам
Судзяць вас сурова, груба.

Што вы — рыцар беззаганны,
Самы моцны абаронца
Догм касцельных, цэлібата —
Ўблыталіся ў грэх бясконцы:

Спакусіў вас зрок жаночы —
Спёчны позірк васіліска,
І закончылі жыццё вы,
Абдымаючы стрыптызку.

Дай вам божа рай нябесны,
Хоць малітвай свет чмурылі,
Ды сваёй вясёлай смерцю
Вочы многім вы адкрылі.

*1976*

## У ХІРАСІМСКІМ МУЗЕІ

Не, гэта — не музей,
Яшчэ адзін круг пекла,
І, можа, круг апошні,
За якім не знойдзем
Ні жыцця, ні смерці.

Тут анямелі цэгла і бетон,
Жалеза скурчылася ў невыносных муках,
І з чарапоў людскіх

Дашчэнту выпаліў агонь
Усе утопіі старога свету,
І веру ў Бога, і ў Мікада,
І ўсемагутны чалавечы розум.

Садома і Гамору,
Кажуць, знішчыў Бог,
Пампею з Геркуланумам — Везувій,
Хатынь і Лідзіцэ — фашысты.

Хто ж сэрца твае знішчыў,
Хірасіма?
Маўчаць,
Падавіўшыся пачкамі долараў,
Даведнікі, экскурсаводы,
Тэлебачанне, радыё, друк...
Няўжо маўчыць і сумленне?

*1976*

## НАЧНАЯ ВАРТА

— Ну што, яшчэ пусціць па кругу чарку?
Хто пра Рэмбранта нешта там пляце?
Я знаў яго, заўсёды з ім страчаўся,
Як толькі ў Амстэрдаме швартаваўся,
Які быў для мяне карчмой заезджай.
Ён мне памог з-пад носа капітана
Бенінга Кока выкрасці дачку —
Яго красуню Маргу, за якую
Не раз хапаліся матросы за нажы.
Дык вось дамовіліся мы з ёй уцячы
У Новы Свет на «Альбатросе» — шхуне.
Прыйшоў я да Рэмбранта і прашу:
— Дапаможы!
— А як?
— Калі прыйдуць стралкі,
Дык зацягні сеанс да поўначы, скажы,
Што сёння ты хацеў бы дапісаць
Высакародныя іх бюргерскія морды,
Навесці бляск на іх мушкеты, пікі...

Чакай! Тут пэўная няўвязка ёсць!
Сваю «Начную варту» ён пісаў,
Здаецца, у семнаццатым стагоддзі...

— Няўжо аж столькі год ужо мінула!
Тады яшчэ па кругу пусцім чарку!..

*1976*

## ХАЦІКА

На дзесяты дзень
Трэцяга месяца гэтага года
Горад казачны Нару
Наведаць мне выпала шчасце.
А ў тым горадзе
У старажытнай драўлянай святыні,
Пяціярусным небам укрытай,
Яшчэ большае выпала шчасце —
Пазнаёміцца з Будам самім.
А калі ад яго я выходзіў,
Дык найбольшае выпала шчасце —
Сустрэцца з прыгожай Хацікай,
Без якой, як гавораць
З дзён Аматарасу,
На зямлі была б вечная ноч.

*1976*

## ТАКАСАГА

Каб любві і вернасці
Лівень не разліў,
Каб ніякі сівер
Душ не астудзіў,
Каб не разарваў рук
Ні агонь, ні меч,

А жыцця нягоды
Не сагнулі плеч —
Тройчы абмяняемся
Кубкамі сакэ,
Кубкамі вясельнага,
Хмельнага сакэ!

*1976*

## ВЕРНАСЦЬ

Відаць, той,
Хто вычараваў яе з мармуру,
Паабяцаў быў
Да яе вярнуцца.

Бясконцыя дні, месяцы,
Гады
Яна яго чакае.

Нат калі надрываліся
Гудкі паветранай трывогі
І ўсе хаваліся ў траншэі,
Бамбасховішчы —
Яна
Заставалася на месцы.

І калі многія
З агнём ахопленага горада
Эвакуіраваліся,
Яна не пабегла на вакзал.

І нат калі ворагі
Крычалі «Хэндэ хох!»
І аўтаматная чарга
Свінцом ёй апаліла грудзі —
Яна не падняла сваіх рук.

Цікава, хто паклаў
Ля статуі
Параненай багіні
Ружу?

*1977*

## З ДЗЕННІКА Д'ЯБЛА

Ну і намардаваўся я з гэтым праведнікам!
Ніяк не мог яго спакусіць золатам,
Тытунём, акавітай, прысмакамі,
Каралеўскай уладай і папскай ціярай,
Вечнай маладосцю і несмяротнасцю.
Нат калі падаслаў яму голую чараўніцу,
Ён паклаў сваю руку на полымя свечкі
І трымаў, покуль я са спакусай сваёю
Не вытрымаў і ад яго не ўцёк.
І толькі спатыкнуўся ён, дзівак,
Калі паверыў у сваю бязгрэшнасць.
А было гэта ў год тысяча дваццаць пяты,
У месяц шалу веснавога і квітнення
Папараці перад першымі пеўнямі.

*1977*

## ПРЫГОДА З ДАЖДЖОМ

Ноч.
Хто дрыготкімі пальцамі
Стукае ў шыбы?

— Я — веснi дождж.
Партызанскі бор, чуў,
Мяне клікаў у госці,
Каб абмыў яго раны,
Напаіў, асвяжыў.
Толькі як да яго мне дайсці?..
Выйшаў я. Расказаў.

Ды праз нейкі час
Ён ізноў грукае ў дзверы.
Знаць, не мог разабрацца
Ў дарогах лясных,
Хоць, здаецца,
Яму расказаў я дакладна,
Як за рэчкай знайсці баравыя імшары,

А далей —
За разбітай снарадам сасной —
Адшукаць пяць сцяжын,
Быццам пяць пальцаў рукі:
Мезены — паказвае на брады,
Безыменны — на нашы былыя засады,
Сярэдні — на буданы і зямлянкі,
Указальны — на траншэі,
Зарослыя маладняком,
А вялікі — на абеліск славы...

— Пачакай!
Пойдзем разам,— кажу.—
А каб часам і мне тут
Не збіцца з дарогі,
Ты ўначы
Зіхаці бліскавіцай.

*1977*

## АДЛЕГЛАСЦЬ

Адлегласць ад пункта «А» да «Б»
Такая ж, як адлегласць ад «Б» да «А».
Што з'яўляецца аксіёмай,
Вядомай і дашкольнікам.
Чаму ж тады дарога дамоў
Карацейшая, як з дому,
Аб чым знае нават конь.
А дарога да цябе
Карацейшая, як ад цябе,
Аб чым сведчаць мае ногі,
А дарога ад плуга да пяра
Карацейшая, як ад пяра да плуга,
Што сцвярджаюць
І мае крытыкі.

*1977*

* * *

Мініяцюрныя горы —
Малодшыя прапраўнучкі Фудзіямы —
Парослыя скарлавацелымі соснамі,
Дрымотнай цішынёй імхоў.

Месяц —
Самотная лодка
Шукальніка перлаў,
Які некалі ў хвалі нырнуў
І не выплыў.

На беразе жанчына —
Слязамі апалены камень.
І я спыніўся,
Каб ёй не было так
Самотна.

*1977*

## ІКЕБАНА

«У адной маткі больш цяпла, як у сотні,
У адной усмешцы больш радасці, як у сотні,
У адной слязе больш горычы, як у сотні,
У адных вуснах больш слодычы, як у сотні,
У адной кветцы больш бляску, як у сотні»,—

Сказала мне пры расстанні Іока,
Ісціну слоў якой не магу, не хачу
І не раю нікому аспрэчваць.

*1977*

## МАРК ШАГАЛ

Вандроўны бог мяне
Ў Шагала дом прывёў,
У свет яго блакітных
Летуценняў, сноў,
Што, быццам прывіды

Мінулага жыцця,
Ў дрыготкім ззянні свечак
Шабасных мігцяць.

— Ну, як там незабыўны
Віцебск над Дзвіной
З маёй суседкай Ханай
І яе казой,
І з Янкелем,
Былым рамізнікам, які
За сінагогай жыў
На беразе ракі?..

Так, чуў я, чуў
Пра іх трагічны лёс
І чуў, што з папялішчаў
Горад уваскрос.
Ён часта сніцца мне,
Нат у Сен-поль-дэ-Вэнс
Прыходзіць да мяне
Ў сцягах чырвоны ўвесь.

Здаецца, бачу Пэна —
Чарадзея зноў.
Малевіча, Кандзінскага,
Былых сяброў,
З якімі некалі
Я з Замкавай гары
Глядзеў і захапляўся
Віцебскам старым.

Зямны яму паклон
Там перадай, глядзі ж!
Не за гарамі ўжо
Мяце мая зіма...
Рассталіся. Пайшоў я.
Ў будучы Парыж,
А ён — у Віцебск той,
Якога ўжо няма.

*1977*

## ЗДЫМАК БЕЗ РЭТУШЫ

Дарога, размолатая жорнамі калёс,
Гусеніцамі танкаў цяжкіх, як лёс.
Пара дыміць з шынялёў і кашуль.
Дрэвы пасечаны градам куль.
А побач — пажарышчы, курганы...
І мы ідзём дарогай вайны.
Часам сцішыцца бітвы грук,
Тады ў небе чуем: пяе жаўрук.
Адкуль ён узяўся? Няўжо вясна?
А гэта значыць: чакаюць нас
Ахопленыя агнём палі,
Што быльнягом даўно параслі.
І хоць нялёгка ісці далей,
Ідзём, па калені месячы глей,
Несучы ў пасівераных руках
Вінтоўкі, а ў сэрцы — звон жаўрука...

Ты хату прыбіраеш. Заўтра май.
Хай здымак вісіць на сцяне. Не чапай.

*1978*

## ТРЭСКА З ДОМА ШЭКСПІРА

Прайшлі майстры ў былы Шэкспіра дом,
Каб адрамантаваць вуглы старыя.
І іх сякераў перастук і гром
Абрушыўся на сцены векавыя,
Пашчэрбленыя часам і дажджом.
І разбудзіў дні Страдфарда былыя,
Калі паэт тут бегаў хлапчуком
І слухаў, як норд-ост шалёна вые.

Я ля майстроў спыніўся. Прывітаў.
Здзівіліся нямала, што з-за свету
Прыехаў, каб наведаць дом паэта.

Тут нехта з трэсак вогнішча расклаў.
Я асцярожна з іх адну падняў,
Якая аказалася санетам.

*1978*

## ЛАНЬЦУЦКІ ЗАМАК

Тут зараз восеньская
Цішыня і прахалода.
Апошні ланьцуцкі ўладар,
Пачуўшы гром з усходу,
Уцёк, прыхапіўшы,
Што ўдалося, скнара,
Усіх Бялініх,
Кранахаў і Фраганараў,
Увесь фарфор і серабро,
Кілімы й габелены.
Ён не пакінуў бы
І замкавыя сцены,
Ды не хапіла часу.

Сонечны гадзіннік
Ужо адлічваў
Апошнія гадзіны.
Таму й не трапілі
На лонданскія аукцыёны
Калісь набытыя
За кроў і пот прыгонных
Кнігі старажытных
Філосафаў, паэтаў
І ўся калекцыя
Карэт, кабрыялетаў.

За пару злотых
І сягоння можна
На іх паездзіць
Па лугу мурожным.
Вось панясліся коні.
Свішча вецер.
А мне чамусьці
Ў гэты час здаецца:
Не коні вараныя,
А галопам
Бягуць, залёгшы
Ў хамуты, халопы.
Свіст бізуна.
Нацягнутыя лейцы.
І я з апошніх сіл
Бягу ў прыпрэжцы...

Спыніліся.
Мінулага знік прывід.
Дзяцей вясёлы смех.
У строі мігатлівым
На ганку
Маладая жэшавянка
З букетам кветак
Запрашае ў госці.
Я, зняўшы
Партызанскую вушанку,
Аддаў паклон ёй
І Народнай Польшчы,
Як рэвалюцыі Кастрычніцкай
Бранеўскі.

*1978*

## ПАДСЛУХАНАЕ

И звезда с звездою говорит.
*М. Ю. Лермантаў*

Гэта была першая
Пасляваенная ноч.
Засыналі змораныя горам
Папялішчы,
Нівы,
Хвалі рэк.
Толькі чуць было,
Паміж сабой гаварылі зоры:
— Асцерагайцеся Зямлі,
На ёй — чалавек.

*1978*

* * *

Паказваюць дом паэта.
Толькі рэстаўратары забыліся,
Што ў доме, у якім некалі

Ён нарадзіўся, жыў,
Не магло быць
Такога бетоннага ганка,
Такіх глухіх сцен,
Такой непрамакаемай страхі,
Шчыльна зашклёных вокан,
Такіх дзвярэй з засовамі
І такога высокага парога,
І яшчэ — стоража.
Бо як бы да яго
Маглі ўсе залятаць вятры,
Усе птушкі, зоры,
Заходзіць усе дрэвы,
Кветкі, людзі,
З якімі ён дружыў.

*1978*

* * *

Кій,
На які ў жыцці не абапрэшся,
Нож,
Якім хлеба сябрам не адкроіш,
Кубак,
З якога вады не нап'ешся,
Соль,
Якой гутарку, смех не падсоліш,
Дружба,
Не зведаўшая ліхалецця,
Слава
Без працы мазольнай, упартай,
Слова,
Якое не грэе, не свеціць,—
Нічога не варты.

*1978*

## У ГАСЦЯХ

На фарфоравай талерцы
Танцуюць німфы.
Сяджу і любуюся.
Пытаюцца, чаму не ем.
Трэба быць людаедам,
Каб з такой талеркі есці.

*1978*

* * *

Прыпісалі: спакой
І нейкія кроплі.
Забаранілі хадзіць,
І раптам бачу:
Сарваўся з вешалкі
Мой капялюш,
А за ім — плашч,
А за плашчом
Ціха падаліся за дзверы
Мае старыя сябры —
Дарожны кій
І боты...

Куды гэта яны?..
Ледзь дагнаў іх
На нарачанскай
Дарозе.

*1978*

* * *

Якіх толькі
Не навыдавалі слоўнікаў.
Нават збіраемся выдаць
Марсіянскія ці касмічныя
Для перагавораў з жыхарамі

Іншых планет.
А да гэтага часу
Не маем слоўнікаў
Рэк, азёр,
Лясоў, звяроў,
Птушак і рыб.

Можа, таму
Паміж імі і намі
Столькі
Нявырашаных спраў,
Прыкрых непаразуменняў
І трагічных памылак.

*1976*

З кнігі
## «ЗА МАІМ СТАЛОМ»
1984 г.

### ЗА МАІМ СТАЛОМ

Пакуль я са сваёй
Павольнасцю сялянскай
Збяруся пазнаёміцца
З вядомымі славутасцямі,
Заўсёды іншыя паразбіраюць іх,
Пазапрашаюць
То на імяніны, то на вяселлі,
То на юбілейныя ўрачыстасці.

Вось чаму
За маім сталом
Вы пераважна бачыце людзей,
Чые імёны рэдка ўспамінаюць,
І калі друкуюць,
Дык толькі — петытам.

Але я з імі
Чуюся найлепш:
Няма патрэбы напінацца,
Каб нудную бяседу падтрымаць,
Падтакаваць усялякай недарэчнасці.

Калі маўчым —
Маўчым да звону ў вушах;
Калі гаворым —
Дык усе разам;
Калі смяёмся —
Да болю ў жыватах;
І калі чокаемся —
Да бою чарак.

*27.І.79.*

## СНЕГ І ДОЖДЖ

Праслухаў па радыё
Мудрагелістую лекцыю
Пра цыклоны і антыцыклоны
І пра тое,
Чаму сёння ідзе снег і дождж.
І прыгадаў
Такое простае тлумачэнне
Нябожчыцы бабкі Ульяны:
— Гэта, дзеткі,
Адначасна плачуць, сустрэўшыся,
Зіма, як я, ад старасці
І вясна — ад радасці.

*20.III.79*

## ПАЧАЛІ ЎСПАМІНАЦЬ

Пачалі ўспамінаць
Нашы даўнія стрэчы,
Калі дрэвы ў Эдэме
Былі маладымі,
З палахлівею завяззю
Першай спакусы,
І калі на кары,
Побач з сэрцам сваім,
Што прабіта стралой,
Выразаў тваё імя,
Калі рыфма была
Пропускам на Парнас,
Восьмым цудам
Здаваўся маўклівы экран,
А дэтэктара піск—
Марсіянскім сігналам.
І ўсё проста было,
І ўсё вытлумачальна,
І не зналі яшчэ,
Што не зналі нічога...
Пачалі ўспамінаць
І дзівіцца былому.

*26.III.79*

## СЯРЭДНІ ВЕРШ ПРА КАХАННЕ

Мне здаецца,
Статыстыкі вінаваты
Ў нараджэнні такіх паняццяў,
Як «сярэдні век жыцця»
(А куды падзець несмяротных?),
«Сярэдні рабочы»
(А як быць з тым,
Што ўчыніў Рэвалюцыю?),
«Сярэдні паэт»
(Няўжо гэта нейкая
Рэальная вартасць?),
«Сярэдні закаханы»
(Быццам ён здольны
Прадоўжыць людскі род!).

Я сёння хацеў напісаць
Верш пра цябе
І прапусціць праз яго радкі
Мільёнавольтны ток маёй любові,
Ад якой перагарэлі б
Усе ізалятары ўмоўнасці,
Усе заштампаваныя рыфмы і рытмы.

Але статыстыкі перасцераглі,
Што сярэдні чытач
Такіх вершаў не любіць,
Што рэдактары
Такіх вершаў асцерагаюцца
І нават пошта не прымае,
Калі б хацеў іх пасланць
Тэлеграфам.

Так і з'явіўся яшчэ адзін верш —
Верш сярэдні пра каханне,
Які, здаецца, збіраюцца ўключыць
У школьныя падручнікі.

Даруй мне за гэта.

*6.V.79*

## ТЫ ЗНАЕШ КРАЙ

Ты знаеш край, зачараваны край,
Дзе ў салаўіных песнях — кожны гай;

Дзе вабіць сэрца неабсяжнасць ніў,
Дзе зззяе хваль азёрных пераліў;

Дзе зоры над курганамі мігцяць,
Дзе ўдалячынь вядуць шляхі жыцця;

Дзе ў кожнай хаце ты — жаданы, свой,
Дзе некалі мы стрэліся з табой;

Дзе вечна птушкі свае гнёзды ўюць,
Дзе нават і памершыя жывуць.

*7.V.79*

## ВЕЕР З ХІРАСІМЫ

Кожны раз, калі ты
Свой разгортваеш веер,
Залацісты, расквечаны
Цветам вішнёвым,—
На мяне Хірасіма
Агнём сваім вее
І на вуснах маіх
Спапяляюцца словы,
Што хацеў я сказаць
Табе ў вечар вясновы.

*13.V.79*

## ТАНЕЦ СА ЗБАНОМ

Ты танцуеш
Са збаном над галавой
Так натхнёна,
Што віно не разліецца.

О, каб ты
Пратанцавала танец свой
З маім сэрцам,
Не разбіўшы майго сэрца!

*9.VI.79*

## СТАРОЕ ЛЮСТЭРКА

Пераязджаючы ў новую хату,
Ледзь не забылі люстэрка старое,
Ў раме, пашчэрбленай і храпаватай,
Што ў сваёй памяці тоіць былое...

Помніць, як дзед перад ім бараду стрыг,
Бабку і маці, што пралі кудзелю;
Нас, падшыванцаў мурзатых і шустрых,
Што вераб'ямі на печы сядзелі.

Помніць, як лапці вучыўся плясці я,
Як авалодваў граматай першай,
Як у зімовыя ночы глухія
Доўга сядзеў я, грымзолячы вершы.

Помніш паліцыі панскай налёты
І як прыйшла да нас воля з Усходу,
Як палымнела сцягоў пазалота,
Як гаманілі калгасныя сходы.

Помніць вайны грамавую навалу,
Як тут байцы перавязвалі раны,
Як аўтаматы свае зараджалі
І адпраўляліся ў бой партызаны.

Помніць ваенныя нашы дарогі,
Ззянні салютаў у небе вячэрнім,
Як адзначалі мы дзень Перамогі,
Як па́міналі сяброў сваіх верных.

Гул талакі. Звоняць чаркі, талеркі.
Вось ужо дружная песня лунае...
А я гляджу і гляджу на люстэрка
І ўспамінаю ўсё, і ўспамінаю.

*17.VI.79*

## ДЗВЕ ПЕСНІ

Цецярук дзве песні знае.
Калі восенню спявае:
«Прадаю вясельны бубен
І купляю сабе шубу»,—
Значыць, хутка лютай сцюжай
Над зямлёю снег закружыць.
А калі другую песню
Ён спявае ранкам веснім:
«Прадаю я сваю шубу
І купляю гулкі бубен»,—
Значыць, хутка зноў ігрышча
Загрыміць на такавішчы,
Значыць, зноў вяселле будзе
І бярозавік піць будзем.

*9.X.79*

* * *

Дарога, дарога, дарога
Заўсёды мне мроіцца, сніцца,
Хоць часам стамляюцца ногі,
Ніяк не магу я спыніцца.

Нібыта за далечынёю
Сінеючага небакраю
Не вечар з асенняй зарою,
А ранак вясновы чакае.

І хоць стаптаў не адны боты
Я ў пошуках шчасця зямнога —
Вітай валацугу свайго ты,
Дарога, дарога, дарога!

*10.X.79*

## У ШАМАНА

Ён мяне пераканаў у тым,
Што дыск сонца можа на паўгода
Замарозіць подыхам сваім
І зноў вызваліць з аковаў лёду.

Я прасіў даць варажбітных траў
Ці навучыць мяне такім закляццям,
Каб сумленны — плакаць перастаў,
А нягоднік — перастаў смяяцца.

Абяцаў за гэта падарыць
Я яму ружжо, запрэжку лаек.
— Забяры,— сказаў мне,— ўсе дары.
Слоў такіх і траў сам бог не знае.

*15.I.80*

## ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

Ніколі я раней
Яго не бачыў,
Ніколі не сядзеў
З ім за сталом бяседным,
Не перавязваў яго ран
Ля кастроў паўстанцкіх
І не прысутнічаў
Пры стрэчах
З Каліноўскім,
З кушлянскімі сялянамі...

Я толькі чуў яго
Звон «Беларускай дудкі».
І ўсё ж свае ўспаміны
Я лічу
Такімі ж верагоднымі,
Як і яго сучаснікаў.

Мяркуючы па тым,
Як ён далёка бачыў,—
Відаць, што быў
На галаву вышэй
Сваіх настаўнікаў.

Мяркуючы па тым,
Як праўду бараніў,—
Відаць, за ўсіх святых
Жупранскага касцёла
Ён справядліўшы быў.

Мяркуючы па тым,
Што з нашай мовы
Магільны камень
Здужаў адваліць,—
Відаць, якім ён
І асілкам быў.

*18.II.80*

* * *

У шчасці
Нават блізкія
Хутчэй забываюць
Адышоўшых.

І калі ты
Нікому не жадаеш
Гора,
Павінен радавацца,
Што і цябе забудуць.

*2.III.80*

* * *

Раней
Часта зоры
Наведвалі людзей.

Так яны прыходзілі
Да Хрыста ў Віфлеем,
Да Каперніка ў Фромбурку,
А да Маякоўскага
Нават само сонца
Заходзіла на дачу
Піць чай.

Сёння ж
Следам
За Гагарыным
Мы адпраўляемся
У госці да зор.
Цікава:
Як яны нас прымуць?

*4.III.80*

## КАЛІ...

Калі ў хлебе
Больш сілы, як хлеба,
Калі ў віне
Больш хмелю, як віна,
Калі ў агні
Больш цяпла, як агню,
А ў застоллі
Больш сяброў, як застолля,—
Пара пачынаць песню.

Калі ў хлебе
Больш хлеба, як сілы,
Калі ў віне
Больш віна, як хмелю,

Калі ў агні
Больш агню, як цяпла,
А ў застоллі
Больш застолля, як сяброў,—
Пара канчаць песню.

*7.VI.80*

* * *

І Парфенон раствараецца ў смогу,
І Равенна западае ў зямлю,
І Венецыя патанае ў моры...

Чаму ж мой сум на табе
Аказаўся вечны?

*17.VI.80*

## ХОКУ

Вецер калыша сакуру,
Якую мы разам
з табой пасадзілі.

Каторы раз без цябе
Цвет яе асыпаецца.
Зайздрошчу зямлі:
Яшчэ так не было,
Каб яна каго не дачакалася.

*15.VII.80*

9—2143

## НАД ШАРАДАЙ

— Скажы, які на шчасце
Быў ураджайны год?

— Не помню...

— А як той зваўся месяц,
Што рваў на рэках лёд?

— Не знаю.

— А дзень, калі чаромха,
Шалеючы, цвіла?

— Забыла.

— А ноч, што за ўсе ночы
Найменшаю была?

— Адкуль мне знаць!

— Няўжо мне не паможаш
Шараду разгадаць?

*23.VII.80*

## СОН ПРА АГАРОД

За частаколам,
Абвешаным глякамі,
Аблюбаваным
Варажбіткамі-сарокамі,
Абвітым крапівой-кусучкай
І прадчуваннямі
Прыгод неверагодных,—
Сланечнікі
Вангогаўскія ззяюць.

У сонцы іх,
Лычамі расхінуўшы
Зялёнівы заслон,

Загараюць гарбузы з гуркамі.
У засені зялёных
Парасонаў і гейзераў
Лістоты буйнай
Сядзяць прысадзістыя буракі,
А побач—
Пыляначы вывадак —
Цыбуля.

Далей — цыбаты боб,
Учэпісты гарох
І качаны бруxатыя капусты,
Сярод якой, казала маці,
Некалі тут, грады полючы,
Знайшла мяне.

Шкада,
Што сон мой
Абарвала ты
І разбудзіла.
Напэўна, ў гэтым агародзе
Я зноў пабачыў бы
І сваю маці.

*8.IX.80*

## ГРАНАДА

Гренада, Гренада,
Гренада моя!

*М. Светлоў*

Я ехаў з юнацтва
Па ўзгорках, гаях
За песняй паэта
«Гренада моя».

І вось прада мною
У ззянні зары —
Легенда Альгамбры,
Гранады муры.

Прыбыў я з надзеяй
Тут стрэціць сяброў
З мінулых стагоддзяў,
З нядаўніх баёў.

Ды дзе тут іх знойдзеш
Сярод мітусні
Заморскіх турыстаў
І іх галгатні.

Сярод звар'яцелых
Рэкламных вітрын,
Сабораў, паліцыі,
Аўтамашын!

Пяе беспрацоўны,
Гітара звініць,
Каб некалькі песа
На хлеб зарабіць.

І, спынены песняй,
Пытаюся я:
— Чыя ты, Гранада,
Гранада, чыя?

*1.X.80*

* * *

Ад Лісан ад-дзіна
Ібна аль Хаціба,
Што цябе, Гранада,
Параўнаў з дзяўчынай,
У якой прывабны
Твар пушком іскрыцца,
Ад балад, што склалі
Пра цябе Міцкевіч
І Святлоў, з кім песня
Збратала калісьці,
Аж да расстралянай
Серэнады Лоркі —

Колькі склалі гімнаў
Пра цябе, Гранада!

І чаму, як ехаў
Праз Сьеру-Неваду,
Не заплюшчыў вочы,
Каб не асляпіла.
Вушы не закрыў
На звон тваіх фантанаў,
Не мінуў здалёку
Я цябе, Гранада!

А цяпер не знаю,
Як знайсці спакой мне,
Вызваліцца ад тваіх
Легенд і чараў.
Хоць дарога кліча,
Ды сваёю песняй
Я стаю прыкуты
Да цябе, Гранада.

*16.XI.80*

* * *

Ой, не хавайце вочы
За веер, сіньярыта,
Я вас прашу, малю.

Бо можа цемра ночы
Накрыць усю Гранаду,
І неба, і зямлю.

Спусціцеся з балкона.
Я толькі да манціллі
Вам ружу прышпілю,

Пад перазвоны-звоны
Фантанаў і гітары
Вам песню прапяю.

*16.XI.80*

* * *

Калі едзеце ў Гранаду,
Пары тут вачэй — замала,
Каб ёю налюбавацца,
Пары ног недастаткова,
Каб з ёю натанцавацца,
Ну і пары рук не хопіць,
Каб з ёю наабдымацца.

Калі едзеце ў Гранаду,
З ёю можаце, як Лорка,
Не расстацца...

*23.XI.80*

## ПЕРАД ПАРТРЭТАМ ПЯТРА СЕРГІЕВІЧА

Партрэты Сергіевіча —
Мае сябры жывыя,
Заўсёды гутараць
Са мной аб перажытым.
Дзе ўбачыш ты насы
Класічныя такія,
Што за вярсту
Пах чуюць акавіты!

Дзе ўбачыш вочы ты,
Што шчырасцю яснеюць,
І вусы ў цеплыні
Ад смеху і махоркі,
І рукі ў мазалях,
Якія так умеюць
Трымаць сякеру, плуг
Ці стан сваёй танцоркі.

Сягоння, калі круг
Сяброў маіх радзее,
Я ўдзячны, дружа мой,

Што іх ты ўвекавечыў,
Што з землякамі мне
Ты падарыў надзею
На новыя прыгоды
І сустрэчы.

*4.І.81*

* * *

На хірасімскім маўзалеі
Камяні крычаць хрыпла ад болю:
«Адпачывайце спакойна,
Гэта не паўторыцца ніколі!»

— Камяні, а вы ўпэўнены ў гэтым?..
Ды яны, знаць, мяне не пачулі.
На манеўры ішлі гарматы,
Пахаваўшы ўсё ў сваім гуле.

*11.І.81*

* * *

Здаецца, празвінела песня,
Але чаму не бачу жаўрука?

Здаецца, вецер мне дыхнуў у твар.
Але чаму стаяць маўкліва дрэвы?

Здаецца, крокі нейчыя былі чуваць.
Але чаму ні следу — на дарозе?

Няўжо гэта прайшлі мае гады?

*1.ІІ.81*

## НА КАРЫДЗЕ

Ну як,
Наведаўшы Іспанію,
Наяве або ў сне
Карыду не пабачыць!

Гэта тое самае,
Што, у Рыме будучы,
Не стрэцца з папам рымскім,
У Японіі —
Не выпіць чаю з гейшай,
У Нью-Йорку —
Не прайсці Брадвеем,
А ў Егіпце —
Не сфатаграфавацца
На фоне пірамід.
Таму, вярнуўшыся дамоў,
Каб ўратавацца
Ад дакучлівых пытанняў,
Я вырашыў Карыду апісаць.

Я згодзен з Ірвінгам,
Што ўся Іспанія —
зачараваны край.
Бо дзе наяве
Ты сустрэнеш столькі
Жывых Калумбаў, Дон Кіхотаў,
Матак боскіх,
Махаў Гоі,
Эльгрэкаўскіх манахаў і галубоў Пікаса!
Дзе ўбачыш столькі
Сувенірных пік, кінжалаў,
Алебардаў, ружаў і крыжоў,
Нібыта ўся Іспанія
Падрыхтавалася
Ісці супроць няверных
Ці толькі што
Вярнулася з паходу.

І так, на велізарным
Стадыёне —
Ад Пірэнеяў аж да Гібралтара —
Я апынуўся з грамадой турыстаў.

Шматмоўны,
Шматкалёрны
Гул стаяў наўкола.
Перада мной чагосьці
Спрачаліся два кабальеры,
Мо за сваю Кармэн,
Якая так молада
І сонечна смяялася,
Што я заплюшчыць мусіў
Свае вочы.

Сядзелі злева амерыканкі,
Як ёлкі навагоднія,
Абвешаныя завушніцамі,
Пярсцёнкамі, каралямі.
А справа —
Пара закаханых,
Якая так была занятая сабой,
Што нат увагі не звярнула,
Як пахіснулася зямля,
Калі раз'юшаны і чорны
Бык андалузскі рынуў
Настрэчу свайму лёсу.

Усё змяшалася:
Хілбсы, пікадоры, бандальеры,
Бык чорны і чырвоныя мулеты.
І мне здалося: на арэне
Працягваецца ўсё тая ж
Незакончаная барацьба
Між Чырвоным і Чорным,
Між Чорным і Чырвоным.
І зноў
Перад вачамі ажылі
Мае сябры,
Што недзе палі тут
На берагах Гвадалквівіра, Эбра,
Ў гарах Астурыі,
Эстрамадуры,
Над сценамі Мадрыда,
Барселоны.

Іспанія!
Ты — незагоеная рана ў сэрцы,

Якая зноў адкрылася неспадзявана
І крывавіць,
Нібыта ружам, што паклаў
На безыменныя сяброў магілы,
Было замала чырвані гаручай.

*11.II.81*

## НА ПРЫЗБЕ

— Як жывецца, бабуля Агата?
— Ніштавата, сынок, ніштавата.
Толькі паразляталіся дзеці
Па далёкіх паселішчах дзесьці.
Да сябе клічуць у пераведы.
Ды куды я, старая, паеду
Ад свайго качарэжніка з лавай,
Ад прывычнай вадзіцы і стравы,
Ад сваіх пылянят і дварышча,
Ад жытнёвага шуму-ігрышча,
Ад пагоста, дзе родных нямала,
Дзе сабе месца аблюбавала...
Вось, прысеўшы на прызбе, чакаю:
Мо яшчэ хто з дзяцей завітае.

*13.IV.81*

* * *

Не вер найвярнейшым сяброўкам
І нават люстэрку не вер,
Што ты не такою прыгожай
Нібы выглядаеш цяпер.

Бо я цябе бачу заўсёды,
Хоць шмат прамінула гадоў,
Такой жа, якой цябе стрэціў
У засені райскіх садоў,

Калі яблык мне падарыла,
А з ім — і сваю маладосць
Блудліваму змею на зайздрасць,
Наіўнаму богу — на злосць.

*19.IV.81*

* * *

Заўсёды можна знайсці
Нейкія словы пры развітанні
З юнацтвам, каханнем,
З усходам і захадам сонца,
З адлятаючым выраем,
З ападаючай лістотай,
З дажджом і снегам,
З прыдарожнымі студнямі,
З начлежным гасцінным цяплом,
З сяброўскай бяседай і чаркай...

І толькі не знойдзеш іх
Пры развітанні з Радзімай.

*17.V.81*

* * *

Толькі тады,
Калі раннія птушкі,
Матылі
і руплівыя пчолы
Размалявалі на лугах
Усе кветкі
Ў свае любімыя колеры,—
Прачнуўся чмель
І пачаў гудзець, незадаволены:

— Зусім не так,
Зусім не так...
Буду зараз перамалёўваць.

*21.V.81*

* * *

Паглядзі, і сёння
Пераміргваюцца зоры,
Як некалі мы
Перад першым пацалункам.

Толькі, відаць, у іх
Больш цярпення і часу, як у нас,
Бо мы ўжо з табой
І ўнукаў дачакаліся,
А яны ўсё яшчэ пераміргваюцца.

*21.V.81*

* * *

Калісьці хапала мне
Ямбаў, харэяў,
Адмераных,
Строгіх радкоў.

А зараз пішу
У рытме свайго
Арытмічнага сэрца,
Зямлі і падзей.

Таму мае вершы
І не надаюцца
Да танца
Або да ружанца,

Як не надаюцца
Да гэтага
Гром,
Гул землетрасення
Ці крык папярэджання.

*27.V.81*

* * *

Божа мой шчодрасці,
Не паскупіся на радасць,
Зімнім прасторам —
На інеі і снегапады,
Веснім палям —
На вясёлкавыя дажджапады,
Летнім садам —
На грымучыя яблыкапады,
Восеньскім дням —
На расквечаныя лістапады,
Зорным начам —
На разораныя зарапады...

Не для сябе я прашу,
Зразумей, ўсемагутны,
А для Зямлі,
Што гарэла ў агні,
Шматпакутная.

*7.VII.81*

* * *

Жыў каваль славуты, адмысловы,
Ды ніхто нас не перасцярог,
Што па свеце ўсё яшчэ блукае
І такіх людзей шукае бог.
І ён майстра хутка ўзяў на неба,
Каб у яго кузні працаваў,
Адліваў грымот званы і бомы
І падковы месяца каваў.
І таму, прашу, калі мне ўдасца
Нешта адмысловае зрабіць,
Для майго ж дабра і даўгалецця
Паасцерагайцеся хваліць.

*19.VII.81*

## ДОМ ІНВАЛІДАЎ

За жываплотам
Кожны дзень бачу
Гаспадароў гэтага дома
То ў інвалідскіх калясках,
То на скрыпучых ад болю
Мыліцах,

Часта яны тут
Горача абмяркоўваюць
Газетныя навіны,
Свае партызанскія рэйды,
Франтавыя прыгоды.

Часта ўспамінаюць
Прашумеўшыя над іх жыццём
Снягі, дажджы, вятры, песні...
Успамінаюць
Свае раны, узнагароды.

Часта спрачаюцца
З героямі бадзёранькіх
Розных аповесцей, фільмаў.
Або маўчаць, заглыбіўшыся
Ва ўсё яшчэ палыхаючае
Полымя вайны,
У маладосць,
Якой яны амаль не зналі,
І далёкае дзяцінства,
Якое ім здаецца казкай.

Вось нечага пабегла,
Устрывожаная, сястра.
Знаць, хоць і прапісалі дактары
«Забыць... Не хвалявацца»,
Нехта пайшоў
У апошнюю атаку.

*29.VII.81*

## ПІСЬМО,
## НАПІСАНАЕ ПАД ДАЖДЖОМ

«Дарагія... даўно
Ад вас звестак не меў.
Мо яны не дайшлі
Да пярэдняга краю...
Быў... вярнуўся ізноў...
За адвагу медаль...
Над акопамі дождж...
Пісаць перашкаджае...»
Пісьмо сына
Старая паказвае мне,
Што апошнім паштарка
Прынесла дадому,
І на дождж наракае,
Бо шмат слоў зацёр.
І пра што сын
Яшчэ ёй пісаў —
Невядома.

*1.IX.81*

* * *

Не заві песню песняй, якая
Не суцішыць ні болю, ні смагі,
Не азорыць зарой небакраю,
Не акрыліць надзеяй, адвагай,
Не зайграе віном заздароўным,
Не закружыцца танцам няспынным,
Не адклікнецца рэхам стазвонным
І палёт ліхой кулі не спыніць.

*12.IX.81*

* * *

На нашым старым пагосце
З пачарнелымі крыжамі
І валунамі, абраслымі легендамі,
Няма ніводнай магілы гультая.

Тут адпачываюць:
Хлебаробы, кавалі, лесарубы,
Бондары, цеслі, музыкі, казачнікі,
Жнеі, ткачыхі, вышывальшчыцы,
Танцоркі, пявунні,
Партызаны...

Таму наведаць іх тут
Варта кожнаму,
Памянуць іх добрым словам —
Абавязак кожнага.
А калі выпадзе
Спачнуць тут побач з імі —
Вялікі гонар.

*18.IX.81*

## ТРЫ ПАКЛОНЫ

Адзін кланяецца
Перад замежнымі джынсамі сноба
Ці ачмурэлым выццём хіпі,
Другі — перад нейкім пудзілам у крэсле
Ці зоркамі на бутэльцы каньяку,
Трэці — перад выпешчаным гультайствам
Ці ўяўнай мудрасцю
Або страхам...
Ці ж не перасцерагаў
Калісьці зямляк наш Адам,
Што толькі тры паклоны:
Перад богам
(Я замяніў бы яго
хлебам),
Перад бацькамі
І перад каханай
Не могуць сподліць чалавека.

*21.XII.81*

* * *

Ты яшчэ толькі намёк на чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на маці;

Ты яшчэ — чвэрць чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на дружбу;

Ты толькі — паўчалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на любоў,—

І толькі тады становішся чалавекам,
Калі ўсе могуць спадзявацца
На цябе.

*27.XII.81*

## ГРАНІЦЫ

Ёсць не меней важныя,
Як дзяржаўныя,
Хоць і не астаўбаваныя,
Граніцы —
Граніцы паміж праўдай
І няпраўдай,
Паміж чорным колерам і белым,
Дружбай і варожасцю,
Быццём і небыццём,
Жывой вадой і мёртвай,
Агнём, што грэе
І што ўсё знішчае,—
Граніцы,
Якія нельга нам бяскарна парушаць
І пакідаць без абароны.

*13.II.82*

## ЖАЗЛО

З усіх жэзлаў,
Ні царскае жазло,
Якім каралі і мілавалі,
Ні жазло
Прарока Майсея,
Якім ваду адкрыў ён у пустыні,
Ні жазло тамбурмажора,
Па знаку якога грымяць парады,—
Мне найбольш падабаецца
Жазло нашага вясковага
Пастыра Данілы,
Які і мне не раз яго ўручаў.

Калі падымеш
Гэта жазло —
Усходзе сонца,
Калі апусціш — вечарэе
І пахне
Духмянай жвачкай,
Сырадоем,
Цішынёй.

*17.III.82*

## КАБ ГАВАРЫЦЬ

Каб гаварыць з зямлёй,
Я вучыўся ў касы і плуга;

Каб гаварыць з дарогай —
У калёс і кульбакі;

Каб гаварыць з лесам —
Вучыўся ў звяроў і птушак;

Каб гаварыць з агнём —
У ветра і дыма;

Каб гаварыць з вадой —
Вучыўся ў калодзежных жураvoў...

Цяпер знаю:
З усіх моў —
Найцяжэйшая мова людская.

*23.IV.82*

* * *

О, каб гэта сякера,
З якой лесарубіў,
Або плуг,
Якім скібы падзолу гартаў,
Ці агонь,
Якім грэўся, заціснуўшы зубы,
Або лыжка,
Якой ў місе крошак шукаў,

Ці рыдлёўка,
Якой рыў акоп у патрэбе,
Ці кульбака,
З якой шлях закончыцца мой,—
Маглі загаварыць!
Ці ж бы мне было трэба
І пяро яшчэ браць
Агрубелай рукой.

*2.V.82*

## РАЗЛЁТАЛІСЯ ЛАСТАЎКІ

Разлёталіся ластаўкі на дождж.
Дажджу ж як не было, так і няма.
Чарнее на лугах засмяглы хвошч,
І каня ў неба просіць піць дарма.

Ўжо былі зняверыліся ўсе
У варажбе крылатых вешчуноў,
Ды зашумеў вятрыска па страсе
І ўслед за ім краплісты дождж пайшоў.

Калі ж зноў праяснела неба гладзь
І свежасцю ўсе напіліся досць,
Быў доўга шчэбет ластавак чуваць:
— Ці ж не казалі мы, што будзе дождж?

*7.X.82*

* * *

«Sta viator!..» Я спыніўся
Каля помніка-граніта.
Ну пра што паведаць хочаш,
Друг нязнаны і забыты?

Ці ж не бачыш, што спяшу я
Гэтай поўначчу туманнай
Да палаца Камандора
На сустрэчу з доннай Аннай.

Будзе час нам на бяседу,
Калі вышчарбіцца шпага,
Змоўкне звон маёй гітары
І з табою побач лягу.

*5.XII.82*

## КАЛІСЬЦІ

Калісьці часта я блукаў
Па нетрах баравых,
Дзе пад нагамі жар бруеніць,
Імшарны крэкча мох,
Дзе маладзік руёй крычыць

У кіпцюрах савы
І трубіць лесавік у свой
Павыкручасты рог.

Таму, калі сюды забрыў,
Прыйшлі ласі, дзікі.
З-пад вывараці вылезла
Ваўчыная сям'я,
Зляцеліся сіваграк,
Глушцы, цецерукі
Перакаанацца: ці я — свой,
Ці не прыблуда я.

Праверылі мяне на нюх,
На зрок, на слых, на спеў
І толькі потым пачалі
Бяседаваць са мной.
І мы дамовіліся, што
Пад засень гэтых дрэў
Перасялюся назаўсёды
І я да іх вясной.

*14.XII.82*

* * *

Калі пачынаюць памершыя сніцца,
Дык гэта — знак пэўны, мне маці казала,
Што трэба наведаць іх і пакланіцца,
Каб на забыццё наша не крыўдавалі.

Сягоння прысніліся дрэвы і рэчкі,
З якімі калісьці ў юнацтве жыў дальнім,
Пайду і за светлыя душы іх свечкі
Зацеплю на радаўніцы памінальнай.

Зацеплю за тыя крыніцы, якія
Паілі і раны не раз абмывалі,
Зацеплю за тыя бары векавыя,
Ў якіх мне зязюлі не раз кукавалі.

*4.1.83.*

* * *

Помню, калісь
Варажыць умелі
Па сумётах,
Па дзяжы з расчынай,
Па жытнёвых спарышах і хмелю,
Па гаручай смалянай лучыне.
А цяпер забылі і не знаем:
Чым парадуе нас май ці студзень,
Да каго вяселле завітае,
І які ў сям'і прыбытак будзе,
І які засыпем скарб у клеці,
І нат колькі жыць каму на свеце.

*7.II.83*

## РЫЦАРСКАЯ БАЛАДА

Сёння, мінаючы руіны
Нейкага замка —
Такія старыя,
Што пра іх
Нічога не знаюць
І павівальныя бабкі —
Раптам убачыў:
На вежы паходні палаюць,
І нехта ў панцыры і з мячом
Мяне аклікае:
— Ты хто?
— Тутэйшы...
— А ты? — пытаюся са страхам.
— Я — Караткевіч Першы.
Скажы, калі па дарозе ішоў,
Не сустрэў ты славутых мужоў:
Баяна, Гусоўскага або Скарыну?
— Вечная ім памяць і ўдзячнасць краіны,—
З паклонам адказаў я.
І тут, успомніўшы,

Што мы некалі зналіся
І сустракаліся
На розных турнірах,
Абняліся і расплакаліся з радасці.
Па-нашаму. Па-паўночнаму.
Па-беларуску. Шчыра.

*15.11.83*

## ТВАЯ ФАТАГРАФІЯ

Тваю фатаграфію
Асцерагаўся насіць я з сабой,
Каб часам не трапіла ў рукі
Шпікоў дэфензівы.

Я не прасіў, каб прыслала яе ты
У маю адзіночку.
Я быў рад,
Што па другі бок маіх крат,
На волі
Ёсць недзе і сонца і ты.

Тваю фатаграфію
Я не браў і ў паход,
Каб часам яе не кранула
Варожая куля.

Таму, можа, і ацалела яна,
Хаця з перажытага не ацалела
І камня на камні.

*27.11.83*

## «НЕ!»

Калі б я сабраў
Усе твае «не»,
Вырас бы такі
Высокі частакол,
З-за якога і на цыпачках
Нельга было б
Ні дацягнуцца да цябе,
Ні абняць, ні пацалаваць.

*24.IV.83*

* * *

Ідзе сляпец, асцярожна
Пастуквае кавінькай,
Быццам баючыся,
Каб на яго стук
Зямля не адказала:
«Калі ласка...»

*25.IV.83*

* * *

Развесіў сягоння на сценах карціны.
Раней ў іх патрэбы ў мяне не было,
Бо, помню, за шыбамі нашай хаціны
Віднелася як на далоні сяло,

Край поля, засеянага валунамі,
На ўзгорку — вятрак, што заўсёды хацеў
Узняцца, у вырай ляцець з жураўлямі,
Рачулка, што ў хованкі бегла між дрэў.

Звычайны пейзаж. Ды ад вогнішч рабіны,
Асенніх дажджоў ці вятроў веснавых
Штодня ён быў іншы.
І гэтым карцінам,
Развешаным сёння, далёка да іх.

*30.IV.83*

* * *

> Бачыць хоць дым, што
> Уздымаецца ў неба над берагам родным .
>
> *Гамер*

Слухай, Харон-перавозчык,
З дарамі я не паскуплюся,
Толькі далёка за Сцікс не вязі ты,
Прашу цябе ў скрусе.

Чуць хачу пеўняў сваіх валачобнікаў
Ранкам пагодным,
Бачыць хоць дым, што ўздымаецца ў неба
Над берагам родным.

*3.V.83*

## ДЗЕНЬ ПЕРШЫ ПАЦАЛУНКА

Колькі розных юбілеяў!
Ужо не хапае на іх
І дзён у календары.
І ўсё ж я яшчэ прыбавіў бы
Дзень першага пацалунка
Евы,
Які запачаткаваў
Усе іншыя юбілеі.

*6.V.83*

З кнігі

## «ЗБОР КАЛОССЯ»

1989 г.

### ЗБОР КАЛОССЯ

Хацяб не забыць, што
Даўно мінуў поўдзень
І час завяршаць
Збор калосся на полі.

Хаця б не забыць, што
Ноч не за гарамі,
І ўсім пажадаць
Добрага адпачынку.

Хаця б не забыць,
Калі заўтра пашчасціць
Убачыць світанне,
Падзякаваць сонцу,

Падзякаваць сонцу,
Што зноўку вярнула
Да любае працы —
Да збору калосся.

*1989*

* * *

О, не пакідай мяне, смех:
Ты нам дорыш светлае шчасце,
Звініш, як узветраны снег,
Бароніш ад суму-напасці,

Злучаеш далоні сяброў,
І грэеш у непагадзь ласкай,
І з твараў фальшывых багоў
Зрываеш бязлітасна маскі,

Бічуеш за кожны агрэх,
Ратуеш ад ісцін паблеклых...
О, не пакідай мяне, смех,
Ніколі, ні ў раі, ні ў пекле.

*1989*

## ТАБЕ

Абяцаў я калісьці табе
Падарыць усе мары і сны,
Усе скарбы і кветкі зямлі,
Салаўіныя ночы вясны.

І не знаю, хто тут вінават:
Ці то сам я, ці, можа, мой лёс,
Што табе я, сяброўка мая,
Толькі шэрыя будні прынёс,

Толькі безліч трывог і пакут,
Якіх нават не пералічыць.
І таму не асмелюся нат
Я ў цябе прабачэння прасіць.

Дай жа мне табе дапамагчы
Дроў прынесці, скрышыць качаны,
Малышоў-непасед панасіць
І паставіць у печ саганы,

А прысеўшы вячэраць за стол,
Аб нягодах забыцца на міг
І тваім спрацаваным рукам
Адпачыць у далонях маіх.

*1989*

## ТУРКМЕНСКІ ДЫВАН

Промні сонца, бліскавіц, вясёлак, зор
Ззяюць дывана асновай, на якой
Клапатлівая туркменка свой узор
Спрытна вяжа мігатліваю рукой.

А вузельчык кожны — бліск яе вачэй,
Чырвань вуснаў, цемень высненая кос,
Каракумскі залаты загар плячэй,
Танец, песня, вызначаючыя лёс.

І такому дывану няма цаны,
Як аазісу сярод саланчакоў,
Як суквеццю ажыўляючай вясны,
Як віну, што п'ём за дружбу, за любоў.

*1989*

## КАЛІ ВЫ БУДЗЕЦЕ...

Калі вы будзеце, сябры,
Зноў разважаць
Аб зачацці бязгрэшным
Паэзіі,
Аб непарушнасці
Канонаў жанравых
І граматычных форм,
Аб тым, якімі мусяць быць
Элегіі, рамансы, оды,
Ці аб тым,
Якім памерам
Трэба пісаць вершы,—
Паклічце і мяне.
Бо як некалі
Маэстра Дунікоўскі гаварыў:
«Я ўжо чалавек стары
І хацеў бы
Памерці ад смеху».

*1989*

## Я — ТВОЙ

«Не гавары: Зямля мая,—
Казаў мудрэйшы з інкаў,—
А гавары: Зямля, я — твой...»

Бо кожная травінка
І кожны з нас удзячны ёй,
Спрадвечнай, жыццядайнай,
Сваім з'яўленнем, хоць на міг,
Сваім знікненнем тайным.

Таму і ў космасе, калі
Загубіцца шлях мой,
Я пазыўныя буду слаць:
«Дзе ты, Зямля?
Я — твой...»

*1989*

## СТАГАВАННЕ

Па-рознаму можна
Стагі стагаваць:
І пры дапамозе
Капніцеляў і трактараў,
Толькі часта яны
І няроўна злягаюцца,
І ад дажджоў зацякаюць.

Найбольш былі ўдачнымі,
Помню,
Стагі,
Што з табой стагавалі.
Нам ледзь паспявалі
Пласты падаваць,
Як мы іх,
Ныраючы ў замець
Духмянага сена,
Так шчыра складалі,
Забівалі, тапталі,

Што потым аж нылі
І рукі,
І ногі,
Гарэлі засмяглыя вусны
І ты
Доўга з блузкі і кос
Вытрасала валошкі,
Рамонкі, мятліцу,
Мае пацалункі.
Мне часта і сёння
Стагі тыя сняцца
Пад небам і сонцам
Юнацтва.

*1989*

## ПРА АДПУШЧЭННЕ ГРАХОЎ

З даўніх свят
Помню, як я чакаў
І не мог дачакацца
Вялікадня.
І не толькі таму, што тады
Каля студні вярба
Прыбіралася ў коцікі,
Прылятталі буслы
Ад бяды, перуноў
Асланяць
Сваймі крыламі хату,
Басанож усе з жабамі
Лужы абследаваў.
І звінеў з зорамі
Валачобнікаў спеў
Пра вясну пра красну
На ўвесь свет.

А таму, што тады
За разбітую шыбіну нават,
За штаны, што падзёр,

У абнімкі гуляючы з цюцькам,
За нявыўчаны ўрок у чытанцы,
За сякеру,
Што вышчарбіў недзе,
І за сцягнуты
Ў бабкі сваёй памазок,—
Адпускалі мае ўсе грахі
І мае правіненні.

*1989*

## ЖАНЧЫНА

Калі закончыў Бог
Сваю работу
І збіраўся ўжо на адпачынак,
Да яго прыйшоў
Адам са скаргай,
Што сонца зусім не грэе,
Вада — не ўталяе смагі,
Хлеб — горкі,
Птушкі — безгалосыя,
Травы — чэрствыя,
Кветкі — недухмяныя,
Дні — сумныя,
Ночы — бяссонныя.

І Бог
Стварыў жанчыну.
І толькі дзякуючы ёй
Стала можна жыць
На зямлі.

*1989*

## ПЕРАД НОВЫМ ГОДАМ

Гавораць, каб радасным быў
Новы год,
Гасцінна яго
Трэба стрэць ля варот,

За стол
На чырвоным куту пасадзіць,
Шампанскага
Поўную чарку наліць.

І я так не раз
Сустракаў Новы год,
Ды толькі не меншала
Ў мяне турбот.

І сёння, пакуль за яго
Чарку ўзняць,
На што будзе шчодры,
Хацеў бы я знаць:

На хлебныя
Ці неўраджайныя дні,
На мірныя
Ці неспакойныя сны,

На здзяйсненне
Ці марнатраўства надзей,
На слёзы,
пакуты
Ці песні людзей?..

Снег кружыць, снег кружыць.
Стаю ля варот.
Якія дары нам
Нясеш, Новы год?

Калі дрэнныя —
Лепш іх кінь у пургу,
Калі ж добрыя —
Несці дапамагу.

*1989*

## САЛЮТ ПЕРАМОГІ

Многа салютаў прагрукала ў сэрцы.
Можа, пашчасціць пачуць мне і болей,
Хоць усё менш і ўсё менш застаецца
Нас, ветэранаў апошняга бою.

Нас, што прайшлі праз свінцовыя ліўні
І, цішынёй веснавою пранятыя,
Бачылі першы салют незабыўны,
Мірныя чулі яго перакаты.

Можа, не столькі было ў ім, як сёння,
І феерверкаў, і ўсмешак шчаслівых,
Бо яшчэ раны балелі бяссонна,
Дым засцілаў спапялелыя нівы.

Маці чакалі ў пакутлівых муках
Родных сыноў, сваіх блізкіх звароту...
І ўсё ж салют гэты быў запарукай
Сённяшніх нашых касмічных палётаў.

Сённяшніх вырашчаных ураджаяў,
Песень застольных, акрыленых, шчырых,
Неперможнасці роднага краю
І непахіснасці дружбы і міру.

Вечнасцю Вечны агонь палыхае.
І ў зіхаценні ягоным чырвоным,
Быццам бы кроў з-пад бінтоў,
выступаюць
На абеліісках герояў імёны.

Кожнага з іх помніць маці-Радзіма.
І, гром салюта пачуўшы, мы знаем:
Гэта яна зноў вітаецца з імі,
На пераклічцы іх зноў аклікае.

*1989*

## АВЕЯНЫЯ СЛАВАЙ

Хоць у пахаванках
Гаворыцца: «Пáлі
У баях за Радзіму
Сваю гераічна...»,
Аб чым сведчаць
Надпісы на п'едэсталах,
Жалобныя даты,
Нязгасныя знічы,—

Ды толькі
Таварышы, аднапалчане,
Якія калісьці
Прайшлі разам з імі
Праз пекла вайны
І ўсе выпрабаванні,
Заўсёды іх лічаць
І бачаць жывымі.

Жывымі, авеянымі
Вечнай славай,
Байцамі нязменнымі
На сваёй варце,
Такімі ж
Дваццацігадовымі нават,
Якімі жагналі
Іх некалі маці.

А тое, што бронзавыя
Шынялі ў іх
І боты, якія
Не ведаюць зносу,—
Ім трэба, каб крочыць
Праз буры і ліўні
Дарогай бяссмерця,
Салдацкага лёсу.

*1989*

## ПЛАНШЭТ

Стары планшэт. Чаго ён варты?
Сабраўся выкінуць, ды ў ім
Знайшоў нечпадзявана карту
І свой блакнот з пісьмом тваім.

На карце вызначаны стрэлы
Напрамкаў і баёў былых.
Кружкі пасёлкаў абгарэлых —
Прыпынкаў нашых франтавых.

Між выцвілых лісткоў блакнота —
Дзесятак розных адрасоў
І неразборлівае фота
Маіх аднапалчан-сяброў.

Пісьмо... Чытаю яго зноўку,
Як перамогі запавет,
На ім ты абвяла алоўкам
Сыноўняй босай ножкі след.

Мо эпізод і малазначны
Сярод тых спраў, падзей, дарог.
Стары планшэт... Я табе ўдзячны,
Што гэта ўсё ты прыбярог.

*1989*

## НА РЫБАЛЦЫ

Стары дуб закінуў
У тоні ўспамінаў ракі
Свае вуды-сукі.
— Клюе! Падсякай! Цягні!—
Крычу я,
Забыўшы, што ён
Ужо многа год
Ад ваенных грымот
Аглухлы,
Нічога не чуе.

*1989*

* * *

Каб на кожным слове
Ставілі таўро праўды,

Як ставім на рэчах
Знак якасці,
На дарагіх металах —
Пробу,

Напэўна,
Лягчэй і святлей
Нам жылося б на свеце.

*1989*

* * *

Па тым, як некаторыя
Ідуць у дождж,
Можна ўгадаць,
Куды спяшаюцца.

А па тым,
Як абмінаюць
Ці фарсіруюць лужы, гразь,
Можна сказаць,
Хто ідзе
У купленым за свае грошы,
А хто — у казённым
Ці дармавым абутку.

*1989*

## ПАСЛЯ СНЕГАПАДУ

Ноччу, ціха падкраўшыся,
Выпаў снег.
Раніцой прачнуліся дрэвы
Ўсе ў казачнай белі
І не пазнаюць самі сябе.

— Ты хто?—
Пытае бяроза ў сасны.
— Ты хто?—
Пытае асіна ў алешыны.
— Ты хто?..

І так цэлы дзень
Чую шэпт іх і шорах
У нашых прысадах.

*1989*

## У ЛІСТАПАД

Бацька прынёс
Вёдры, поўныя восені,
І кажа: — Слата, туман.

Сырадой раніцы
Маці перацадзіла
І кажа: — Золь. Імжа.

А мне здаецца,
Што гэта Верасень
Са сваімі сябрамі
Неганісабакузхаты,
Даждахлюпам і Гразяшлёпам
Зацеплілі нашу лазню
І хвошчуцца венікамі прысад,
Толькі па́ра клубіцца,
Толькі пырскі лятуць
І лістота ўсцілае зямлю.

*1989*

* * *

Я сам вінават,
Што трапіў да цябе
Ў палон, Паэзія,
Што ў свой час,
Як Адысеевы валацугі,
Не заляпіў свае вушы воскам,
Каб не чуць той спеў сірэны,
А калі ў адведзіны прыйшла,
Не змог, як Дыяген,
Сказаць уладару:
«Не засланяй мне сонца!»

*1989*

## ПРЫШЫЎКА ГУЗІКА

Яна смяялася,
Што я няўмела
Да кашулі
Прышываю гузік.

Адабрала
З маіх рук іголку
І прымацавала спрытна
Аж да зносу.

Толькі калі падцягвалася
На дыбачкі,
Каб адкусіць нітку,
І сустрэліся
Неспадзявана
Нашы вусны —
Зямля ўцякла
З-пад нашых ног.

*1989*

## НА АСТРАНАМІЧНУЮ ТЭМУ

Знаць, мала
Сярод астраномаў
Было закаханых,
Што панадавалі
Сузор'ям імёны:
Мядзведзіца,
Рак,
Змяя,
Казярог,
Леў,
Дракон,
Скарпіён...

Я ж імя тваё берагу
Для яшчэ не адкрытых
Сузор'яў,
Якіх толькі каардынаты
Мне сёння вядомы:
Між сэрцам тваім і маім,
Між быццём маім
І небыццём у сусвеце.

*1989*

## ЯКІМ

Быў сабраўся паміраць Якім —
Надламалі старасць ды гарачка.
І прыбегла развітацца з ім
Цётка Тэкля — прысяжная плачка.

Пачала, галосячы, прасіць,
Каб ён на тым свеце пераведаў
Яе маці Домку і залвіц,
Мужа Янку і Ярылу-дзеда.

Каб усім аднасяльчанам ён,
Каго ў пекле ці ў раю сустрэне,
Не забыўся перадаць паклон,
Пра зямныя расказаць здарэнні:

Што Ганулька замужам, яна ж
Адзінокай век свой дажывае,
Нешта запазнілася вясна,
Ацялілася яе Рабая...

Тут Якіма, знаць, злосць узяла.
Кажа Тэклі: — Не рабіла б тлуму.
Столькі ты наказаў мне дала,
Што я ўжо і паміраць раздумаў.

*1989*

## З ДАЎНІХ ПРЫКАЗАК

З даўніх прыказак,
Прымавак, перасцярог,
Марнатраўца, я некалькі
Перлаў збярог:

«Будзь далей
Ад нядобразычлівых людзей,
Ад мясцін, дзе не чуць
Песень, смеху дзяцей.

Ад дарог, скручаных,
Як гадзюкі, ў вузлы,
Ад варот з надпісамі:
«Тут сабака злы».

Ад сябрыны, дзе рэй
Водзяць зайздрасць і злосць,
Ад застолля, у якім
Ты — няпрошаны госць,

Будзь далей...» Толькі я
Не ўсцярогся ў жыцці
Небяспекі і злыбеды
Ўсе абысці.

Ад якіх — адчуваю я —
З цягам гадоў
Усё больш застаецца
На сэрцы шрамоў.

*1989*

* * *

Чамусьці праз далеч
Мінулых гадоў
Вяртаюся часта
Да родных дуброў:
Пагоркаў, рачулак,
Сцяжынак і ніў,
Як быццам там нешта
Калісьці забыў,
А што — і самому
Мне не прыгадаць,
І ўжо тых няма,
Ў каго мог бы спытаць.

*1989*

* * *

Заўжды, ад'язджаючы з дому,
Знаходзіў прычыны марудзіць:
То трэба агледзець было мне
Застрэшшы, гарышчы, аруды,
Праверыць падковы Гнядога,
І дзёгцем падмазаць калёсы,
І з кнігаўкамі развітацца
На пількаўскіх луках і плёсах.

Затое, калі я збіраўся
Аднекуль дадому вяртацца,
Адразу зрываўся і бег я
Да першай з чыгуначных станцый.
Схапіўшы ў дарогу кус хлеба
І радасць вяртання ў ахапку,
Як сёння, забыўшы з паспеху
Свой кій падарожны і шапку.

*1989*

## НАСТОЛЬНІК

Кожны раз, калі матчын настольнік
Засцілаюць — працёрты локцямі,
Сям-там зацыраваны,— ізноўку
Бачу я сваіх блізкіх, знаёмых,
Хто на ім кроіў хлеб, нават чую,
З сёрбаннем буракоў ці заціркі,
Гутарку іх пра даўнія справы,
Пра якія ніхто ўжо не помніць.

Вось чаму не спяшу я ўставаць з-за стала,
На якім бачу матчын настольнік.

*1989*

## РАДЗІМА

Ты ў кожнага, помню, пытала
Ў часіну смяротнай трывогі:
— Ці ўсё ты зрабіў, мой сыне,
На фронце для перамогі?

Калі адгрымелі салюты,
Ізноў у мяне ты пытала:
— Ці ўсё ты зрабіў, каб з руінаў
І папялішчаў паўстала!

Мінулі гады. Зноў пытаеш,
У вочы мне гледзячы шчыра:
— Ці ўсе ты засеяў акопы,
Ці ўсё ты зрабіў для міру?

Ну, што я скажу, Радзіма?
Хай лепш за мяне сягоння
Адкажуць мой плуг і вінтоўка,
Мае мазалі на далонях.

*1989*

## ДАВАЕННЫ ГАБЕЛЕН

Хоць ужо даўно няма гэтых дрэў,
А я ўсё стаю ў іх зелені;
Хоць ужо даўно няма гэтых птушак,
А я з захапленнем сачу за іх палётам;
Хоць ужо даўно высах гэты ручай,
А я, прыпаўшы да яго, наталяю смагу;
Хоць вайна спапяліла гэта поле,
А я ўсё чую шум яго каласоў,
Звон сярпоў, песню жней.

*1989*

## ТЫ НЕ РАЎНУЙ

Ты не раўнуй і не крыўдуй,
Што я не раз табе здраджаў,
Што часта родную зямлю
І цалаваў, і абдымаў.

Я цалаваў яе, калі
Збіраў-вязаў калоссе ў сноп;
Я абдымаў яе, калі
Свінцовы град мой сек акоп.

Як без цябе, так без яе,
Мая любоў, зямля мая,
Свайго быцця і небыцця
І сёння не ўяўляю я.

*1989*

## КАМЕТА ГАЛЕЯ

У сувязі са з'яўленнем
Каметы Галея
Чамусьці ўсе астраномы,
Астролагі, варажбіты

Паднялі несусветны
Гармідар,
Быццам гэта важней,
Як з'яўленне тваё
На маім небасхіле.

*1989*

## І ЧАГО

— І чаго ты паўзеш
За парог,
На дварышча,
На вуліцу?

— І чаго ты лезеш
На плот
За пеўнем,
За вераб'ямі?

— І чаго ты цягнешся
Да агню, да сонца?

— І чаго ты бяжыш
За рэхам песні?

Крычаць,
Бурчаць, галёкаюць
Старэйшыя на малога,
Забыўшыся,
Што ў жыцці
Усе самыя цікавыя адкрыцці—
За межамі
Забароненага.

*1989*

* * *

Можа, я такі няўжыўчывы,
Што не знаю ніводнага дня,
Каб не спрачаўся:
То з дажджом,
Які ідзе неўпапад,
То з ветрам,
Які вее не з той стараны,
То з дарогай,
Якая пятляе загадкі,
То з часам,
Які часта спяшаецца
Або марудзіць,
Абнадзейвае або засмучае.

А найбольш мяне непакоіць,
Што ўсё часцей пачынаю спрачацца
І з самім сабой.

*1989*

## ПАДСЛУХАНАЕ

— Добра, што ты, ўнучачка,
Стараешся памагчы мне,
Калі палю ў печы,
Замятаю хату,
Уцягваю нітку ў іголку,
Мяшу цеста на хлеб,
Палю грады,
Капаю бульбу,
Шаткую капусту,
Мыю кашулю,
Вяжу табе рукавічкі,
Часамі плачу,
Часамі спяваю.

Ты ўжо — вучоная.
Буквар чытаеш.
І, можа, нічога з таго,

Што раблю,
Табе не спатрэбіцца.
І дай Бог!
Не ўсё гэта рабіць,
Але ўсё гэта ўмець.

*1989*

## ПРЫКМЕТЫ

Аджываюць век свой
Даўнія прыкметы,
Хоць некаторыя
Маглі б яшчэ прыдацца.

Добра,
Што правялі ў сяле
Водаправод.

Але ўжо
З пустымі
Ці поўнымі вёдрамі
Ніхто на вуліцы
Не папярэдзіць,
Які цябе чакае дзень.

І рэдка калі заяц
Перабяжыць дарогу
І знак падасць:
Вяртайся лепш дамоў.

Паменела
Сарок-вяшчунняў.

І ўжо не ведаеш:
Чакаць ці не чакаць
Гасцей.

А як не стала
Бабкі Антаніны,

Хоць грамацеяў шмат,
Ніхто не ўмее, як яна,
Сон разгадаць,
Дакладна
Прадказаць надвор'е.

*1989*

## БАГРЫМ

У кузні крошынскай — гром, дым.
Куе ў ёй люстру-цуд Багрым,

Якая перад алтаром
Змрок будзе рассяваць святлом,

Каб лепш падслепаваты бог
Людскую крыўду бачыць мог.

Калі ж і пры святле яе
Не ўбачыць на яго спіне

Сляды шпіцруцін, ад якіх
І сёння аж займае дых,

Або гнеў не абрушыць свой
На царскіх катаў з іх ардой,

На прыгнятальнікаў-паноў,
Што здзекуюцца з мужыкоў,—

Тады Багрым аж да канца
Свайго праклятага жыцця

Сякеры толькі будзе куць,
Якія путы рассякуць.

І будзе песні зноў складаць
І клікаць волю здабываць...

У кузні крошынскай — гром, дым,
Вы чуеце? Куе Багрым!

*1989*

## ВОСЕННЮ

Разбойны перасвіст
Пранізлівых вятроў.
Ляціць апошні ліст
Шукаць сваіх сяброў.

— Чакай! — яму крычу.—
Мы разам паляцім.
Ды ён, знаць, не пачуў
За шумам ветравым.

І знік дзесь за сялом
У восеньскай імгле.
А разам нам было б
Ляцець шмат весялей.

*1989*

* * *

Хоць усе летуценнікі,
Усе утапісты, прапаведнікі
Гаварылі
Аб райскай будучыні,
Толькі ты, маці,
Прадбачыла, якой яна
Будзе нялёгкай.
І дзякуй табе,
Што ад самай калыскі
Ты нас
Да яе рыхтавала.

*1989*

## НАСТАЎНІК

На былым гумнішчы
Стаіць
Яшчэ бацькам пасаджаны
Дуб.

Не знаю,
Як мог выжыць ён,
Колькі раз яго
Гнулі вятры,
Сляпілі агнём бліскавіцы,
Секлі асколкі снарадаў,
Таптаді яму карані
Калёсы абозаў,
Падкутыя боты
Варожых салдат.

Я заўжды перад ім
Сваю шапку здымаю,
Бо з настаўнікаў,
Што зямлю гэту
Вучылі любіць,
Толькі ён у мяне
І застаўся.

*1989*

## Я ПОМНЮ

Я помню звычай старадаўні:
Калі каго ў сяле хавалі,
Таму любімыя прылады
Заўсёды ў дамавіну клалі.

Аратаму — яго сявеньку,
Стральцу — рог, што будзіў дубровы,
Музыку — бубен ці жалейку,
А кавалю — гвозд ці падкову.

Шаўцу — капыл ці скрутак дратвы,
А вінакуру — коўш з дубіцай,—
Каб не з пустымі ім рукамі
Перад святым Пятром з'явіцца.

Таму і мне ў час развітання
Пяро з грамніцай дайце, дзеці,
Каб напісаў я вам пра тое,
Што ўсіх чакае на тым свеце.

*1989*

* * *

Аджылі век даўнія прафесіі
Розных знахароў, варажбітоў,
Баламутаў бесталковых, песеннікаў,
Катрыншчыкаў і карчмароў.
Аднаго шкада, што назаўжды
Можа згінуць слава тамады,
Без якога, як без хлеба з соллю,
Не ўявіць сяброўскага застолля.
Можа, лепшыя з найлепшых тостаў,
Што хлуснёй сваёй жыцця не плямяць,
Не хаваць на забыцця пагостах,
А нашчадкам перадаць на памяць.
Як, напрыклад: «Каб сто год жылося!»
«Каб над намі ззяла шчасця зорка!»
«Каб звінелі песні і калоссе!»
«Каб нікому не было ў нас горка!..»

*1989*

* * *

Мог бы, здаецца,
І паганарыцца
Сваімі званнямі:
Ветэран,
Дзед,
Прадзед.
Горш толькі справы
Са здароўем.

Збіраўся ўжо не раз
Пад рэштай сваіх дзён
Падводзіць рысу.
Ды сёння стрэў
Былога аднаго
Высокага кіраўніка,
Які падбадзёрыў:
— І не думайце гэта рабіць!
Вы нам яшчэ патрэбны.

*1989*

## ПРАЦЯГЛАСЦЬ ДНЯ І НОЧЫ

Памыляюцца тыя,
Хто ўсё яшчэ верыць,
Быццам
Працягласць дня і ночы
Падпарадкуецца
Астранамічным разлікам.

І я так думаў,
Пакуль аднойчы не пачуў,
Як, вяртаючыся з поля,
Спявалі нашы дзяўчаты:
«А я дня укарачу
І да ночы прытачу...»

Божа!
Якія гэта былі дзяўчаты!
Кожная з іх
Не толькі магла
І дзень укараціць,
І ноч прадоўжыць,
Але і ашчасліваць
На ўсё жыццё.

*1989*

## ПАКУЛЬ ПЯЕ СЭРЦА

Аднойчы разважалі,
Колькі хто хацеў бы
Жыць на свеце.

Матылі —
Покуль цвітуць кветкі,
Птушкі —
Покуль іх носяць крылы,
Звяры —
Покуль іх кормяць ногі,
Дрэвы —
Покуль на сваіх плячах
Трымаюць неба.

— Ну, а ты? —
Спыталі ў мяне.
— Хіба пакуль
Пяе маё сэрца.

*1989*

## У ЗАВЕЮ

Прыйшла ты
У завею завеяй.
Дазволь жа
Снег паатрасаць
З грудзей тваіх,
З плеч,
          а з веек —
Пакуль не растаў —
Спалаваць.

*1989*

* * *

Помню, часта
Наша маці гаварыла:
«Калі хочаце дабра мне,
Мае дзеці,
Пажадайце,
                    каб па вас
Не галасіла
І, свой бабін век пражыўшы,
Лёгкай смерці».

Сёння сам перад апошнім
Небакраем
Яе словы сваім дзецям
Паўтараю.

*1989*

* * *

— Дзядуля,
Хто ў нас за мяне
Старэйшы?
— Ну, твае мама і тата.
— А хто старэйшы за іх?
— Мы з бабуляй.
— А хто самы, самы,
Самы старэйшы на свеце?
— Хіба, ўнучачка,
Хлеб і калыханка,
Што пяе твая мама:
«А-а, а-а, а-а...»

*1989*

## НАД АДКАЗАМІ МАЛЫХ

Неспадзявана
Трапілі ў рукі
Адказы малых
На анкету
Нейкага інстытута:
Каго лічыце старым?

Адзін адказаў:
— Таго, хто цэлы дзень
Сядзіць ля тэлевізара,
Не ходзіць на працу
І дзецям
Расказвае байкі.

Значыць,
Я яшчэ не стары,
Бо толькі ўнукам
Расказваю байкі.

Другі адказаў:
— Гэта такі чалавек,
Які шмат перажыў,
Усё умее рабіць
І вельмі разумны.

Значыць,
Я яшчэ не стары—
Усцешыўся,—
Бо хоць век пражыў,
А розуму не нажыў.

Толькі трэці
Мяне азадачыў:
— Свет,
У якім жыве стары,
Не існуе,
А ён — у ім жыве.

*1989*

* * *

Несціхана шуміце,
Веснавыя патокі,
Раскрывайцеся, далі,
Ў свет нязнаны, шырокі!

Не спыняйцеся, ногі,
На пад'ёмах і схілах,
Углядайцеся, вочы,
Ў новыя небасхілы!

Гэту простую песню
Склаў сабе я пад сонцам,
Каб было весялей мне,
Валацугу, ў вандроўцы.

У вандроўцы па свеце,
Па далінах, узгор'ях,
Па аблоках і марах,
Па далёкіх сузор'ях.

*1989*

## ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА

Калісьці ў хаце дзедавай,
Пад закапцелай ад лучыны
І ад сялянскіх бед
Аселай столлю,
Чырвоны кут
Святціўся абразамі.

З гадамі,
З выветрываннем веры
У паратунак боскі
Іх, помню, станавілася
Ўсё менш і менш.

Пасля вайны
Адзін абраз застаўся—
«Тайная вячэра».

Хацелі яго
Закінуць на гарышча
Разам з бёрдамі
І калаўротам,
Старымі звычаямі,
Песнямі—
Але пашкадавала маці,
Бо некаторыя з апосталаў,
Хоць і без аўтаматаў,
Нагадвалі
Партызанаў-маркаўцаў,
Якіх яна не раз
Вячэрай тайнай частавала.

Шкада вось толькі,
Што яе самой
На вобразе няма.

*1989*

## КОЖНЫ РАЗ...

Кожны раз,
Калі я ўчытваюся
У адзіны
Ацалелы
Верш-запавет
Багрыма,
Я ўсё больш пераконваюся,
Што ён не мог быць
Адзіным асколкам
Яго велізарнага,
Згаслага ў цемрадзі сонца.

І калі аб гэтым
Не помняць нашчадкі,
Трэба паслухаць,
Мо нешта прыгадаюць
Тыя вілы і сякеры,
Тыя косы і калы,
Якія ён узняў
Супроць няволі,

І дапрасіць пры сведках,
Пад прысягай
Бізуны, якімі яго секлі,
Путы, ў якіх быў закуты.
Агонь,
На якім
Спаняялі яго вершы.

*1989*

## КАРАБОК ЗАПАЛАК

У кожным карабку запалак—
З паўсотні ўспышак,
Якія, можа, азаралі
Ў дамашняй цішы
Ці безнадзейныя чаканні,
Ці стол рабочы,
Ці на спатканнях і расстаннях
Каханых вочы,
Ці грэлі некага цяпельцам
Парой бяссоннай...

О, колькі розных тэм са смеццем
Змёў дворнік сёння!

*1989*

## ЖУРАВЫ

За прадмесценскім трамваем
Журавы прыселі.
Я пайду і ў іх спытаю,
Адкуль прыляцелі.

Мо з маіх лугоў, далінаў—
Юнацкага краю,
Дзе адна мяне рабіна
Ля варот чакае.

На ёй зрэбная нажутка,
Як у маёй маці,
І такая ж чырвань-хустка,
Што аж светла ў хаце.

І яшчэ я ў іх спытаю:
Ці на той рабіне,
Як раней, зязюля ў маі
Кукуе няспынна?

*1989*

## ВЯСНОЙ

Пачынае зелянець.
І толькі ў адным
Зацемненым зацішшы
Зайцам-беляком
Спіць, сtуліўшыся,
Гурбачка снегу.

Мо разбудзіць,
Каб хто, дурненькага,
Не злавіў.

*1989*

## НА ДОСВІТКУ

На досвітку
Касцёр, переразіхацеўшы,
Перагарэўшы, засынае.
З начлегу час вяртацца.
— Ко-о-сю!

Ды як у восеньскай
Імгле паўночнай
Свайго Гнядога знойдзеш,
Хоць і чуваць
У чуйнай цішыні,

Як недзе скачуць
Спутаныя коні,
Як недзе хрумстаюць атаву.

— Ко-о-сю!
Доўга кружыш, як сляпы,
Пакуль на твары не пачуеш
Знаёмую аброшаную пысу
І фурканне:
— Ну, што галёкаеш!
Я ж — тут.

*1989*

## ТУТАКА

Тутака скрозь—
Такія стойкія камяні,
З якіх жорны
Сотні год перамалваюць
Зярняты цярпення і жыта
На хлеб.

Тутака такія жывучыя крыніцы,
Вада якіх гоіць раны,
Гасіць агонь і смагу.

Тутака такія дрэвы,
З якіх крыжы і калыскі,
Тапарышчы і зрубы хат
Пяюць.

А самае дзіўнае — людзі,
Стойкасці,
Жывучасці,
Пявучасці якіх
Зайздросцяць нават
Гэтыя камяні,
Крыніцы
І дрэвы.

*1989*

## ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

Гартаючы
Апаленыя і акрываўленыя
Старонкі гісторыі,
Часта думаю:
Знаць, не трэба было
Нам, так званым
І лірнікам, і песнярам,
Галёкаць на ўвесь свет
Аб непаўторным хараства
І незлічоных скарбах
Нашай зямлі.
Можа, не знала б яна
За свой век столькі прагнай,
Праклятай навалачы.

*1989*

## ВЕДАЕЦЕ, ЧАМУ

Ведаеце, чаму
Не спяшаючыся
І так павольна
Плыве наша рачулка
Вузлянка?

Яна, як усе жанчыны,
Любіць спыніцца
Ля кожнага мосціка,
Выгана, пасёлка
І паслухаць,
Аб чым балакаюць маладзіцы,
Палошчучы бялізну,
Белячы ручнікі,
Якімі сакрэтамі
Дзеляцца, купаючыся, дзяўчаты,
Пра што пяюць калёсы
На грэблі
І што пішчыць у траве,—

Каб потым, на перакаце,
Падзяліцца сваімі навінамі
З вербамі, буслами
І аблокамі.

Нават я часамі, слухаючы яе,
Забываю
На свой закінуты ў тоні
Паплавок сонца.

*1989*

## КАЛЯДА

Каляда! Каляда!
Лёдам сцятая вада.
Вышэй стрэх, аж да зор,
Снег узвіхрыў віхор.
На імшарыстым буі
Пераклік-выццё руі.
І блукае спалох
На расстаях дарог.

Ой ты, дзеванька, не стой
Ля варот такой парой,
Каб цябе снег не занёс,
Чараўнік які не звёз
У завейную даль.
Каляда! Каляда!

*1989*

## ЧАСАМ ДОЖДЖ

Часам дождж, часам снег курадыміць,
Ды і з прымаразкамі — не жарты.
І ўсё ж проблiскі руні азімай,
Бачыш, зноў прабіваюцца ўпарта.

Недзе заяц у хвоі зашыўся.
Частакол абсадзілі сарокі.
Самы час, покуль спяць мурашы ўсе,
Наталіцца бярозавым сокам.

П'ём. Хоць нешта ў ім горычы многа,
Мо не тая бяроза папала.
Мо не тое вядзерца, з якога
Ў маладосці мяне частавала.

*1989*

## У НОЧ НА ЯНА

Ой, знаці, знаці,
Хто ў ноч на Яна
Папараць-кветку
Шукаў да рана.

Тая дзяўчына
Калоссем жыта
Зацалавана,
Расой абмыта.

Ой, знаці, знаці,
Хто ў ноч на Яна
Скакаў праз вогнішча
Аж да рана.

У той дзяўчыны
Агонь кахання
Пераліваецца
Ў сэрцы ззяннем.

Ой, знаці, знаці,
Хто ў ноч на Яна
Пускаў вянок свой
Па хвалях рана.

У той дзяўчыны
Не за гарамі
Госці з вясельнымі
Скрыпачамі.

*1989*

## ЛІСТАПАДАМ

Нарэшце — ты! Што добрага чуваць?
Які сягоння лістапад барвовы?
Не знаю, чым цябе пачаставаць.
Купіла, бачу, парасонік новы.

І днём, і ноччу нервы штосьці гудуць.
Такая ў свеце мітусня наўкола!
Няма ратунку ад трывожных дум.
Не захапіла часам валідолу?

Дождж радыеактыўны зачасціў—
Як ад яго планеце ратавацца?
А не магла б даўжэй ты пагасціць,
Бо сам з сабой баюся заставацца.

Баюся, што ўспамін вайны агнём
Мяне апаліць зноў і дзесь на пожні
Загрукаціць забытай міны гром.
І гэта стрэча будзе ў нас апошняй.

*1989*

## МАЛІТВА ЗА СТАРЫХ КОНЕЙ

Павялі старых коней на бойню,
Што са мной адслужылі ўсе войны,

І аралі, і баранавалі,
І бярвенне на зруб тралявалі,

І вазілі на карах, развалах,
Тых, каго адпачыць зямля звала.

Што з таго, што ёсць новая змена.
Чую водар іх поту і сена.

І з дакорам глядзяць сярод ночы
Ў маё сэрца іх сумныя вочы.

І шапчу я малітву: «Дай, божа,
Каб хоць ім у цябе было гожа,

Залячы іх старэчыя ногі,
Пакалечаныя на дарогах.

Памажы ім забыць назаўсёды
Перажытыя з намі нягоды».

*1989*

## САЛДАЦКІ РАНЕЦ

Нахлусіў жа нейкі чорт,
Што кожны салдат
У сваім ранцы носіць
Жазло маршала.

А мы пасля бою,
Калі дрыготкімі,
Заскарузлымі пальцамі
Развязвалі свае ранцы,
Больш за ўсё шукалі:
Хто жменьку махоркі,
Хто скарынку хлеба,
Хто зачытанае пісьмо з дому—
Працяг свайго жыцця.

*1989*

## ПАЎНОЧНАЯ САГА

— Памажы мне, прамудры Шаман,
Зноў вярнуць супакой,
Без яго не жыць мне на свеце.

— На пяску прыбярэжным
Напішы імя той,
Што тваё загарпуніла сэрца,
І ўсе беды твае
Змые хваляў прыбой.

— А не змые?

— Ты зноў напішы.
А не змые — ты зноў напішы.

— Ты смяешься, Шаман!
І дакуль гэта мне паўтараць?

— Знаць,
Пакуль будзе дыхаць з табой
Акіян.

*1989*

## У ЗАЦІШНАЕ РАННЕ

Лесе мой пількаўскі, лесе!
Што расшумеўся ты сёння,
Быццам паведаміць нешта
Мне надзвычайнае хочаш.
Бачу па пнях, бураломах,
Вываратнях і асмалках,
Шмат і табе давялося
Тут на вяку сваім зведаць.
Толькі дамовімся, дружа,
Каб па чарзе — і не хорам —
Кожнае дрэва са мною
Думкай магло падзяліцца.
Дык як наладзіш бяседу,
Калі тут кожнаму руціць
Нешта сказаць, пасля столькіх
Нашых сустрэч, расставанняў.
І шум стаіць, як калісьці
У сваткаўскай даўняй карчомцы,
Дзе адначасна ўсе пелі
Ці на жыццё наракалі.
Чуючы нашу бяседу,
Кожны здзівіцца, напэўна:
Як гэта можа шумець так
Лес у зацішнае ранне?

*1989*

* * *

Вецер.
Пранізлівы вецер
Злосна ў мае грудзі б'ецца,
Рве і шматае кашулю,
Глушыць мяне сваім гулам,
Кідае золкасцю ў вочы.
Збіць з ног, спыніць мяне хоча
Толькі і толькі за тое,
Што іду супроць яго я
І не ляту ўслед ніколі
Нейкім перакаці-полем.

*1989*

* * *

Некалі нейкі гісторык,
Філосаф,
Развважаючы аб чалавечых
Недахопах,
Успомніўшы пра слабасць
Пяты Ахілеса,
Пра няўтольную прагнасць
Мідаса да золата,
Пра цягу Калумба
Да вар'яцкіх вандровак,
Пра захапленне Каперніка
Ззяннем зор,—
Напэўна,
Не абміне сказаць
І пра мой недахоп—
Пісанне вершаў.

*1989*

## ПРОСЬБА АБ ДАРАВАННІ

Калі Чарнобыль успрынялі як агульную бяду... паўтарэнне якой будзе крушэннем веры, стратай надзеі на тое, што ў нас ёсць будучыня.

*М. Савіцкі*

Амаль кожнага
Ў апошнюю дарогу
Праводзяць
Няўцешныя сваякі,
Зажураныя сябры,
Спачувальныя суседзі.

У залежнасці
Ад рангу памершага
З ім развітваюцца
То са слязамі,
То з прамовамі,
То з салютам,
Нават калі
Хавалі Камара,
Які, зваліўшыся з дуба,
Забіўся.
На паніхідзе лясны хор
Спяваў рэквіем:
«Ой, у лесе, ў гушчары...»

А вось
Калі хавалі
Забітую Чарнобылем Зямлю,
Былі толькі далакопы,
Бульдозеры
І вянкі з калючага дроту,
Якія ўсклалі моўчкі
На магільны камень
З надпісам:
«Небяспечная зона».
Каб не прыйшоў хто
І на радаўніцу
Запаліць свечку,

Памаліцца за пакутніцу,
Птушыную асірацелую сям'ю
Пачаставаць.

Даруй нам, грэшным
І неразумным,
Маці!

*1989*

* * *

Калі апаў першы ліст на зямлю,
Я падумаў: сарваў яго вецер.

Калі апаў другі ліст на маю далонь,
Я падумаў: мо захацеў пагрэцца.

Калі ж апаў трэці ліст на сэрца,
Я зразумеў: набліжаецца восень.

*1989*

* * *

Ты кажаш, не помніш, якой
Была ў маладосці сваёй.

Магу прыгадаць, што была
Ў жыцці маім промнем святла.

Была найдзіўнейшаю з яў,
Калі я цябе мілаваў,

І найпрыгажэйшай з усіх
У шчаснай чароўнасці міг

Калі над калыскай твой спеў
Парой вечаровай гучэў.

*1989*

## НА ДЗЯДЫ

Перад дзесятай стравай раптам
Нясуць яшчэ гароху латку,
Каб камары парою летняй
Не дакучалі нам, падлеткам.
І мы даўжэй за ўсіх, пад поўнач,
Ім частаваліся.
                    Ты помніш,
Пакуль на дне гарачай латцы
Не абняліся нашы пальцы
І цябе маці не пазвала,
Каб спаць ішла — пара настала.
Пара,
Бо ўжо ў паўночны шэрань
Дзяды прыходзілі вячэраць.

На вуліцы сабакі брэшуць,
І нехта шашкае ў падстрэшшы,
Нібыта снег з ног абівае.
Прымай іх, матухна святая,
Не крыўдзяцца хай, небаракі,
На нашы сціплыя прысмакі...
У светачы лучына тлее.
Ноч. За акном шуміць завея.

*1989*

* * *

Калі там нейкі Бельзебуб
Пачне, раскрыўшы свой гросбух,
Шукаць мне адпаведнай кары
За ўсе мае грахі і мары,
За ўсе вар'яцкія надзеі,—
Скажу:
                    — Шукаеш ты дарма.
Ў цябе такіх пакут няма,
Якімі б не караў сябе я.
Што твой смуродлівы агонь!

Глядзі!
Яшчэ я да яго
У сэрцы перуны насіў,
І покуль стану зноў зямлёй,
Я песняй роднаю сваёй
Дашчэнту вусны спапяліў.

*1989*

## ХАДЗІЛА МАЯ БАБКА

Хадзіла мая бабка
Па светлых мясцінах,
Прасіла ў бога хлеба,
Прыплоду скаціне,
Шчасця і здароўя
Неразумным дзецям,
Згараваным людцам
На ўсім белым свеце.
Знаць, ёй сёе-тое
Выпрасіць ўдалося.
А пра што забыла—
Так і засталося.
Так і засталося
Ў забыцці суровым,
Як крыж на пагосце
Ці як наша мова,
А пайсці прасіць зноў
Грэшнікам убогім—
З нас ніхто не знае
Бабінай дарогі.

*1989*

## ЧАС

Нарэшце завітаў да нас
Чаканага вяртання час.

Вяртання з зім — вясны вятроў,
З блукання — выраі дамоў,

З маўчання — мовы да нямых,
З выгнання — праўды да жывых,

З нябачнасці — да віднаты
З пякельных брам — ахвяр святых.

Прымі ж хлеб-соль з маёй рукі,
Час, блаславёны на вякі.

*1989*

* * *

Каб лягчэй было ў дарозе,
Трэба на ўсіх указальніках
Замест кіламетраў
Напісаць:
«Ідзіце!
Не аглядайцеся,
Бо жыццё яшчэ—
Перад вамі».

*1989*

# ЗМЕСТ

## З КНІГІ «КАБ ВЕДАЛІ», 1948 г.



## З КНІГІ «НА КАМНІ, ЖАЛЕЗЕ І ЗОЛАЦЕ», 1951 г.



## З КНІГІ «У ДАРОЗЕ», 1954 г.



## З КНІГІ «СЛЕД БЛІСКАВІЦЫ», 1957 г.

## З КНІГІ «МОЙ ХЛЕБ НАДЗЁННЫ», 1962 г.



## З КНІГІ «ГЛЫТОК ВАДЫ», 1964 г.

## З КНІГІ «ПЕРАПІСКА З ЗЯМЛЁЙ», 1964 г.



## З КНІГІ «ХАЙ БУДЗЕ СВЯТЛО», 1972 г.

## З КНІГІ «ДАРОГА, ЗАКАЛЫХАНАЯ ЖЫТАМ», 1976 г.

## З КНІГІ «ПРАЙСЦІ ПРАЗ ВЕРНАСЦЬ», 1979 г.



## З КНІГІ «ЗА МАІМ СТАЛОМ», 1984 г.

З КНІГІ «ЗБОР КАЛОССЯ», 1989 г.

**Танк М.**

**Т 18** **Выбранае: Вершы/Прадм. В. Зуёнка; — Мн.: Маст. літ., 1993.— 335 с.**

ISBN 5-340-01055-4.

**Вершы народнага паэта Беларусі Героя Сацыялістычнай Працы, лаўрэата Ленінскай прэміі Максіма Танка здзіўляюць багаццем тэм, вобразаў, разнастайнасцю мастацкіх форм, імкненнем ахапіць усю складанасць жыцця. Паэт заўсёды жыве ў самай гушчы падзей, шырока бачыць свет, піша пра тое, што больш хвалюе нашага сучасніка.**

**4702120202—009**

**Т———————115—92** **ББК 84 Бел 7**

**М 302(03) — 93**

**Літаратурна-мастацкае выданне**

**ТАНК МАКСІМ**

**(Яўген Іванавіч Скурко)**

**Выбранае**

**Вершы**

**Рэдактар Г. В. Роліч. Мастак М. Р. Казлоў. Мастацкі рэдактар В. А. Губараў. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар І. М. Паланейчык.**

**ІБ № 3806**

**Здадзена ў набор 13.05.92. Падп. да друку 08.12.92. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Афс. друк. Ум. друк. арк. 17,64. Ум. фарб. адб. 17,64. Ул.-выд. арк. 15,20. Тыраж 6000 экз. Зак. 2143. Цана 40 р.**

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.**

**Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.**